ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

21 сакавіка 1997 г. № 12/3888 Кошт 3 000 руб.






*Сёлетні сакавік брыняе й пырскае сокам... тэатральным. Ці не на кожны сакавіцкі дзень прыпадае па падзеі: па прэм'еры, па фестывалі, па абвяшчэнні конкурсу драматургаў, нарэшце, 27 сакавіка — Міжнародны дзень тэатра. Кроплі й вадаспады акцёрскіх адкрыццяў збіраюцца ў ручаіны і рэкі, тыя сілкуюць пайнаводдзе фестывальных плыняў, імкнуцца у самае мастацкае мора... Сёлетнія сакавіцкія караблікі пад назовамі "Юбілей Саюза тэатральных дзеячаў" і "З'езд Саюза тэатральных дзеячаў" ужо падхопленыя хвалямі й плынямі, — як выпрастуюць, вывеслуюць, якія аблокі аббесцяць ім пра блізкі бераг? Лімаўскія пажаданні "шчаслівага плавання" — на нашых сённяшніх старонках.*

*Калаж Г. Жынкова.*

## КОЛА ДЗЁН

**Яшчэ 10—15 гадоў таму жыццё нашае цякло так размерана і спакойна, што гістарычнымі называліся толькі чарговыя з'езды кіруючай партыі. Іншых "лёсавырашальных" падзей, вартых застацца ў гісторыі, не было... Цяпер жа — зусім інакш. Будучым гісторыкам разабрацца ў нашым сённяшнім імклівым часе будзе неймаверна цяжка. Бо кожны тыдзень прыносіць падзеі, якія не згубяцца ў шэрагу іншых, а будуць дапаўняць, удакладняць, выцлумачваць адна адну. Ну а мінулы тыдзень (запомнім яго) можа наогул стаць паваротным (прабачце за смеласць) у навейшай гісторыі Беларусі. Менавіта ў гэтыя дні былі канчаткова развеяныя ўсе ілюзіі, і нават тыя, хто яшчэ меў нейкую надзею, павінны пакінуць яе ва ўчора. Сумненняў у тым "хто ёсць хто" — не засталося.**

### СХОД ТЫДНЯ

У мінулыя выхадныя ў сталіцу Беларусі з'ехалася каля 500 дэлегатаў з рэспублік былога СССР (а ўсяго — 1200) на трэці кангрэс народаў СССР. Першыя два кангрэсы адбыліся ў Маскве. Расію на кангрэсе прадстаўлялі выключна апазіцыйныя сённяшнім уладам палітыкі — Зюганаў, Анпілаў, Лігачоў, Шэнін, Варэнікаў, Цераxаў... Беларусь, наадварот, тыя, хто сёння пры ўладзе — А. Малафееў, С. Посахаў, В. Чыкін... Прэзідэнт Беларусі ў першы дзень прывітаў зваротам удзельнікаў кангрэса, а ў другі — "знайшоў час", каб выступіць перад імі з, можна сказаць, праграмным дакладам, пасля якога ні ў кога не засталося сумненняў, што "менавіта Прэзідэнт Беларусі здольны стаць па-сапраўднаму дастойным лідэрам аб'яднаўчага працэсу" *("ЗЮ")*.

### ПАРАЛЕЛІ ТЫДНЯ

14 сакавіка ўвечары ў Палацы чыгуначнікаў у Мінску адбылося ўрачыстае пасяджэнне, прысвечанае вялікаму дзяржаўнаму святу — Дню Канстытуцыі. Прэзідэнт Беларусі ўдзел у ім не прыняў па невядомых прычынах: ён не быў ні ў ад'ездзе, ні ў адпачынку. Затое ў нядзелю, 16 сакавіка, на трэцім кангрэсе народаў СССР выступіў...

### СВЯТКАВАННЕ ТЫДНЯ

Каля 15 тысяч мінчукоў прынялі ўдзел у шэсці і мітынгу з нагоды Дня Канстытуцыі. На чале калоны, што прайшла ад пляца Якуба Коласа да Палаца спорту, былі тры былыя спікеры папярэдніх беларускіх парламентаў С. Шушкевіч, М. Грыб, С. Шарэцкі, а таксама Г. Карпенка, С. Багданкевіч, В. Новікаў, А. Баршчэўскі, Ю. Захаранка, А. Лябедзька і іншыя вядомыя палітыкі. Ці не ўпершыню ў адной калоне пад бел-чырвона-белымі сцягамі ішлі бэнээфаўцы, сацыял-дэмакраты, камуністы...

### НАЗІРАННЕ ТЫДНЯ

На 14 сакавіка моладзь беларускай сталіцы запланавала правядзенне акцыі пад назовам "Беларусь у Еўропу-2". Мінгарвыканкам забараніў правядзенне акцыі, і таму хвілін за трыццаць да пачатку яе міліцыя распачала арышты маладых людзей, што збіраліся на пляцы Волі. Па некаторых звестках, у гэты вечар у Мінску было арыштавана больш за 100 чалавек... Беларускія ўлады, мяркуючы па ўсім, намерыліся паўтарыць "памылку" ўладаў царскай Расіі, якія ў свой час рэпрэсіямі супраць студэнцкіх хваляванняў — арыштамі і ссылкамі лідэраў — выгадавалі ў Расіі сотні прафесійных рэвалюцыянераў, якія і сталі потым "магільшчыкамі" таго ладу...

### ЗРЭЗ ТЫДНЯ

Апазіцыя сцвярджае, што "Мінская вясна-97" — пачалася. І пачалася з больш масавых выступленняў, чым летась, чаго, пэўна, не чакалі ўлады. Таму і быў прыняты з некаторым спазненнем прэзідэнцкі дэкрэт N 5, таму і правяла міліцыя рэйды-праверкі штаб-кватэр АГП, Грамады, БНФ, таму і былі зроблены пасля апошніх акцый апазіцыі масавыя арышты, у тым ліку і журналістаў, таму і былі затрыманы перад 15 сакавіка Ю. Хадыка і А. Лябедзька, а пасля 15 сакавіка кватэры практычна ўсіх лідэраў апазіцыі наведалі міліцыянеры і некаторых з іх адканваіравалі да аддзелаў міліцыі... Усё гэта дало падставы гаварыць пра парушэнне правоў чалавека на Беларусі, пра пачатак масавых рэпрэсій, пра спробы запалохаць апазіцыю... Але ж "Вясна..." толькі пачынаецца: наступную сваю акцыю апазіцыя прызначыла на 23 сакавіка, з мэтай адзначыць 79-я ўгодкі ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

### СКАНДАЛ ТЫДНЯ

16 сакавіка пры вяртанні на Беларусь з замежнай камандзіроўкі ў мінскім аэрапорце быў затрыманы выканаўчы дырэктар Беларускага фонду Сораса Пітэр Берн. Суткі знаходзіўся П. Берн у аэрапорце практычна без ніякай сувязі са знешнім светам, а потым быў высланы з тэрыторыі Беларусі. Афіцыйна абвешчанай прычынай гэтага стала нібыта "дзейнасць П. Берна, не сумяшчальная са статусам яго знаходжання ў краіне як грамадзяніна замежнай дзяржавы", а калі дакладней — удзел у несанкцыянаваных мітынгах, фінансавая дапамога апазіцыйным сілам і г.д. Ці варта казаць, што прэтэнзіі па меншай меры надуманыя, што пераканаўча даказана ў заявах каардынацыйнай Рады БФС і Дзяржпдэпартамента ЗША.

### ПРЫЗНАЧЭННЕ ТЫДНЯ

Гэтым разам пра справы не беларускія, а суседскія, якія, тым не менш, закранаюць і нас: прэзідэнт Расіі Б. Ельцын працягвае фарміраваць новы ўрад, які ўжо займеў назву "ельцынскі". Яшчэ адным першым намеснікам прэм'ер-міністра (пасля А. Чубайса) прызначаны губернатар Ніжняга Ноўгарада Барыс Нямцоў, — малады, але аўтарытэтны гаспадарнік і палітык, якога ўжо называюць пераемнікам Б. Ельцына. Такім чынам Б. Ельцын яшчэ раз пацвердзіў цвёрдасць свайго курсу на рэфармаванне расійскай эканомікі ў бок пашырэння рынкавых адносін і паказаў напярэдадні 2 красавіка, што Расія пакуль не збіраецца падладжваць сваю эканоміку пад беларускую.

### ПРЫЗНАННЕ ТЫДНЯ

Напачатку цытата: "Анализируя положение на вверенной нам территории, приходишь к поразительному выводу — сегодня главную опасность для всех нас и для власти представляют не воинственно-радикальные элементы, разного рода позняки-наумчики, виршеплеты-адамовичи, провокаторы типа отставного моряка и прочие, прочие в любой момент готовые изображать из себя что-то вроде боевиков-робингудов, а обычные премудрые пескари, невидимые жуки-короеды, проточившие и разрушившие уже не одну государственность..." Цытата гэтая — пачатак артыкула "Впереди — крутой поворот", надрукаванага ў "Народнай газеце" 18 сакавіка. У дадзеным выпадку не істотна, хто гэтыя "пескари" і "жуки", і не важна, якія высновы робіць аўтар у працэсе свайго "аналізу". Важна вось гэтае прызнанне: "анализируя положение **на вверенной нам территории...**" Тэрыторыя — Беларусь, а "вверена" яна — журналісту Я. Росцікаву, кім, каму яшчэ і з якой мэтай яна "вверена" (заўважце, гэта "мы" — "нам", "нас") — спадзяёмся прачытаць у наступных артыкулах.

---

ВЫСТАВЫ

# "Беларуская кніга-96"

Традыцыйнымі сталі штогадовыя справаздачы выдавецтваў аб рабоце за год. Пацвярджэнне таму — і выстава "Беларуская кніга-96", што прайшла ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Мінулы год, нягледзячы на цяжкасці, даў значныя вынікі. У прыватнасці, выпускам літаратуры ў рэспубліцы, акрамя дзяржаўных выдавецтваў, займаліся больш за 100 розных арганізацый, а таксама міністэрствы і ведамствы, а ў выніку пабачылі свет 3809 назваў кніг і брашур агульным тыражом 59,1 мільёна экземпляраў. Тым самым у пераліку на аднаго жыхара атрымліваецца амаль па 6 кніг і брашур.

Дзяржаўныя выдавецтвы асноўную ўвагу ўдзялялі выпуску сацыяльна-значнай літаратуры, а гэта, як вядома, дзіцячая, навукова-папулярная, краязнаўчая. Паспяхова выпускаецца серыя "Школьная бібліятэка". Летась з 77 запланаваных у ёй кніг выйшла 72. Гэта тым больш радасна, што выпуск "ШБ" было ледзь не спыніўся. А ўсяго юныя чытачы атрымалі за год ажно 512 назваў кніг. Праўда, з іх толькі 73 выйшлі на беларускай мове.

У рамках выставы праходзілі справаздачы асобных выдавецтваў. "Юнацтва", для прыкладу, прэзентавала новую кнігу народнага пісьменніка Беларусі І. Шамякіна "Вялікая княгіня". У час гэтага мерапрыемства галоўны рэдактар "Юнацтва" М. Пазнякоў расказаў пра справы калектыву. Дырэктар выдавецтва В. Лукша, рэдактар кнігі У. Марук гаварылі пра творчасць І. Шамякіна і, у прыватнасці, пра яго новыя творы. Цёпла сустрэты наведвальнікамі выставы выступіў сам Іван Пятровіч.



*Фота Г. СЯМЁНАВА, БЕЛТА*

---

ІМПРЭЗЫ

# І досвед іншых краін...

Восенню мінулага года на базе Універсітэта культуры адбылася навукова-практычная канферэнцыя, прысвечаная дзейнасці недзяржаўных выдавецтваў. Гэтая першая спроба аб'яднання выдаўцоў, бібліятэкараў і гандляроў знайшла падтрымку ў выглядзе Міжнароднага семінара па лініі Беларускага фонду Сораса з назвай "Кнігавыданне і кнігараспаўсюджванне: Беларусь, Вялікабрытанія і досвед іншых краін". Па словах каардынатара фонду А. Анціпенкі, задума семінара ўзнікла з тых праблем, што паўсталі перад выдавецкім аддзелам БФС. На жаль, 16 назваў кніг з серыі "Адкрытае грамадства" (сацыяльныя навукі) пры досыць нязначных тыражах і цэнах разыходзяцца марудна.

Чаму ж у Беларусі цяжка выдаць і прадаць беларускамоўную навуковую кнігу? Пра гэта і разважалі ўдзельнікі семінара — прадстаўнікі дзяржаўных і незалежных выдавецтваў, гандлёвых арганізацый (у тым ліку абласных), бібліятэк. Не зацікавіліся гаворкай толькі тыя, каму ў першую чаргу павінна балець галава за кнігавыдавецкую справу Беларусі: нікога не прыслала "Белкніга" (яна ўсё менш адпавядае сваёй назве), абыякавасць праявілі і "лянівыя" нашы, па атэстацыі пісьменніка і выдаўца А. Патупы, міністэрствы.

А між тым у адказных асоб Дзяржкамдруку і іншых устаноў існавала рэальная магчымасць пашырыць веды і ўзбагаціцца замежным вопытам. Бо пра сістэму кнігавыдання і кнігараспаўсюджвання Вялікабрытаніі распавёў кансультант па пытаннях развіцця кніжнага бізнесу Рычард Хілер. Там няма, як мы даведаліся, дзяржаўных выдавецтваў, друкарняў і крам. Дзяржпадтрымка тычыцца адно кніг на мове меншасцяў, паэзіі і прадстаўніцтва на міжнародных кніжных кірмашах.

У Вялікабрытаніі 25 тысяч выдаўцоў, з якіх 7 тысяч займаюцца гэтай справай стабільна. Кампаніі самі вызначаюць, якія кніжкі выдаваць, для якога рынку і ў якой колькасці, як размяркоўваць рэсурсы, якія скідкі прадстаўляць крамам. Буйныя фірмы самі, акрамя таго, рэкламуюць і распаўсюджваюць прадукцыю, меншыя маюць партнёраў па маркетынгу або друку. Усе выдавецтвы строга спецыялізаваныя (масавая, навуковая, вучэбная, рэлігійная, дзіцячая літаратура). Прычым найбольшы прыбытак дае якраз сур'ёзная, навуковая кніга.

Распаўсюджваюць кніжную прадукцыю 6 транснацыянальных карпарацый (у кожнай працуе па 2 тысячы чалавек), сярэдняга маштабу акцыянерныя таварыствы і невялікія кампаніі — як правіла, члены адной сям'і. Продаж адбываецца цераз спецыялізаваныя кнігарні, оптавых гандляроў, кніжныя клубы, непасрэдна ў арганізацыі і прадпрыемствы, напрамую пакупнікам, чаму служыць узмоцненая рэклама — узоры прадукцыі, выставы, стэнды, буклеты, каталогі. Цікава, што звычайна ўвесь тыраж прадаецца яшчэ да таго, як надрукаваны.

Паводле даследаванняў, кожная брытанская сям'я траціць на кнігі 4,3 працэнта сямейнага бюджэту.

Спецыялізаваныя крамы ў Лондане больш нагадваюць клубы па інтарэсах ці культурныя цэнтры. У іх можна папіць кавы, сустрэцца з сябрамі, пагартаць літаратуру, якая выйшла раней.

Кожны рэдактар нясе адказнасць за выхад той ці іншай кніжкі, падлічваецца доля прыбытку ад працы кожнага з іх. У кожнага выдавецтва сваё кола аўтараў. Цяжкавата, як мы зразумелі, выдацца адно ўпершыню: на невядомым імені ёсць рызыка прагарэць. З мэтай заахвочвання і пошуку новых аўтараў праводзяцца конкурсы на лепшы твор, яны вельмі папулярныя сярод студэнтаў. Лепшыя рукапісы друкуюцца.

Рычард Хілер як спецыяліст па кніжным бізнесе і маркетынгу мае багаты вопыт распаўсюджвання кніг ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе. На румынскім праекце на другі дзень семінара ён спыніўся асобна. Праўда, вострыязыкія журналісты спрабавалі жартаваць, што Беларусь — краіна ва ўсіх адносінах унікальная, і нам ні далёкая Вялікабрытанія, ні блізкая Румынія не дапамогуць...

Не да жартаў было, мабыць, толькі выдаўцам. Адсутнасць першасных інвестыцый, непамерны падаткавы прэс, нізкая пакупніцкая здольнасць насельніцтва, цяжкасці са збытам з-за развалу ў сістэме аптовага гандлю — усё гэта вядзе да згортвання выдавецкай дзейнасці. З лічбы 1400 (столькі зарэгістравана афіцыйна) актыўна працуе недзе 30 выдавецтваў (з іх 10 — дзяржаўных), астатнія ж — "мёртвыя душы".

Так што само жыццё вымушае выдаўцоў гуртавацца. Прадстаўнікі сямі выдавецтваў і адной друкарні аб'ядналіся ў Асацыяцыю беларускіх кнігароў. І першае, што зроблена, — створана агульная сістэма распаўсюджвання кніг.

Характэрна, што акулы кніжнага бізнесу, якія на 90 працэнтаў загружаюць магутнасці Дома друку, не маюць падобных праблем. Ім непатрэбны ні дыскусіі, ні тым больш рэклама. На іх працуюць цэлыя аўтарскія брыгады, і мо палова сучасных дэтэктываў і іншых узораў масавай літаратуры выходзіць пад міфічнымі імёнамі.

Ад імя навукоўцаў слова браў дырэктар "Еўрафоруму" І. Бабкоў. Ён адзначыў, што старая наменклатурная сістэма разбурылася — разам з "Навукай і тэхнікай" ды спецыялізаванымі крамамі, а новая яшчэ не створана. Мае месца крызіс сур'ёзнай кнігі — такой была яго выснова. Сітуацыя абвастраецца тым, што з-за эканамічных цяжкасцей пераарыентаваліся на масавую літаратуру і дзяржаўныя выдавецтвы.

У рамках семінара адбылася прэзентацыя кніг, выдадзеных з фундацыі Беларускага фонду Сораса. Яго выдавецкі аддзел, як той Сізіф, коціць і коціць пад гару непад'ёмны камень, які павінен легчы ў падмурак заўтрашняй інтэлектуальнай Беларусі. Бо галоўнае наша багацце, як было падкрэслена адным з удзельнікаў мерапрыемства, — гэта культура.

Адбылося таксама ўрачыстае адкрыццё кнігарні НВК "Тэхналогія", што месціцца ў Акадэміі мастацтваў. З гэтай нагоды слова сказаў рэктар В. Шарангові, а першай кнігай, купленай у новай кнігарні, стаў праваслаўны малітоўнік.

**Наш кар.**

---

# Дні Ізраіля ў Мінску

Мерапрыемствы, звязаныя з Днямі Ізраіля, якія праводзяць у Палацы культуры прафсаюзаў Пасольства дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь і Ізраільскі культурна-інфармацыйны цэнтр — яшчэ адна мажлівасць лепш пазнаёміцца з гэтай краінай, яе народам, традыцыямі, эканомікай, багатай культурай... Адкрыццё Дзён адбылося 19 сакавіка, а ўчора прайшоў прагляд мастацкага фільма "Кава з лімонам", знятым у Ізраілі, і сустрэча з рэжысёрам-пастаноўшчыкам стужкі Леанідам Гараўцом.

На заўтра запланавана карнавал-дыскатэка для моладзі, якая праходзіць напярэдадні свята Пурым, а значыць абяцае вясёлае, радаснае відовішча. У праграме Дзён — конкурс дзіцячых музычных і танцавальных калектываў, вечар ізраільскай літаратуры, у якім прымуць удзел паверены ў справах Дзяржавы Ізраіль на Беларусі, перакладчык Зееў Бен-Ар'е і паэт Аляксандр Вернік; сустрэча з ізраільскімі бізнесменамі, знаёмства з прадукцыяй Ізраіля, а завершацца Дні ў наступную сераду дэманстрацыяй мадэляў купальнікаў фірмы Готэкс — заканадаўцы моды ў свеце пляжнага адзення.

ФЭСТЫВАЛІ

# "Усё-ткі мы любім адно аднаго"

## НАТАТКІ ПУНКЦІРАМ ПРА ПЕРШЫ ТЭАТРАЛЬНЫ ФЭСТ ГОДА

***Ён і Яна — Яны. Яны — разам. Разам, неверагодным намаганнем волі або кахання, скідаюць з сябе здранцвенне, зацятасць, звыкласць. Згадваюць, не, пакуль яшчэ намагаюцца згадаць штосьці вызначальна важнае, тое, што Яе і Яго рабіла — Імі... У вонкавую легкадумнасць "вечаровага кактэйлю на адну дзею" (чым не жанр спектакля?) пад назовам "Крывавая Мэры" намяшаліся і сур'ёз, і шчымлівасць, і раптоўная вастрыня старога пачуцця. Спектакль купалаўскага тэатра, бадай, утварыў вобраз і высветліў сэнс веснавога фестывальнага кактэйлю пад назовам "Маладзечанская сакавіца". Спатканні тэатральных "зорак", досвед камерных спектакляў, калегаванне, грамадаванне, адчуванне мастакоўскіх ды мастацкіх вартасцяў — чым не скіданне здранцвення, зацятасці, звыкласці? Раптоўная вастрыня старога пачуцця...***



*Зоя Белахвосцік (Мэры) і Аляксандр Гарцуеў (Аўтар).*



*Аляксандр Гарцуеў (Аўтар).*

"Балтыйскія тэатральныя вёсны", з якімі было знітавана ды спраўджана столькі супольных і нацыянальных надзей, адышлі ўслед за "палітычнай сітуацыяй". Падрахоўваючы іх, адзін з самых адметных стваральнікаў ды захавальнікаў балтыйска-беларускай супольнасці эстонскі крытык Барыс Тух казаў пра несумненную, заўсёдную ўдаласць колішніх творчых спатканняў, пра вартую мастацкасць, якую абыходзілі непаразуменні з прызамі ды абавязковыя выкіды адрэналіну ў самую фестывальную кроў. Нават самыя няўдалыя, самыя спалітызаваныя тэатральныя прапановы дабіралі вартасці на глядацкіх вачах. Плён "...Вёснаў" відавочны і сёння. Панавала мастацкасць. Яе, адвечную, уціскала тагачасная палітыка, але апошняе слова заўсёды заставалася за першаю. "Мы тады яшчэ любілі адно аднаго", — апошняя веснавая краска крытыка ўплёталася ў вянок "...Вёснам" — на адыход. На беззваротнасць супольных спадзяванняў і нават нацыянальных надзей.

Тэатральныя фэсты Польшчы, Расіі і нават Шатландыі вокамгненна ды ўпэўнена "адцягнулі" сабе па кавалку былой агульнатутэйшай мастацкай прасторы. Беларусь пакінулі ў геаграфічным цэнтры, мусіць, каб зазнала ўсе цуды культурнай экспансіі. Наступ несамавітасці, другаснасці, мізэрных ідэй і мітуслівых увасабленняў. Смак еўрапейскае кавы, якая ў Еўропе ўпарта не расце. Каб здранцвець, адчуць стомленасць і адлегласць ад марскіх узбярэжжаў...

...Там, у спектаклі-кактэйлі, Ён выцягваў Яе з марскіх хваляў, клаў на пясок і Яна, ачуняўшы, шаптала Яму... "Майн лібэр фюрэр", — толькі і маглі ўспомніць яны. Разам. Марскі пясок, бераг, сонца, абвостранасць пачуццяў, віяланчэльны гук і стук машынкі, звычайнай, аўтаравай, якая натавала ўсё вышэйпералічанае і ўсё стукала, каб, перапрашаю, дастукацца (агульнае месца ўсіх нашых інтэрв'ю — дастукацца то да гледача, то да акцёра, то да здранцвення мастакоўскага)... Аўтар збірае свой твор, як збірае багата хто з сучаснікаў — канструяваў, перакладаў аркушы, выкрыкваў рэплікі. Ён і Яна вялі сваё дзеянне: то парою маладою і прыгожаю, у светлых строях і марскіх мроях, то парою сталых і скурчаных, у цёмных апранахах і нечалавечых высілках — згадаць, згадаць, згадаць... Партнёр выяўляў асалоду зносінаў з партнёркаю як... валоданне капрызлівай віяланчэллю: самавітае "гранне" цел — проста абыгрыванне ідэі згарманізаванасці чалавека й свету. Пластычныя адметнасці падкрэслівалі тэкст і тое, што акцёры выяўлялі як стаўленне да тэксту і да прапанаваных (навязаных) абставін.

Сама невыноснасць жыцця ўвасаблялася ў рып віяланчэлі, неспрактыкаванае або знарочыстае ваджэнне смыком па струнах — проста фізічнае пакаранне (яе падсвечваў наш побыт і распаўсюджаныя жарты на музычныя тэмы). Тэкст, калі не надавалі яму асаблівае ўвагі, мільгаў як выпяванне трох дзяжурных фраз у тэлевізійным кліпе, дзе відзешраг важнейшы за сэнс. А калі рупіла ўслухвацца, дык чулася і пра ўцёкі на востраў, да мора, дзе будуць рыбкі і самотныя лілеі, пра свабоду, пра марнасць, пра свінню, якая мае правы стаць кумпяком... "Майн лібэр фюрэр" яшчэ колькі разоў перакрываў і перапыняў слоўныя плыні, адбіваў кавалкі сцэнічнага часу, нітаваў дзеянне, — ажно да з'яўлення (разам з пластычнаю параю і тэкстам, тэкстам з іхніх маўклівых вуснаў!))... рубіна раджы (а сыграць пародыю на сваю папярэднюю ўзнёсласць — ці ж іспыт для акцёра?). Рубін раджы абяцаў сэнс і гармонію жыцця. Варта толькі было ім завалодаць. Маладыя і сталыя пары ядналіся ў імкненні не аддаць гэты рубін у... аўтаравы рукі. Аўтар, разгублены ўсцешаны такім парываннем, спрыяў пошукам сэнсу і гармоніі: не ідыёцкім рубінам, вядома, таго, як высвятлялася і зусім не існуе, а тым, што прымушаў Яго і Яе яшчэ і яшчэ раз уваходзіць у колішнюю сітуацыю. Апынацца на марскім беразе, ратаваць адно аднаго, сілкавацца свабодай і згадваць. І калі замест "Майн лібэр фюрэр" Мэры і Джоны (іх, не забывайцеся, па двое, у розных іпастасях і з рознымі задачамі) крычаць "Я люблю цябе!", выяўляецца, што тутэйшы абсурд — ці не самы крывавы, гвалтоўны, рэальны абсурд у свеце. Што тутэйшая парадаксальнасць перажытая ўжо ў жыцці, перамеленая праўдай жыцця, а праўда мастацтва — яна тутэйшая толькі геаграфічна! Зоя Белахвосцік, Мікалай Кірычэнка, Інэса Аляксеева, Эдуард Трухмянёў, вядома, з літаратурнай ідэяй Дзмітрыя Бойкі і з пастановачнай — Аляксандра Гарцуева (ён заняты і ў ролі Аўтара) — разам нагадалі... старое пачуццё. Любові? Бо — чакалі спатканняў, рыхтаваліся, бянтэжыліся, мусілі разумецца. Паразуменне абяцала шмат.



*Мікалай Кірычэнка (Джон) і Зоя Белахвосцік (Мэры).*

"Ведаеце, мы чакаем гэтай сустрэчы, — пачаў быў пра "...Сакавіцу" Расціслаў Янкоўскі. — Як прыемна выходзіць на сцэну, калі ў зале сядзяць калегі. Усё-ткі мы любім адно аднаго. І было б нясціпла штонебудзь яшчэ жадаць. Каб толькі горш не было, у гэтым жыцці цяпер усё задужа складана".

Складана настолькі, што колішнія "...Вёсны" (з чым толькі іх ні параўноўвалі, чаго толькі ні абяцалі — за іх!), ахопныя, вялікія, палянакроўныя, у нашай, беларускай "палітычнай сітуацыі" вярнуліся да правінцыйнага маштабу Маладзечна і ўсіх звыкласцяў ды раптоўнасцяў першага веснавога месяца. Як першага наступніка... колішнее "...Вясны"? Зрэшты, на думку аднаго з арганізатараў фестывалю Аляксея Дударава, "Маладзечанская сакавіца" адлюстроўвае тэатральны працэс у рэспубліцы. Так бы мовіць, штовесну падбівае рахункі, падводзіць рысы. "Галоўная каштоўнасць любога падобнага фэсту — у мастацкасці, а яе трэба заахвочваць", — працягнуў Міхал Пташук, прапануючы надаць "...Сакавіцы" статус або назву нацыянальнага фестывалю. "...Сакавіца" набыла рысы фестывалю аб'ектыўнага, выяўляючы тое, што ў нас ёсць сёння. Цяпер яна мусіць набыць аб'ём", — выснаваў Валеры Мазынскі. Безумоўна, "Маладзечанская сакавіца"— адзіны тэатральны фестываль, паводле якога чацвёрты год запар можна складаць нейкую мазаічную карціну сцэнічнай рэчаіснасці, няпэўную, вядома, часам цьмяную, — то мокрым снегам, то гразёю ў калюжыне запырсканую. Першы вясновы месяц здатны на нечаканасці да раптоўныя перамены надвор'я. Аднак, паводле прыроднай мудрасці, усемагчымыя сокі толькі збіраюцца — абуджаюцца, запасяцца ў гэты час. На сонечным прыпёку, бывае, прымроіцца і марское ўзбярэжжа, і веснавая свабода, і недарэчным будзе здавацца зімовае здранцвенне пад выкрыкі "Майн лібэр фюрэр", і раптоўна абвострыцца старое пачуццё. За часам балтыйскіх тэатральных вёснаў мы саромеліся называць яго проста — любоўю. За часам вялікіх і мястачковых перамен, здаецца, зусім забыліся, як гэтае пачуццё завецца. Цяпер, як высветлілася, згадалі. "Усё-ткі мы любім адно аднаго", — услед самаму адметнаму фестывальнаму спектаклю паўтарыў адметны артыст. Каб не саромеліся, каб не забываліся, каб разумеліся. І каб менш абяцалі.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

**P.S.** Фестывальныя нататкі і рэцэнзіі на асобныя спектаклі "Маладзечанскай сакавіцы" будуць друкавацца ў бліжэйшых нумарах "ЛіМа".

*Фота Віктара ДРАЧОВА і Генадзя ЖЫНКОВА*

# Да 79-й гадавіны

На Варвашэні, 8, у штаб-кватэры БНФ, разгорнута экспазіцыя твораў жывапісца Алеся Цыркунова, прысвечаная 79-й гадавіне абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі і 85-й — з дня нараджэння апошняга прэм'ера БНР Аўгена Калубовіча. Творы экспазіцыі прама ці ўскосна датычаць беларускай нацыянальнай ідэі. Гэта палотны алегарычнага зместу, прысвечаныя геваічным і трагічным падзеям нашай гісторыі, а таксама партрэты слаўных сыноў Бацькаўшчыны.

У Алеся Цыркунова — адметная жывапісная манера. Алесь Марачкін, які на вернісажы вітаў мастака ад імя калег, сказаў, што сёння, у цяжкі для мастацтва час, жывапісец іншы і раз падумае, а колькі ж каштуе пры сённяшніх цэнах на фарбы той ці іншы мазок. Але Цыркуноў — не такі. Ён застаецца верны сабе, не зважаючы на эканамічную сітуацыю. Яму ўласцівы шырокі мазок, імправізацыя непасрэдна на палатне.

Алесь Цыркуноў — сябра суполкі "Пагоня", актывіст беларускага культурнага руху. Мастацтва не замінае яму займацца грамадскай дзейнасцю, а грамадская дзейнасць — мастацтвам.

**П. В.**

ЭКСЛІБРЫС

# Супраціў

*Юрка Віцьбіч. "Антыбальшавіцкія паўстанні і партызанская барацьба на Беларусі". "Беларускі інстытут навукі й мастацтва", Нью-Йорк, 1996.*

**У Амерыцы, дзякуючы руплівасці эмігранта новай хвалі Лявона Юрэвіча, выйшла навукова-даследчая праца вядомага беларускага пісьменніка на эміграцыі Юркі Віцьбіча. Само даследаванне было выканана яшчэ ў 1952 годзе, але ўбачыла свет толькі зараз. Аўтар паставіў за мэту сабраць усе матэрыялы, якія толькі можна было знайсці ў Амерыцы, што датычыліся перадваеннага змагання беларусаў з бальшавізмам. Сабраныя па пісьмовых крыніцах, а таксама па ўспамінах удзельнікаў і сведкаў гэтага супрацiву звесткі шмат у чым новыя.**

**У кніжцы ідзе размова пра малавядомыя і зусім нязнаныя дагэтуль Вяліжскае, Нясвіжскае, Мірскае, Дабранскае, Панькоўска-Будаўскае, Бешанковіцкае паўстанні, пра Барысаўскі галодны бунт і Мсціслаўскую сялянскую дэманстрацыю ды іншыя паўстанні.**

**Да гэтых матэрыялаў трагічнага супраціву беларускага народа з бальшавіцкай няволяй датыкнулася рука таленавітага пісьменніка, і яны чытаюцца як цікавы мастацкі твор.**

**"Шапкі далоў! Мы будзем гаварыць пра замучаных бальшавіцкай камунай", — піша Ю. Віцьбіч, і сапраўды распавядае пра тое, як у 1918 годзе паўсталі мабілізаваныя сяляне ў Вяліжы: "Нашых айцоў харчпадаткам душыце? Нашыя маткі з голаду пухнуць! З нашае веры здзекуецеся?! А мы мусім вас абараняць? Няхай камандзіры паміраюць за Леніна з Троцкім, а мы хадзем дамоў!"**

**Ю. Віцьбіч піша пра тое, як Слуцкі зборны батальён у 1919 годзе ў мястэчку Мір, яшчэ да Слуцкага паўстання, замест таго, каб пакараць местачкоўцаў за забойства двух камісараў, перайшоў на бок жыхароў Міра і вёў бой чатыры дні з палком чэкістаў. А таксама пра тое, як латышскія стралкі вялі на расстрэл вяліжскага партызана гімназіста Адахоўскага, а ён спяваў песню паўднёва-афрыканскіх бураў:**

**"Трансвааль, Трансвааль, зямля мая, ты ўся гарыш ў агні", маючы на ўвазе Беларусь. І пра Бешанковіцкае паўстанне ў 1930 годзе, калі больш за пяцьсот сялян з сякерамі і віламі пайшлі на Бешанковічы бараніць сваю зямлю і дабро. Гэта было "змаганне сякераў з кулямётамі". Сялян расстралялі. А ў 1933 годзе была забастоўка рабочых у Барысаве супраць змянення нормаў выдачы хлеба. Тады сакратар угаворваў іх: "Вярніцеся да сваіх асірацелых машын, на якіх вы куеце сусветную пралетарскую рэвалюцыю. Калі раней мы недаядалі на радасць буржуям, дык цяпер мы галадуем на страх ім". Абураныя работнікі схапілі яго і пацягнулі на раку Бярозу топіць.**

**Пасля кожнага з гэтых паўстанняў распачынаўся страшэнны тэрор і людзі гінулі сотнямі, тысячамі. Па ўсёй Беларусі, як піша Ю. Віцьбіч, ішла "падводная вайна", гэта калі "карныя атрады рэвізавалі ў сялян падводы і ганяліся на іх за "белымі бандытамі". Нават лірычныя песні складаліся пра антыбальшавіцкую партызанку: "Хадзіце, хлопцы, у лес зялёны, Зямлянка нас схавае там, Матуля-ноч нас абароніць, А бацька-лес дасць волю нам".**

**Прачытаўшы гэтую кнігу, можна зрабіць гэткую выснову, што нават самы жорсткі і крывавы тэрор не можа накінуць вечнае ярмо на народ. Некалі яно ўпадзе, але, пэўна, не само па сабе, а дзякуючы няскоранаму і вольнаму духу гэтага народа.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

ЛіМ ЧАСАПІС

## ...Абы ахвота — будзе і новы "Кот у ботах"

**Новую сцэнічную рэдакцыю сваёй ранейшай пастаноўкі "Ката ў ботах" паводле п'есы Г. Уладычынай прапанавалі берасцейскія лялечнікі. Спектакль змяніўся значна: акрамя новай рэжысуры З. Нуянзіна, у ім з'явілася і новая музыка А. Мядзведзева (песні на вершы С. Пяткевіча), старая дэкарацыя саступіла месца абноўленай, да якой меў непасрэднае дачыненне мастак М. Данько. І толькі лялькі ў "старым-новым" "Каце ў ботах" жывуць, дзейнічаюць, гарэзнічаюць усё тыя самыя — можа, крыху з налётам "былога", што, аднак, навлвае адпаведную настальгію, якая, як вядома, назаўжды. Настальгію аб тым Каце, якога ўжо ніколі не будзе...**

**І. Х.**

## З песняй па жыцці



**У вёсцы Рог Салігорскага раёна няма свайго клуба. Але для аматараў народнай песні гэта не стала перашкодай. Вось ужо дваццаць адзін год працуе тут фальклорны калектыў, якім кіруе намеснік дырэктара Краснаазёрскай школы Ганна Сцяпанаўна Макарэвіч. А на рэпетыцыі збіраюцца ў доме Васіля Гаўрылавіча Хаміцэвіча.**

**Добра ведаюць калектыў у раёне, у суседнім Слуцку і Мінску. Выконваюць самадзейныя артысты рытуальныя і фальклорныя песні свайго рэгіёна, якія самі збіралі ўсе гэтыя гады. А яшчэ яны — ініцыятары правядзення масавых святаў і фестываляў. Калектыў з вёскі Рог — удзельнік рэспубліканскага тэлевізійнага фестывалю "Залатыя ключы".**

*На здымку: Рогаўскі фальклорны калектыў.*

**Яўген КАЗЮЛЯ, кар. БЕЛТА**

## Лепшы на Магілёўшчыне



**Крычаўскі дзіцячы тэатральны калектыў "Батлейка" гарадскога Дома дзіцячай творчасці прызнаны адным з лепшых на Магілёўшчыне. У яго рэпертуары каля дзесятка спектакляў у асноўным на тэмы беларускіх народных казак.**

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

ПАМЯЦЬ

# Смерць на ўзлёце

Гэтае фота калісьці друкавалася на нашай першай паласе. Валодзя Кін-Камінскі, замест каб пазіраваць і даваць інтэрв'ю, час-почас мармытаў, маўляў, ну навошта ягоным партрэтам гэтую паласу ўпрыгожваць, ён — не той аб'ект, не тая мадэль, ён не патраліць ні сесці, ні сказаць...

Ягоны ўзлёт, вядомасць, своеасаблівая (таму што нягучная) папулярнасць толькі выпадкоўцу здаваліся раптоўнымі. Яго, фактурнага прыгажуна, мужчыну-мару, магутнага, высокага, з адметным валоданнем мовай і пластыкай, цяжка было не разгледзець. Яшчэ цяжэй, як выявілася, было падабраць яму ролю ў рэпертуары купалаўскага тэатра. І гэтая дзівосная акалічнасць доўга склейвала, звязвала яму рукі-крылы: дальбог, нават ролі, здаралася, мізэрнелі перад ягонай акцёрскай індывідуальнасцю. Яе, індывідуальнасць, вывучыў рэжысёр Мікалай Пінігін і даў ёй рады ў спектаклі "Тутэйшыя", дзе Кін-Камінскаму выпала пераапранацца, пераўвасабляцца ды ненавязліва трымаць, захоўваць, выяўляючы, стрыжань-сыродавік, так званае нутро персанажа, імя якому знайшлося не ў праграмцы, не на сцэне, але ў гледачоў — Заваёўнік. А потым пабудаваўся і "Дом на мяжы", і ў шкуру "Эмігрантаў" давялося ўлезці, іграючы ў польскім спектаклі па-беларуску, выдатна адпрацоўваючы на рэжысёрскую задуму Анджэя Якімца; і тамсама, сярод беластоцкіх абставін, маючаць усю дзею запар у "Тэрміналары", — а сярод самых неверагодных праектаў Якімца было і плаванне ў халоднай вадзе, і скачкі з парашутам, і, як апафеоз усіх задумак, наезды з гастрольнымі паказамі на калябрадвейскія фестывалі. На адным з такіх Кін-Камінскаму летась прапанавалі кантракт.

Усё гэта трэба было вывуджваць з улюбёнага артыста пад звыклае мармытанне пра "не трэба, не варта, не патраплю..." Відавочна, ён патрапляў там, дзе патрапляе няшмат хто — на сцэне.

Відавочна, ягоная смерць 12 сакавіка — смерць на ўзлёце. Яе, напэўна, абумовіла шмат што, у тым ліку і абставіны, навязаныя пазасцэнічным жыццём. У тым ліку — і індывідуальнасць, творчая і чалавечая. І звычкі, якія да сёння называюць багемнымі і да якіх ставяцца паблажліва. Зрэшты, гора



маці, Алены Васільеўны Рынковіч, гора жонкі Наташы і Валодзевай дачушкі Машы не аблегчыць. Хіба падзяліць...

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота Аляксея ІЛЛІНА*

СЯМ'Я

# На мяжы стагоддзяў

Мы жывём у імклівым, дынамічным, вельмі зменлівым часе. Многае вакол нас сёння мяняецца вокамгненна. Рушацца імперыі, дзяржавы, гарады, дамы, узамен узнікаюць новыя. Разбураюцца, на жаль, і многія маральныя "дзяржавы", "гарады" і "дамы", пабудаваныя нашымі продкамі тысячагоддзі таму. У многіх ранейшых маральных "канструкцыях" моцна паржавеў "каркас", і яны даволі часта не ў стане вытрымліваць усемагчымыя жорсткія "землятрусы" часу. На жаль, калі-ніколі мы бяздумна і цынічна расхістваем і той асноўны "дом", з якога выйшлі ўсе без выключэння, — сям'ю. Ці ацалее інстытут сям'і ў XXI стагоддзі? На першы погляд, такое пытанне для нас, якія параўнальна з іншым светам жывуць у амаль што патрыярхальным соцыуме, можа падацца дзіўным і нават недарэчным. Ну як жа інакш? Сям'я ж — гэта "ячэйка", "гавань", апора і фундамент любога грамадства. Ды і ўвогуле для нашага сённяшняга кантэксту ёсць значна больш празаічныя праблемы — як ацалець фізічна кожнаму з нас у крайне неспрыяльных варунках, калі, напрыклад, сярэдні даход на чалавека ў беларускай сям'і — 30-40 даляраў. Але грамадства ў цэлым не можа, у адрозненне ад некаторых сваіх асобных суб'ектаў, надоўга "расслабляцца" і жыць толькі такімі праблемамі. Рана ці позна ягоны стваральны патэнцыял мусіць быць рэалізаваны, нягледзячы ні на якую палітычную кан'юнктуру. А гэта значыць, будуць зрухі і ў эканоміцы — як дзяржаўнай, так і сямейнай. Бо натуральны сукупны інстынкт самазахавання ў любым грамадстве значна большы, чым у канкрэтнай асобы. Таму, на наш погляд, паляпшэнне матэрыяльнага стану нашага соцыуму — толькі справа часу.

Што да пытання пра лёс сям'і, то працэсы, якія сёння адбываюцца ў т. зв. цывілізаваным свеце, далёка не адназначныя, а часам нават і супярэчлівыя. І, бадай што, не лепшы варыянт — упадабляцца сумнавядомаму страусу, робячы выгляд, што тыя працэсы нас аніяк не датычацца. З аднаго боку, апошнім часам на Захадзе, асабліва ў ЗША, пачаў рэзка ўзмацняцца культ сям'і. Найперш гэты факт — вынік эфекту "маятніка", калі іхняе грамадства пэўны час вельмі інтэнсіўна "вкушало" забароненыя раней плод "свабоднага кахання" і, відавочна, у значнай ступені нацешылася ім. І як вынік — "хіснулася" ў іншы бок, да спрадвечнага, традыцыйнага, найперш да сям'і, справядліва шукаючы ў ёй трывалага духоўнага апірышча пасля дзесяцігоддзяў усемагчымых маральных, сацыяльных, культурных і сексуальных рэвалюцый. Іх грамадства, кажучы прасцей, ужо "перахварэла" на такога кшталту "дзіцячыя" хваробы і, дастаткова пасталеўшы, быццам бы зноў памкнулася да сапраўднага.

Але ці так гэта на самай справе? Ці з'яўляецца так старанна дэманструемая заходнімі мас-медыя сямейная ідылія рэальнасцю? Інстытут сям'і ў пэўнай ступені сапраўды зноў заняў месца на п'едэстале вышэйшых духоўных імператываў іх грамадства. І гэта звязана не толькі з "качком маятніка" сацыяльнай і духоўнай моды, але і з чарговым эвалюцыйным этапам у развіцці грамадства, якое ўжо дасягнула пэўнага матэрыяльнага дабрабыту і апынулася перад праблемай якаснага духоўнага рыўка наперад. І сямейны "трамплін" — ці не адзін з самых надзейных у гэтым плане. Але не сакрэт, што сучасныя дасягненні ў біялогіі, генная інжынерыі-кібернетыцы ставяць перад заходнім грамадствам вельмі вострыя маральна-этычныя праблемы, якія самым істотным чынам могуць паўплываць на далейшы лёс сям'і. Чалавек паступова атрымлівае доступ у святая святых "механізма" свайго стварэння, у тую сферу, якая, як шмат тысячагоддзяў было пераканана чалавецтва, падуладная толькі самому Найвышэйшаму. Недалёкі той час, калі ў прабірках генных лабараторый буд-



зе фармавацца не толькі пол будучага чалавека, але і яго знешнія даныя, рысы характару. Але хто ведае, якім будзе той дзень: днём прарыву да Вышэйшай Ісціны, ці днём самай страшнай трагедыі, калі неўтаймоўны "джын" крайне небяспечнага энергатыпу будзе выпушчаны з "бутэлькі" і пачнецца імклівае разбурэнне духоўнага арэалу грамадства? Загнаць таго "джына" назад наўрад ці будзе магчыма. Мусіць, нездарма спаконвечная мудрасць чалавецтва ў шматлікіх казках пра таго "джына" і "бутэльку" настойліва папярэджвае-падае сігнал вялізнай небяспекі, якая чакае новыя пакаленні лю-дзей. Ці не датычыць, напрыклад, тая самая мудрасць яшчэ аднаго дасягнення-прарыву зямной цывілізацыі — ядзернай зброі?

Мы можам толькі канстатаваць — чалавецтва ў сваёй эвалюцыі вельмі падобнае на лёс асобнага чалавека, які пакуль не наб'е ў дзяцінстве ўласных сінякоў і гузакоў, не захоча прытармазіць у сваім "пазнавальным" імпэце. Хіба зважае малое на слушныя папярэджанні і засцярогі дарослых?

Спасціжэнне "гарачага" ўсё роўна адбываецца на дотык. Так і чалавечае грамадства — яно мае шматлікія архівы і бібліятэкі тых засцярог і папярэджанняў, пакінутых ранейшымі пакаленнямі людзей, што жылі і шмат памыляліся ў сваім жыцці, але практычна не заўважае іх. Бо да ўсяго новага, хоць і небяспечнага, вельмі ўжо хочацца "дакрануцца" самому. Можа быць вельмі балюча? Што ж, затое сам! Праўда, у адрозненне ад немаўляці, якое, калі яно села ў гарачы тазік, ахвяруе ў горшым выпадку сваім уласным "мяккім месцам" і якое ўрэшце заўсёды знойдзецца каму ратаваць і лячыць, чалавецтва рызыкуе сваім уласным лёсам значна больш. Яно рызыкуе так "апячыся", што не зможа не толькі больш ніколі "сесці", але і ўвогуле — існаваць...

Сямейны анклаў, як "інкубатар" дзіцячых душ, як канцэнтраванае біягеннае асяроддзе, дзе тыя душы атрымліваюць сілкаванне падчас свайго "росту", можа, безумоўна, у рэшце рэшт здацца непатрэбным для найбольш радыкальных і неўтаймоўных "эксперыментатараў". Бо сям'я — гэта яшчэ і вялікая адказнасць і вельмі канкрэтныя абавязкі, якія патрабуюць значных высілкаў, як духоўных, так і фізічных. Іншая справа — заплаціўшы энную суму грошай, "заказаць" сабе пэўны тып дзіцяці, перачакаць ягонае лабараторнае сталенне і ў выніку атрымаць "гатовенькага", абсалютна дарослага, нават выхаванага "наследніка" ці "наследніцу", у залежнасці ад патрэбы. Ну чым не ідылія для вельмі многіх "бацькоў", дакладней, для людзей пэўнага кшталту, якіх спаконвеку называлі ў народзе "зязюлямі"?

Карацей кажучы, праблема ёсць — найперш духоўная і маральная. І наступствы яе могуць выявіцца ўжо ў зусім недалёкі час. Безумоўна, аўтар крыху гіпербалізуе сітуацыю, правакуючы чытача на палеміку, але, па вялікім рахунку, ці не здавалася нам уча-ра многае сённяшняе фантастычным і абсалютна нерэальным? Але час, як мы адзначалі, мяняецца вельмі імкліва, а з ім, вядома, і мы. Таму ўжо сёння, каб захаваць, не даць разбурыць спрадвечны "домсям'ю", неабходна паклапаціцца пра яго своечасовы "рамонт", прычым далёка не толькі касметычны. Не лішне ўжо зараз падумаць, якім чынам і ў першую чаргу ўмацаваць "фундамент", на якім усё ў гэтым вельмі неспакойным і нестабільным свеце трымаецца. Мы маем на ўвазе спрадаваны тысячагоддзямі пакутлівых пошукаў грамадства фундамент духоўных каштоўнасцяў, які ні ў якім разе нельга бяздумна расхістваць, разбураць, наіўна мяркуючы, што з-за сваёй "масіўнасці" ён усё вытрымае... Лёс гэтага "Атланта" чалавечае цывілізацыі можа стацца ў зусім недалёкім заўтра вельмі драматычным. Мусіць, толькі тады, калі кожны з нас пакладзе дзеля яго ўмацавання сваю дыхтоўную "цаглінку", мы зможам не турбавацца і за будучыню сям'і, і за лёс усяго чалавечага грамадства.

**Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ**

МЕРКАВАННЕ

# Ад утопіі — да жыцця

ЦЯГАМ вякоў лепшыя людзі зямлі марылі пабудаваць грамадства сацыяльнай справядлівасці. Гэтыя мары ў другой палове XIX стагоддзя ўвасобіліся ў тэорыю сацыялізму. Сутнасць яго характарызуе фраза з "Маніфеста камуністычнай партыі", надрукаванага ў 1848 годзе: "Камуністы могуць выказаць сваю тэорыю адным палажэннем: знішчэнне прыватнай уласнасці".

У 1917 годзе на прасторах былой Расійскай імперыі пачаўся грандыёзны эксперымент па ператварэнні тэорыі сацыялізму ў жыццё. Ён з трэскам праваліўся. Усе краіны, дзе ажыццяўлялася тэорыя сацыялізму, апынуліся на задворках цывілізацыі. Усім нармальным людзям, нават кіраўнікам КПСС, стала відавочна, што сацыялізм — гэта утопія. Сусветная практыка даказала, што прыватная ўласнасць і канкурэнцыя — асноўны рухавік прагрэсу.

Нарэшце, у 1991 годзе Савецкі Саюз прыпыніў сваё існаванне. Разбурылі яго не тры белавежскія зубры (Ельцын, Краўчук, Шушкевіч), а грамадская сістэма, пабудаваная на утопіі. Усе гады камуністычнай дыктатуры палітыка кіравала эканомікай, у той час як у цывілізаваных народаў менавіта эканоміка вызначала палітыку дзяржавы. Цяпер і перад намі стаіць праблема пераходу ад утопіі да нармальнага жыцця.

Як жа гэты працэс праходзіць на Беларусі і што яму замінае?

Пасля знікнення КПСС пануючы клас чыноўнікаў Беларусі прыняў праграму выжывання. Для выканання гэтай праграмы апарат ЦК КПБ і яго рэгіянальныя структуры падзяліліся на тры асноўныя групоўкі. Першая, найбольш уплывовая, захапіла выканаўчую ўладу. Яна ж стварала спрыяльныя ўмовы другой групоўцы, якая шляхам "прыхватызацыі" ператварала дзяржаўную маёмасць у прыватную. Яе прадстаўнікі сталі кіраўнікамі банкаў, фірм, фондаў і г.д. Па падліку спецыялістаў, больш за 60 працэнтаў прыватнага капіталу Беларусі сёння належыць былой партыйнай наменклатуры. А трэцяя групоўка стала ствараць новую камуністычную партыю. Ёй адводзілася роля ідэалагічнага забеспячэння галоўнай задачы — вяртання манаполіі на ўладу.

Першыя дзве актыўна рабавалі народ, мэтанакіравана даводзілі яго да жабрацтва, імкнуліся выклікаць у людзей настальгію па былых часах, паніжаючы ўзровень жыцця да крытычнай рысы. А новая кампартыя са старымі членамі распальвала абурэнне народных мас і накіроўвала яго па ілжывым следзе. Паўсюдна гучала: "Дэмакраты развалілі краіну". Усе тры наменклатурныя групоўкі праводзілі адзіную палітыку і ўсё разыгралі, як па нотах. Яны ў чарговы раз абдурылі народ. Цяпер большасць насельніцтва ўспамінае часы камуністычнага кіравання як самыя добрыя гады свайго жыцця. Аб гэтым сведчаць вынікі выбараў і рэферэндумаў.

Асабліва ўдала наменклатура правяла прэзідэнцкія выбары. Разумеючы, што рабіць стаўку толькі на Кебіча — справа рызыкоўная, яна падрыхтавала запасны варыянт. І вылучыла кандыдатам у прэзідэнты маладога, энергічнага і ўжо знакамітага дэпутата, змагара з карупцыяй Аляксандра Лукашэнку. У праграмах Кебіча і Лукашэнкі спецыялісты адрозненняў не знаходзілі. Адчувалася, што гэта людзі адной каманды. І такія здагадкі пацвердзіліся. Усё бліжэйшае акружэнне Кебіча (Мясніковіч, Лінг, Антановіч, Замяталін і многія іншыя) заняло вышэйшыя пасады ў прэзідэнцкай вертыкалі. Ды і сам Кебіч тут не апошні чалавек.

Справа была зроблена. Пануючы клас чыноўнікаў бліскуча ажыццявіў вяртанне манапольнай улады. Канчаткова ж яна была замацавана падчас так званага рэферэндуму 1996 года. Цяпер прэзідэнту, які ўзначальвае клас чыноўнікаў і абапіраецца на яго, падпарадкавана ўсё: армія, міліцыя, біспека, суды, пракуратура і сродкі масавай інфармацыі. Выканаўчую і заканадаўчую ўладу прызначае ён. Ужо ніхто яму не перашкаджае зрабіць краіну квітнеючай, а народ заможным і шчаслівым.

Аднак эканамічны, палітычны і духоўны крызіс паглыбляецца. Працягваецца спад вытворчасці. Растуць цэны і беспрацоўе. Павялічваецца злачыннасць. Няспынна пагаршаецца жыццё людзей. А вёска бяднее, старэе і вымірае. Мы, беларусы, народ цярплівы, можам усё вытрываць і перажыць. Была б толькі надзея на лепшае. Дык жа — няма надзеі!

У чым прычына такога становішча? Беларусы — не дурнейшыя і не лянівейшыя за іншыя народы, а па ўзроўні жыцця апынуліся на апошнім месцы ў Еўропе. Афіцыйная прапаганда нам даказвае, што ў Беларусі няма прыродных багаццяў. Гэта — вялікая хлусня. Ёсць у нас нафта і вугаль, калійныя і мінеральныя солі, торф і граніт і нават золата. Каштоўным багаццем з'яўляюцца сапрапелі. Па запасах лесу мы апярэджваем большасць краін Еўропы. А галоўнае наша багацце — зямля. У Беларусі на душу насельніцтва прыпадае два гектары тэрыторыі, амаль па гектару сельгасугоддзяў і па шэсцьдзесят дзве соткі ворнай зямлі. Па апошнім паказчыку мы пераўзыходзім Германію ў пяць, а Японію — у дваццаць разоў.


Мал. А. Гурскага

Яшчэ адзін прыклад. Фіны па прыродных багаццях значна адстаюць ад нас. У 1918 годзе Фінляндыя выйшла з Расійскай імперыі і не ўдзельнічала ў сацыялістычным эксперыменце. У выніку краіна вырабляе валавага ўнутранага прадукта на душу насельніцтва на 15 тысяч долараў. Па гэтым паказчыку Фінляндыя ўваходзіць у першую дзесятку краін свету. У Беларусі валавага ўнутранага прадукта на душу насельніцтва вырабляецца ўсяго на адну тысячу долараў. Выходзіць, што бедныя па прыродных рэсурсах фіны жывуць у 15 разоў лепей, чым мы, беларусы.

Прычына нашай галечы — у іншым: клас былых савецкіх чыноўнікаў не здольны кіраваць эканомікай. Як сказаў адзін вучоны, эканоміка — дама капрызная. Яна развіваецца па сваіх законах, яе нельга запалохаць ці расстраляць. Яе можна толькі развальць. Што і робіцца на нашых вачах.

Наш шлях ад утопіі да нармальнага жыцця яшчэ амаль не пачынаўся. Краіну вядуць па старой разбітай дарозе...

А што і як робіцца ў багатых краінах? Там і ў эканоміцы, і ў палітыцы пануе клас уласнікаў. Яго колькасная доля дасягае 80 працэнтаў працаздольнага насельніцтва. У большасці гэта дробныя і сярэднія ўласнікі, якія і складаюць сярэдні клас. Ён дамінуе ў грамадстве. Буйны капітал абмяжоўваецца антыманапольным заканадаўствам. Колькасць чыстых пралетарыяў паступова скарачаецца, яны пераходзяць у клас уласнікаў.

У Беларусі ж — усё наадварот. Пануе невялікая ў адносінах да ўсяго грамадства кучка чыноўнікаў. А пралетарыі (рабочыя, інтэлігенцыя, пенсіянеры) і дробныя ўласнікі (гаспадары прысядзібных участкаў, фермеры, рамеснікі, гандляры) цалкам ім падпарадкоўваюцца.

Такая несправядлівасць доўга працягвацца не будзе. Улада чыноўнікаў не можа быць трывалай. Выбар метадаў умацавання ўлады даволі абмежаваны. Механізм "апрацоўкі" народа ўжо запушчаны на поўную моц. У газетах, на радыё і тэлебачанні розныя "спецы" даказваюць, што наступіла стабілізацыя, што самае цяжкае засталося ззаду, што дзе-нідзе ўжо назіраецца рост вытворчасці. Усё гэта — не так, што пацвярджаюць вітрыны прадуктовых магазінаў.

Разумеючы, што карыстацца даверам народа доўга немагчыма, улада ўмацоўвае сілавыя структуры. Ужо цяпер мы фактычна жывём у дзяржаве, якую можна назваць паліцэйскай: па колькасці міліцыянераў на душу насельніцтва Беларусь у пяць разоў пераўзышла цывілізаваныя краіны Еўропы.

А як пераходзяць ад утопіі да нармальнага жыцця краіны былога савецкага блока? Там, дзе народ здолеў адхіліць камуністычную наменклатуру ад улады, прыступіў да прыватызацыі і стварыў клас уласнікаў, узровень жыцця пастаянна павышаецца. Чэхія, Венгрыя, Польшча, Славакія ўжо жывуць лепей, чым у мінулыя гады. Паступова набліжаюцца да іх і краіны Балтыі. Там жа, дзе народу не ўдалося адхіліць партыйных чыноўнікаў ад улады і яны самі пачалі "рэфармаваць" эканоміку, перамены адбываюцца доўга, цяжка і пакутліва. Ідзе падзел краіны на сферы ўплыву, чыноўны апарат зрошчваецца з крымінальнымі структурамі, праваахоўныя органы абараняюць не народ, а наменклатуру і яе капітал. Фармуецца крымінальная дзяржава. Рысы такой дзяржавы ўжо яскрава праяўляюцца ў Расіі, Казахстане і іншых. Там яшчэ не прыйшлі да сапраўдных рыначных адносін, але ўжо адмовіліся ад сацыялістычнай утопіі.

Чаму ж толькі Беларусь усё яшчэ блукае ў поцемках гэтай утопіі? Каб адказаць на гэтае пытанне, трэба вярнуцца ў гісторыю. У XV стагоддзе наша гістарычная Радзіма — Вялікае княства Літоўскае — дасягнула свайго найвышэйшага росквіту. Гэта была буйнейшая дзяржава Еўропы. У краіне развівалася навука, рамёствы, будаваліся гарады. У 1517 годзе Ф. Скарына выпусціў у Празе першую беларускую друкаваную кнігу. Потым сталі дзейнічаць друкарні ў Вільні, Нясвіжы, Бярэсці, Любчы, Цяпіне і іншых гарадах. Юрыдычная думка дасягнула вышэйшага ўзроўню ў Еўропе. Аб гэтым сведчаць Статуты 1529, 1566 і 1588 гадоў. Разам з тым Вялікае княства Літоўскае пастаянна вяло войны па абароне сваёй зямлі. Угледзімся ў падзеі таго часу:

— 1410 год. Аб'яднанае войска Літвы і Польшчы на Грунвальдскім полі перамагло Тэўтонскі ордэн. Кожная з 40 харугв (палкоў) страціла больш паловы свайго складу. За адзін дзень колькасць шляхты зменшылася на 40 тысяч душ;

— 1558—1563 гады. У Лівонскай вайне Іван Жахлівы спустошыў Полацкую, Віцебскую і Смаленскую землі;

— 1654—1667 гады. Маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч на тэрыторыі сучаснай Беларусі знішчыў палову насельніцтва. Гэта была катастрофа для беларускай нацыі і яе генафонду;

— 1700—1721 гады. У Паўночнай вайне цара Пятра I са шведамі загінуў кожны трэці жыхар Беларусі;

— 1791 год. Вялікае княства Літоўскае перастала існаваць. Але зямля і народ засталіся;

— 1794 год. Падаўлена паўстанне Тадэвуша Касцюшкі за свабоду і незалежнасць. Многія паўстанцы загінулі, а большасць збегла за мяжу;

— 1812 год. У вайне Напалеона з Расіяй беларусы страцілі кожнага чацвёртага. Трагедыя ў тым, што беларусы ваявалі і на баку Расіі і на баку Францыі, знішчалі адзін аднаго;

— 1840 год. Мікалай I забараніў ужыванне беларускай мовы;

— 1863 год. Паўстанне Кастуся Каліноўскага патапілі ў крыві. І зноў эміграцыя беларускай эліты;

— 1896—1912 гады. Пераселена ў раёны Сібіры 735 тысяч беларусаў;

— 1914—1920 гады. Падчас першай сусветнай і грамадзянскай войнаў загінула паўтара мільёна нашых людзей і столькі ж пакінула родную зямлю;

— 1927—1941 гады. Сталінскія рэпрэсіі каштавалі беларускаму народу каля двух мільёнаў загубленых душ;

— 1941—1945 гады. Загінуў кожны чацвёрты беларус...

Гісторыя сведчыць, што на працягу шасці стагоддзяў у вялікіх і малых войнах гінуў кожны другі, трэці ці чацвёрты жыхар нашай зямлі. Войны і паўстанні прыводзілі не толькі да гібелі людзей і спустошання краіны. Яны падштурхоўвалі да масавай эміграцыі. На працягу трох стагоддзяў ажыццяўлялася паланізацыя і русіфікацыя беларускага народа. Ні адна нацыя Еўропы не панесла такіх страт. У першую чаргу гінулі лепшыя, цвет нацыі, яе інтэлект. Страты генафонду нацыі былі настолькі вялікімі, а яе самасвядомасць настолькі падарвана, што адна са старажытных нацый Еўропы перайшла на рэжым біялагічнага выжывання.

Усё сказанае не значыць, што ў наш час беларуская нацыя не мае таленавітых людзей, сваёй палітычнай эліты. Усё гэта ёсць. Трагедыя ў тым, што нацыя яшчэ не адрадзілася і яна не ўспрымае ідэі новай эліты. Самасвядомасць народа настолькі аслаблена, што беларуская нацыянальная ідэя не стала дамінаваць у грамадстве. Але альтэрнатывы ёй — няма. Нацыянальная ідэя рухала ўсе народы да цывілізацыі. І для нас выбар гэтага ж шляху — непазбежны.

У заключэнне — некалькі высноў:

1. Для пераходу ад сацыялістычнай утопіі да нармальнага жыцця патрэбна кансалідацыя грамадства. Аб'яднаць яго можа толькі беларуская нацыянальная ідэя.

2. На грунце нацыянальнай ідэі адкрыюцца магчымасці для адхілення былой наменклатуры ад улады, правядзення прыватызацыі і росту класа ўласнікаў.

3. Для духоўнага адраджэння нацыі патрэбна цеснае супрацоўніцтва палітычнай эліты, інтэлігенцыі і Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы.

4. Не толькі суседзі, але і колішнія азіяцкія і закаўказскія савецкія рэспублікі арыенціраў сваёй палітыкі бяруць Еўропу, а Беларусь усё яшчэ на каленях паўзе ў крымінальную Расію. Аб'яднанне з Расіяй можа стаць апошняй старонкай у гісторыі беларускай нацыі.

**Яўген ЛУГІН,**
**старшыня Беларускай сялянскай партыі**

## Вядомы як грамадскі дзеяч і мемуарыст

**Грамадскі дзеяч, пісьменнік, мемуарыст Ян Цадроўскі (нарадзіўся ў 1617— памёр прыкладна ў 1682), які пісаў па-польску, родам з Пагоста цяперашняга Салігорскага раёна. Аўтар мемуараў, якія ўпершыню былі апублікаваны ў перакладзе на рускую мову ў часопісе "Временник императорского Московского общества истории и древностей российских" у 1815 годзе.**

**Яны складаюцца з дзвюх частак і багатыя на фактычны матэрыял. У першай прыводзяцца сцiслыя біяграфічныя звесткі, апісваюцца некаторыя гістарычныя і грамадскія падзеі, дыпламатычныя даручэнні ў час руска-польскай вайны 1654—1667 гадоў на Міншчыне, гаворыцца пра расправу католікаў над віленскімі кальвіністамі. Змест другой часткі ў асноўным мартыраложны. Гэта звесткі пра родных і знаёмых яму людзей.**

## "Паэтам можаш ты не быць..."

**12 сакавіка адбылося ўрачыстае ўручэнне прэміі Таварыства вольных літаратараў "Гліняны Велес" паэту Славаміру Адамовічу.**

**Лаўрэатамі прэміі ўжо былі Ігар Бабкоў, Алесь Разанаў, Людка Сільнова. На сёлетні выбар "велесаўскага" лаўрэата, відавочна, паўплывалі пэўныя палітычныя падзеі, якія дазволілі С. Адамовічу займець скандальную вядомасць. Па словах каардынатара Таварыства вольных літаратараў Алеся Аркуша, ТВЛ прыкладзе ўсе магчымыя высілкі для "раскруткі" Славаміра як літаратара, выдання і рэкламы яго твораў. Акрамя статуэткі глінянага "Велеса", С. Адамовіч атрымаў "кляймо" — пячатку ТВЛ на далонь, якая з'яўляецца, мяркуючы, сімвалам еднасці і ўзаемападтрымкі творцаў.**

**Лесь ТУР**

## Дзеля ачышчэння душы

**Выстаўка "Мастацтва і рэлігія Беларусі" працуе ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры. Экспазіцыя ахоплівае перыяд з III стагоддзя да новай эры да пачатку нашага, дваццатага...**

**Склалі экспазіцыю ў асноўным творы, што захоўваюцца ў фондах згаданага музея. Праўда, імі выстаўка не абмежавалася. Ёсць таксама і прадметы культу, якія кантрабандна перапраўляліся за мяжу, але, дзякуючы пільнасці мытнікаў, былі затрыманы і перададзены ў музей. Асобныя творы ўзяты з Нацыянальнага мастацкага музея і старажытнай беларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Акадэміі навук Беларусі.**

**І што самае важнае — на ўсеагульны агляд вынесены работы (а іх каля ста), якія паказваюцца ўпершыню. Каб іх маглі пабачыць усе жадаючыя, пастараліся рэстаўратары.**

**Знаёмства з гэтымі шэдэўрамі лішні раз пераконвае: мастацтва ў розныя перыяды не на рэлігію "працавала", а знаходзіла ў рэлігіі пастаянную, а часам і адзіную магчымасць адысці ад звыклых будняў, узвысіцца над імі, каб сягнуць да дасканаласці. І творчай, і дасканаласці духу.**

**Унікальныя помнікі іканапісу, амулеты, апратка праваслаўных і каталіцкіх святароў (дарэчы, выстаўка яшчэ раз сведчыць, што на тэрыторыі Беларусі заўсёды існавалі розныя канфесіі), крыжы, складні з рэлігійнымі сюжэтамі — усе гэта з розных эпох, але сабранае разам, яно працуе на дзень сённяшні ўплываючы нас, што да вечнасці можна далучыцца толькі праз ачышчэнне.**

**Н. К.**

КРЫТЫКА

Веранiка СТРАЛЬЦОВА

# Ад хронікі да споведзі

## АБ СУЧАСНАЙ АЎТАБІЯГРАФІЧНАЙ ПРОЗЕ

ВЯДОМАЯ думка пра тое, што ўсё, напісанае пісьменнікам, выказана ім пра самога сябе, — даўно ўжо сталася агульным месцам. Сапраўды, гэта так: усё, што выйшла з-пад пяра творцы, абавязкова прапушчана праз ягоную свядомасць, пазначана ягоным успрыманнем, бачаннем прыроды, свету і людзей у гэтым свеце. "Эма Бавары — гэта я", — прызнаўся калісьці Флабэр, і, відаць, усур'ёз збянтэжыў іншага легкавернага чытача — а, можа, і строгага крытыка — відавочнай парадаксальнасцю гэтых слоў. На самай справе тут няма супярэчнасці. Хто ж будзе спрачацца з тым, што форма выяўлення, пераствараэння душэўнага вопыту аўтара ў мастацкім творы можа быць самай нечаканай? Безумоўна, пісьменнік мае права на гэтую глыбіню гуманістычнага роздуму пісьменніка "пра час і пра сябе", а аўтабіяграфічныя творы новай генерацыі беларускіх пісьменнікаў (Л. Дранько-Майсюка "Стомленасць Парыжам", "Інтрадукцыя", У. Арлова "Мой радавод да пятага калена", Л. Галубовіча "Зацемкі з левай кішэні", А. Кудлатага "Трынаццаць дзён з дзённіка") пазначылі дынаміку пошуку новых форм самаабгрунтавання індывідуальнасці. Выяўленне асобы аўтара зрабілася больш адкрытым, разняволеным, непасрэдным. Абавязковая раней "сацыяльная дамінанта" страціла сваю напятасць і зададзенасць. Пішучы пра сябе і сваё жыццё, пісьменнікі не баяцца ўжо папрокаў у залішняй камернасці. Прысутнасць гісторыі і грамадства набывае ў лепшых іх творах тую натуральную і справядлівую меру, якая ўспрымання быцця, пра тую непамерную для чалавечых сіл цану, якою аплачана гэтая эвалюцыя. Натуральна, што чалавек, які вымушаны быў прайсці такі горкі шлях, мае права і на папрок, і на незадаволенасць, і на адчуванне пакрыўджанасці. Але рэзюме яго нечаканае: "...Можа, менавіта за гэта і трэба блаславіць лёс?!"

Запісы Б. Мікуліча маналагічныя, яны не адрасаваныя чытачу (гэтую асаблівасць удала падсвечвае назва кнігі — "Аповесць для сябе"), герой мастацкага паказу і аўтар у іх гранічна зблiжаны, амаль ідэнтыфікаваны. Наяўнасць дробных несупадзенняў тлумачыцца хіба што самой прыродай суб'ектыўнасці, а не арыентацыяй аўтара на фактары знешняга парадку: сацыяльны заказ, маральна-этычныя і эстэтычныя нормы, патрабаванні літаратурных канонаў. Няма тут і абачлівай насцярожанасці, падгонкі пад пільнае вока цэнзара. Але адчуваецца ўсё ж, што тое-сёе не трапляе "ў кадр", застаецца нявысла́ўленым.

вольнасць, як, урэшце, мае і права выбару: якія аўтабіяграфічныя і аўтапсіхалагічныя факты сфармуляваць непасрэдна, а якія — схаваць за ўмоўнасцю сюжэта, кампазіцыі і аб'ектывізаваных персанажаў.

Зварот да аўтабіяграфічных жанраў, відавочна, мецiць высокую ступень творчай разняволенасці асобы, скіраванай на "самараскрыццё і самавызначэнне індывідуальнасці" (М. Эпштэйн). І яшчэ — спеласці пачуццяў і думкі. Невыпадкова лепшыя ўзоры псіхалагічна вытанчанай і гістарычна дакладнай прозы гэтага кшталту ("Споведзь" Русо, "Паэзія і праўда" Гётэ, "Былое і думы" Герцэна і інш.) напісаны менавіта ў пару чалавечай і мастакоўскай сталасці іх стваральнікаў. "Мне здаецца, што адзіны твор, які я магу напісаць як значнае, патрэбнае людзям, — гэта кніга аб маім уласным жыцці... Роздум ці ўспамін у дваццаць ці трыццаць радкоў — максімальна ў сто, скажам, радкоў — гэта і ёсць сучасны раман", — вось развагі пісьменніка Ю. Алешы, які ў канцы жыцця апублікаваў кнігу запісаў "Ні дня без радка".

Апошнім часам у літаратуразнаўчых аглядах усё часцей адзначаецца ўзмацненне тэндэнцыі эсэізацыі літаратуры, гэта значыць узнікнення такіх жанравых форм, дзе на першы план выходзіць асабовы аўтарскі пачатак, свабодны ад умоўнасцей белетрыстычных канонаў. Сюжэту і персанажам, што дзейнічаюць паводле пэўнай ролі, тут супрацьстаіць "агалены змест", які адпавядае натуральнаму руху жыцця і непасрэдных разваг аб ім. Жанры аўтабіяграфічнай літаратуры асвойваюць, так бы мовіць, памежныя сферы рэчаіснасці, таму тут могуць паяднаўацца элементы дакументальнасці, мастацкасці, навуковасці. Наогул, пытанне жанравай тыпалогіі твораў гэтага кшталту трэба прызнаць адным з самых складаных, таму што, апроч уласна аўтабіяграфічнай літаратуры (мемуараў, дзённікаў, запісных кніжак, эпісталярнай спадчыны), ёсць шмат твораў, што існуюць на мяжы, за якой — эсэістыка, немастацкія жанры, лірычная проза з выразнай аўтабіяграфічнай асновай, а таксама вялікая колькасць стылізацый.

Грамадска-палітычны кантэкст канца 80-х — пачатку 90-х гадоў стварыў удзячную глебу для ажыўлення беларускай аўтабіяграфічнай прозы. Уплыў тагачасных сацыяльных адналённых працэсаў спрыяў пераасэнсаванню шмат якіх літаратурных з'яў і падыходаў. Стварэнню і рэалізацыі новых канцэпцый. Легалізацыі багатай эміграцкай літаратуры. Публікацыі твораў, якія зведалі няміласць цэнзуры. Менавіта ў гэты час выйшла кніга лагерных успамінаў С. Грахоўскага, пабачыла свет "Споведзь" Л. Геніюш. Новыя тэмы і інтанацыі загучалі ў лірычных мініяцюрах Я. Брыля, мемуарна-аналітычная аповесць А. Адамовіча "Vixi" засведчыла спеласць і выяўляе жывую дыялектыку суадносін асабістага і агульназначнага, эмацыянальнага і рацыянальнага.

Прыкметнай з'явай канца 80-х — пачатку 90-х гадоў стала досыць частае з'яўленне ў друку твораў, якія пісаліся "ў стол" і раней па цэнзурных меркаваннях не маглі быць надрукаваны. Аддаленыя ад дня сённяшняга і па часе напісання, і па гістарычным матэрыяле, яны выглядаюць усё ж надзвычай сучаснымі: не таму, што менавіта цяпер сталіся фактам літаратуры, а таму, што іх асэнсаванне адпавядала грамадска-палітычнай сітуацыі, "сацыяльнаму заказу", які вымагаў перагляду падзей мінулага на падставе новай гістарычнай канцэпцыі і грамадскай рэабілітацыі ахвяр палітычнага генацыду. Невыпадкова менавіта ў гэты час з архіваў КДБ быў вызвалены і надрукаваны спачатку ў часопісе "Нёман", а пасля выйшаў асобнай кніжкай дзённік пісьменніка Б. Мікуліча. Запісы ў ім датаваны 1946—1948 г.г., але па ахопе матэрыялу гэты перыяд значна большы, бо ўключае ўспаміны пра падзеі 20-30-х гадоў, раздзел пад назвай "Спроба аўтабіяграфіі", а таксама тэксты лістоў да сяброў і ўлад. Кніга Б. Мікуліча цікавая ў жанравых адносінах, спалучае элементы дзённікавай, мемуарнай, эпісталярнай прозы. Нягледзячы на падкрэслена хранікальны характар падачы матэрыялу, аўтабіяграфічнай прозе Б. Мікуліча ўласцівае не механічнае замацаванне ўражанняў, а схільнасць да аналізу падзей і ўчынкаў, псіхалагічная заглыбленасць. Але якая яна, псіхалогія чалавека, што пацярпеў ад сфабрыкаванага абвінавачвання, прайшоў па этапе Сіблага, быў сведкам "і поўнага агалення чалавечай душы, і пераўтварэння цывілізаванага чалавека ў "голага звера", сведкам дзіўных эвалюцый у той ці іншы бок"? Цаной якога вопыту навучыўся ён "без болю сустракаць расчараванне ў тым, што калісьці брала ў палон, хвалявала і было дарагім", якія горкія іспыты прывялі яго да ўсведамлення справядлівасці слоў Стэндаля аб тым, што самае страшнае ў астрозе — немагчымасць зачыніць камеру знутры, застацца сам-насам. Наколькі аб'ектыўны такі чалавек у разуменні людзей, самога сябе і таго, што з ім адбываецца? Наколькі цвяроза ўспрымае ён свет: ці не робіцца несправядлівасць жыццёвых абставін несправядлівасцю думак і ацэнак?

Рэфлексіі Б. Мікуліча сведчаць пра значны маштаб яго творчага і чалавечага патэнцыялу. Патэнцыялу, якому не пашчасціла быць рэалізаваным цалкам. Але гэта можна з упэўненасцю сцвярджаць толькі ў адносінах да мастакоўскіх магчымасцей пісьменніка. Асоба ж — адбылася. У запісах занатаваны той момант, калі, азірнуўшыся на пражытае, робячы своеасаблівыя падрахункі свайго жыцця, пісьменнік гаворыць пра глыбіню якасных змен, пра светапоглядную адрознасць ад ранейшага

У чым нельга папракнуць Б. Мікуліча — дык гэта ў няшчырасці. Усё напісанае ім — праўда. Але праўда не ўся. І гэта натуральна, бо пэўната ведання пра сябе немагчымая, а весці гаворку пра асаблівасці індывідуальнага біяграфізму наўрад ці можна, унікнуўшы пастаноўкі пытання аб адметнасці самаўсведамлення асобы, ахопу ўласнага душэўнага вопыту і таго індывідуальна-канкрэтнага размеркавання акцэнтаў, якое і вызначае ўрэшце, якія менавіта моманты бягуча душэўнага жыцця і ўласна-біяграфічнага, падзейныя элементы аўтар можа і хоча замацаваць для іншых і самога сябе, а што ён пакідае нявыяўленым, незамацаваным, неаформленым. Гэты, часцей за ўсё неўсвядомлены, адбор і арганізацыя жыццёвага, фактычна-дакладнага матэрыялу ў творы напрасткі звязаны з літаратурным псіхалагізмам, а матывацыя і характар паводзін героя выяўляе "індэкс" сацыяльна-культурнай, этычнай і эстэтычнай індывідуальнасці аўтара.

Цікавая ў гэтых адносінах аўтабіяграфічная проза А. Сямёнавай, што вядомая чытачу па двух зборніках літаратурна-крытычных эсэ. Трэцюю кнігу пад назвай "Свята загадкі", дзе аўтарка выступае ў новым для яе амплуа, склалі два творы з выразнай дакументальна-аўтабіяграфічнай асновай. "Імпрэсіі і адлюстраванні" — такое вольнае вызначэнне жанравай прыроды маюць яны паводле самой аўтаркі. "Бэзавы попел" — эстэтычна-вытанчанае літаратурна-мастацкае эсэ з элементамі эпісталярнай і лірычнай прозы (напісана на матэрыяле прыватнага ліставання). Белетрызаваная аўтабіяграфія "Свята загадкі", якая дала назву кнізе і пра якую далей пойдзе размова — узор арганічнага спалучэння псіхалагічнай, інтэлектуальнай і дакументальнай прозы. Белетрызацыя тэксту адбываецца за кошт злучэння біяграфічных рэалій з элементамі мастацкай апавядальнасці. Адзінствам аўтарскай задумы знітаваны розныя спосабы светаспасцiжэння: сюжэтныя і аналітычны, спавядальны і нораваапісальны, а вынаходлівыя пераключэнні з вобразнага плана ў паняційны, з адцягненага ў побытавы надаюць твору аб'ём і глыбіню. Яго жанравая прыналежнасць досыць няўлоўная. Сапраўды, як згарнуць у адно вызначэнне калаж факта і роздуму? У ім спалучаюцца публіцыстыка і лірычна-паэтычныя замалёўкі, алюзіі і ўласныя назіранні з галіны псіхалогіі і сацыялогіі, чыстыя і схаваныя цытаты, эстэтычна-філасофскія моманты і блізкія да нарысаў норавапісальныя замалёўкі. Гэткія імпульсіўныя пераходы ад адной сферы жыцця да другой, як вядома, уласцівыя так званаму свабодна-

му жанру. Сапраўды, А. Сямёнава шырока выкарыстоўвае магчымасці эсэістычнай прозы, але арыентуецца тут не на ўсходнеславянскую, і нават не на агульнаславянскую, а на заходнееўрапейскую традыцыю, звязаную з імёнамі Г. Гесэ, А. Маруа, Д. Іймеша. Гэты (міжрэгіянальны) тып мастацкага ўзаемадзеяння досыць рызыкоўны, бо часта вядзе да "правалаў" у эклектыку. Але аўтарка, здаецца, шчасліва ўнікае гэтай небяспекі. Не апошнюю ролю тут адыгралі, відаць, асаблівасці выхавання самой пісьменніцы, яе сямейныя карані. Колішняя навагрудская шляхта і інтэлігенцыя (а менавіта да іх па паходжанні належыць аўтарка) мелі пэўную арыентацыю не толькі на беларускі і рускі, але і на польскі варыянт культуры, а праз яго — на заходнееўрапейскі.

Вядома, што аўтабіяграфічная проза характарызуецца спецыфічнай роляй суб'екта, які звычайна з'яўляецца кампазіцыйным цэнтрам твора. У "Святле загадкі" апісанне дзеяння падаецца ад 3-й асобы, што пэўным чынам "аб'ектывізуе суб'ект". Такі мастацкі прыём дазваляе ўбачыць гераіню знутры і звонку, ураўнаважыць стыхію эмацыянальна-духоўную і падзейна-рэчаўную, і такім чынам значна пашырыць сэнсавыя і выяўленчыя межы вобраза. Адасобіўшы ад сябе гераіню, А. Сямёнава быццам бы стварае мадэль-гэтага вобраза, пішa яго "з натуры". Маючы на ўвазе падобны мастацкі прыём, іспанец А. Мачада заўважае: "Мадэль неабходная. Дзеля таго, каб капіраваць яе? Не. Каб з яе дапамогай развіваць сваю думку". А ў той жа час — дзіўная рэч — і гэтая мадэль, і 3-я асоба ў творы як бы фіктыўныя, і чытачу абсалютна зразумела, што ён прысутнічае пры адкрытай размове аўтара аб самім сабе. Шчырая апавядальная інтанацыя ўражвае сваёй натуральнасцю. Праўда, у апісанні дзіцячых і падлеткавых гадоў гераіні спачатку крыху бянтэжыць нейкая, здавалася б, неадпаведная ўзросту інтэлектуальная і эмацыянальная абцяжаранасць вобраза. Але пасля разумееш, што багатае асацыятыўнае атачэнне ўражлівай юнай гераіні — плён пазнейшых інтэлектуальных штудый. Гэта адразу не ўлоўліваеш з той прычыны, што падзеі яе ўнутранай і знешняй біяграфіі захопліваюць глыбока і ўладна. У іх такі натуральны водар часу, што міжволі забываешся, што гісторыя маленькай дзяўчынкі расказана рэтраспектыўна, з пункту гледжання і ўспрымання сталай жанчыны. Такі мемуарны элемент нібыта раздвойвае аўтарскае "ego" і стварае унікальную магчымасць для ўнутранага дыялога двух "я", дзе крытэрый непасрэднай ацэнкі ўдакладнены ўзважанасцю і цвярозасцю ацэнкі рэтраспектыўнай.

Уводзячы чытача ў свет сваёй гераіні, пісьменніца з першых жа старонак пераходзіць да адкрытага разгляду пытанняў духоўнага жыцця, веры і веравызнання. Адчуваецца, што ёй не проста важна звярнуцца да незаангажаванай тэматыкі, і сапраўды "пазнаць, дзе ж там, у высокай Натуры, месцішча яе мастачковае ego". З трывогай і болем углядаецца яна ў гульні эпохі, разумеючы, як цяжка "ўвайсці ў хаос рэальнасці і ўсё ж захаваць у сабе веру ў парадак і сэнс" (Г. Гесэ). Але тут выратоўвае пэўная адстароненасць, адчужанасць, незалежнасць духу ад чарады падзей: усё адбываецца на фоне часу, але і "з пункту гледжання вечнасці". Гераіня А. Сямёнавай зусім непадобная на знаёмых нам па творах сацыялістычнага рэалізму ваяўнічых змагароў за шчасце і лепшую долю. Сапраўды, з пункту гледжання псіхалогіі ўчынку і дзеяння вельмі дзіўнай выглядае такая вось мадэль паводзін: "Трымайся! Згадвала Дана пані Магду, калі было скрушна і крыўдна, калі рамантычныя мроі раструшчваліся безапеляцыйнай рэчаіснасцю... І брала мудрую кнігу і чытала: "...Бачыў я пад сонцам, што не прыткім даецца ўспешлівы бег, не храбрым — перамога, не мудрым хлеб і не спраўным — благасць, але час і выпадак для ўсіх". Відавочна, што гераіня А. Сямёнавай — перш за ўсё чалавек думкі, сузірання, якому чужая агрэсія спрошчаных уяўленняў пра сутнасць светабудовы.

Аповесць "Святло загадкі" не вырашае ніякіх праблем, не заклікае да спрэчак, але — запрашае да роздуму. Апцымістычны лейтматыў твора абумоўлены настроем думкі аўтара. Менавіта гэта жывіць і акрыляе тэкст. А ўдала выкарыстаныя гумар і іронія дазваляюць пераканаўча прымеркаваць высновы духу да зямной рэчаіснасці. Дзеля чаго напісаны гэты твор? Наўрад ці аўтарка ставіла перад сабой абстрактную звышзадачу: "сказаць праўду пра чалавека ўсіх часоў". Яна пісала гісторыю жыцця. Але найперш — гісторыю душы. І важна тое, што ёй удалося пазбегнуць непераканаўчай камернасці. Убачыць у канкрэтным — сімвалічнае, у асабістым — агульназначнае. Здолець быць адначасова ў будзённым — і над ёй. І сказаць пра ўнутраны свет чалавека сваё і па-свойму — у яго найбольш універсальных і, на жаль, найменш засвоеных сучаснай нацыянальнай літаратурай аспектах.

Аўтарка з уласцівым ёй пачуццём меры і парадку пазбягае эпатажных прыёмаў і эфектаў, але дух наватацый, эксперыменту і творчага пошуку відавочна прысутнічае ў гэтым творы. Вельмі істотна, што ў ім створаны амаль цалкам занядбаны беларускай літаратурай савецкага часу тып патомнага інтэлігента. Менавіта патомнага, таму што бліскуча распрацаваная ў творах М. Гарэцкага, Якуба Коласа, пісьменнікаў так званага "філалагічнага" пакалення тэма працоўна-сялянскай інтэлігенцыі мае зусім іншыя светапоглядныя арыенціры. Рэльефна і пераканаўча выпісаныя, гэтыя вобразы звычайна замяшаны на вострым канфлікце паміж свядомасцю чалавека вясковага і гарадскога, па сутнасці, чалавека без каранёў, які апынуўся паміж двух берагоў — у ім змагаюцца "дзве душы".

Наогул жа, сучасная нацыянальная літаратура, якую досыць доўга папракалі ў правінцыялізме, назапасіла вялікі, ледзь не энцыклапедычны, вопыт у асваенні рэалій вясковага жыцця і сялянскай псіхалогіі. Інтэлігент жа не тое каб застаўся па-за ўвагай, але выглядае тут больш схематычна, спрошчана, цьмяна. У 80-90-я гады, з прыходам у літаратуру У. Арлова, Л. Драньло-Майсюка, А. Асташонка, А. Глобуса, В. Гігевіча, У. Рубанава ўзмацнілася урбаністычная плынь беларускай прозы, лепшыя ўзоры якой сведчаць пра паглыбленне аналітызму і псіхалагізму. У той жа час з'явіліся творы, дзе ўстойліва акрэсліўся тып іранічнага скептыка, атручаната, так бы мовіць, цывілізацыяй і адукацыяй. Шчодра аздобленыя сродкамі эпатажу, тэксты гэтыя глядзяцца кідка, выдаюць навацыяй на фоне досыць аднастайнай у жанрава-стылёвых адносінах прозы папярэдніх дзесяцігоддзяў. Але часам глыбакадумныя душэўныя пошукі ўшчэнт расчараваных, зняверaных і стомленых інтэлектуалаў выглядаюць прымітыўнымі рэфлексіямі няспелай свядомасці. Псіхалагічнае аблічча такіх герояў няўлоўнае, зафіксаваць яго немагчыма, і адчуванне такое, што яго на самай справе быццам бы і не існуе. Асноўная нагрузка прыпадае на знешні малюнак "ролі", на стварэнне формы і ўдасканальванне яе.

Гэтага не скажаш пра героя аўтабіяграфічнай аповесці А. Адамовіча "Vixi". Ён гранічна шчыры ў сваім памкненні быць дакладным, зразумець сапраўдны змест і сэнс сваіх учынкаў, глыбінную іх матывацыю. Не робіць намаганняў спадабацца. Не баіцца быць непрывабным. Галоўнае — выказацца дарэшты. Сутнасна. Пачынаючы твор як "рэпартаж з бальнічнага ложка", пісьменнік разумее, што хвароба прыспешвае яго нья падрахункі з жыццём і, фактычна, ператварае свой твор у грамадзянскі рытуал мірской споведзі. Вядома ж, А. Адамовіч не меў на мэце ачышчэння душы такой споведдзю ў сэнсе рэлігійным. Ён быў чалавекам цалкам свецкім, але з некаторых эпізодаў аповесці відавочна, як атэістычнае выхаванне прыходзіць у супярэчнасць з хрысціянскім светаўспрыманнем. Як бы гэта ні выглядала, — бясспрэчна тое, што пісьменніку вельмі важна было паспець выславіць, аддаць на суд чытача плён свайго жыцця. Ён піша: "Днямі хірургу, які замахваўся на маё тленнае цела ў імя таго, каб падоўжыць яго існаванне яшчэ гадкоў так на 5-10, я адказаў: 5 або 10 над пытаннем для мяне куды менш важныя (патрэбныя), чым адзін год, але без такое рызыкі: яшчэ некалькі раздзелаў няскончанай кнігі ўсё ж зраблю" (аповесць мае падзагаловак: "Завершаныя раздзелы няскончанай кнігі"). Прычым відавочна, што пісьменніка амаль не цікавіць рэакцыя чытача, наадварот, ці сам характар зваротнай сувязі. Важна паспець выказацца. Замацаваць жыццё ў слове. Зрабіць спраўздачу? Магчыма. А можа, і праўда — шчырасцю ачысціць душу, вызваліць яе ад зямнога набытку пражытых гадоў, над якімі ўжо не мае ўлады, але якія маюць уладу над ім. І паспець азірнуцца. І ўбачыць сябе з мяжы быцця і небыцця.

Убачыць, — не выказаць думку пра сябе, а менавіта ўбачыць — задача заўсёды няпростая. І (у межах твора) кожны пісьменнік вырашае яе па-свойму, у рознай ступені маючы патрэбу ў чытацкіх дачыненнях. Дзённік Б. Мікуліча, напрыклад, вельмі "назалежны", адасоблены, маналагічны. "Vixi" і "Святло загадкі" дыялагічныя ў тым сэнсе, што адразу былі задуманы як мастацкія творы і таму мелі, хоць і ў рознай ступені, устаноўку на чытача. Гэту ступень прысутнасці "адрасата" ў творы вызначае ўжо і сама форма паведамлення пачатковых звестак пра героя. У "Vixi" яна выяўленчая (аўтар дае магчымасць чытачу самому рабіць высновы з сітуацыі, апісання, сцэны), у "Святле загадкі" — апавядальная, ад 3-й асобы, таму характар ацэнкі лірычнай гераіні пэўным чынам задаецца пазіцыяй аўтара.

Творы А. Адамовіча, Б. Мікуліча, А. Сямёнавай розныя па форме, спосабе падачы жыццёвага матэрыялу, па самой мастацкай задуме. Лучыць іх патрэба ў самавыяўленні, праз якое ўсведамляецца вартасць чалавечага жыцця. Аб'ядноўвае і моцны нацыянальны пачатак. Трызніць у высылцы — не проста пра вызваленне, а менавіта пра Беларусь — Б. Мікуліч. Родны Навагрудак для А. Сямёнавай — той "малы свет", законы якога з'яўляюцца агульназначнымі. Ці не на самае істотнае для яго пытанне дае адказ А. Адамовіч: "Уся існіна ў тым, што памерці я хачу ў Беларусі, а ляжаць у Глушы... Для вечнасці — Беларусь". Гэты матыў "геаграфічнай" прывязкі для нашай літаратуры досыць звыклы. Доўгі час ён быў адной з падстаў для абвінавачвання яе ў тэматычнай аднастайнасці. Але, магчыма, гэта не абмежаванасць зусім, а спецыфічная форма асваення рэчаіснасці, уласцівая менавіта гэтаму тыпу нацыянальнай і сацыяльнай культуры? Што ж датычыць нацыянальнага характару — дык у аўтабіяграфічным творы ён выступае ў сваёй, бадай, найбольш натуральнай праяве, адпавядае самаразвіццю жыццёвых падзей і абставін. І тут выяўляецца новы ракурс старой праблемы — праблемы літаратурнага героя, якую ў 70—80 гады абмяркоўвалі на старонках друку і працаўнікі крытычнага цэха, і прадстаўнікі акадэмічнай навукі, і вольныя мастакі слова, і нават проста дасведчаныя чытачы. Лірычны герой у аўтабіяграфічнай літаратуры атаясамліваецца з аўтарам, і праблема датычыць перш за ўсё суаднесін паміж падзеямі ўнутранай і знешняй біяграфіі ў творы, яго фактал агічным і псіхалагічным аспектамі. Менавіта характар гэтай прапорцыі, дарэчы, вызначае і асаблівасці жанрава-стылёвага дыяпазону: ад хронікі да плыні свядомасці. Тут істотна не толькі тое, у якой ступені аўтар прытрымліваецца рэалій сваёй біяграфіі, але і тое, наколькі выразна і адпаведна ён выяўляе сябе як асоба.

Натуральна, што пісьменніку цяжка быць аб'ектыўным у адносінах да самога сябе. І прычынай тут нават не грэх самаідэалізацыі, а, хутчэй за ўсё, несупадзенне індывідуальных вартасных арыентацый, асаблівасці ўспрымання. З заганнасці вынікаў саманазірання бярэ пачатак яшчэ адна праблема — аўтабіяграфічнай дакументальнай асновы і вымыслу. "Версія чалавека пра самога сябе далёка не заўсёды самая дакладная", — сведчаць псіхолагі. Сапраўды, каб даць аб'ектыўную ацэнку асобе, сцвярджае іспанскі пісьменнік М. Унамуна, трэба ўлічыць як мінімум тры яе іпастасі: "... асоба як яна ёсць, асоба як яна ўяўляецца сабе самой і асоба як яна ўяўляецца іншай асобе". Гэта, вядома ж, варыянт ідэальны: на практыцы непазбежныя аберацыі. Разам з несвядомым вымыслам, які тлумачыцца натуральнымі асаблівасцямі памяці і ўспрымання, часам існуе ўстаноўка на вымысел свядомы — такі, якога вымагае канкрэтная сітуацыя, час, асяроддзе, індывідуальныя асаблівасці і здольнасці. Іншымі словамі (пра гэта ўжо ішла гаворка), у аўтабіяграфічнай літаратуры досыць адчувальная — свядомая ці несвядомая — арыентацыя на "сацыяльны заказ".

Вопыт звароту да дакументальна-мастацкай прозы сведчыць пра новыя магчымасці паглыблення псіхалагізму і аналітызму нашай літаратуры. І ў тым, што багата творчых знаходак здараецца сёння на ніве жанраў аўтабіяграфічных — няма нічога дзіўнага. Проза гэтага кшталту, магчыма, напярэдадні сваёй "зорнай гадзіны". На такія думкі наводзіць, па-першае, апеатыўнасць дакументальна-мастацкіх жанраў, што адпавядае сучаснаму рытму жыцця. Па-другое, заўважым, не маючы на мэце прыніжаць вартасць іншых здабыткаў прыгожага пісьменства: праз аўтабіяграфічны твор — найкарацейшы, непасрэдны шлях да выяўлення індывідуальнасці, самапазнання асобы. А гэта — ці не галоўная задача літаратуры?

ЧАСОПІСЫ

# Графская сяўба заўсёды "кстати"...




У лексічнай адзінкі "граф" ёсць два значэнні: "граф" — тытул высакароднага пана, і "граф" — ад лацінская графо — пісаць, корань слоў з адпаведным сэнсам. Абодва гэтыя значэнні абыгрываюцца ў рускамоўным літаратурным альманаху "Кстати", другі выпуск якога выйшаў напрыканцы мінулага года пры фінансавай дапамозе Беларускага аддзялення фонду Сораса. На вокладцы сціпла абазначана: "современная славянская графомания". Але няхай даверлівы чытач не падманваецца. Таму што аўтары і выдаўцы часопіса маюць на ўвазе хутчэй "тытулярнае" значэнне слова "граф", тым болей, што такі персанаж існуе ў рэальнасці, дакладней — у віртуальнай рэальнасці: стары Граф, які ў кампаніі з Белай мышшу Мільдай і "Звягай" (Брюзгой) Лімбертам здзяйсняе своеасаблівы канферанс на старонках альманаха. Чым адразу ж (яшчэ з вокладкі) ствараецца атмасфера "літаратурнага капусніка", і хаця сябры — віртуальныя і рэальныя — клуба "Кстати" называюць дачыненна да сваёй творчасці розныя сур'ёзныя тэрміны — авангардызм, мадэрнізм, сімвалізм, постмадэрнізм, — стылёва вызначыць альманах можна хутчэй як эклектыку, а эмацыйна ён моцна нагадвае самаробныя студэнцкія часопісы і шматыражкі, без якіх не абыходзіўся ні адзін факультэт творчых вузаў. Разняволенасць, гульня ў літаратуру — можна назваць як заўгодна. Але трэба зазначыць, што некаторыя творы ўсё-ткі сур'ёзней сваёй гулліваманернай "кстатийной" абгорткі. Хаця аматар вызначаць наследаванні і перайманні прайшоўся б і па гэтых творах са скепсісам віртуальнага Лімберта. Што ж, рускамоўныя юныя літ-славяне займелі магчымасць выказацца на ўвесь свет на максімальна даступным ім узроўні. Як гаворыцца, можаце кінуць у іх камень, але не кажыце, што гэта нецікава.

Што тычыць тэм, то яны раскрываюцца ў трох асноўных напрамках: геданістычна, узвышана-рамантычна ці выкрывальна-саркастычна. Але падтэкст заўсёды адзін: трагедыя юнага геніяльнага рамантыка, якога не разумее прымітыўны будзённы свет, але які ўнутрана шчаслівы ўсведамленнем уласнай геніяльнасці.

Пра геніяльнасць казаць не выпадае, а пра літаратурныя здольнасці многіх аўтараў сведчаць іх творы. Якім часам не хапае не столькі працы над словам (дзякуй Богу, усе начытаныя, а інтэлект дазваляе засвоіць любы літаратурны прыём), а хоць трошкі таго болю, тае трагічнай падсвядомай свядомасці, якая, няхай глыбока прыхаваная, надае вершу моц кранаць душы чытачоў, запальваць іх сваім агнём, абуджаць высокае пачуццё. Існаваць у віртуальнай рэальнасці пісьменніку нельга. Але што ўжо гэта я — такім "высоким штилем"?.. Гульнёвая ж інтанацыя напрамую дэкларуецца альманахам, і гэта не горшая з магчымых інтанацый. І дакараць маладых за тое, што яны ма ладыя, гэтак жа бессэнсоўна, як гадаць, хто з аўтараў сённяшняга альманаха станецца сур'ёзным літаратарам, а хто — застанецца віртуальным. Можна толькі пагадзіцца са словамі Графа на апошняй бачыне вокладкі: "Более зерняў — больш усходаў".

Тым болей, што ўзыходзяць яны ўсё-ткі на гэтай, канкрэтнай, беларускай зямлі.

**Л. Р.**

Ён яшчэ нешта гаварыў, але яго ўжо было не разабраць. Пасля дарога звярнула ў лес, і ён схаваўся адразу з воч.

Падаслаўшы фуфайку на сядзенне на плугах, адкуль злез нядаўна Красоўскі, я сеў на яе і доўга глядзеў яму ўслед. Там, у зялёным, яшчэ ліпкім маладым бярозавым лісці, чыркала сарока, але яе нідзе не было відаць.

Перастаў сапсці трактар, з радыятара не капала вада, сціхла сарока і зрабілася так ціха і ў лесе і на ўсёй Жукаўшчыне, што аж шорах пайшоў па спіне... У тым баку, дзе схаваўся Красоўскі, сонца, вялікае і чырвонае, дагарала за соснамі ўвачавідкі, паявіліся дробныя камары, у вочы палезла машка...

Цямнелася. На сядзенні стала нязручна, вяла ў бакі галава, можна было зваліцца пад плугі, і я злез з яго, забраўшы фуфайку, і падышоў да трактара. Ён ужо быў халодны і густа пах карасінай..

Тады я ўспомніў, што гаварыў Красоўскі, і, узлезшы на трактар, хуценька сцягнуў з сядзення вялікую, цяжкую зашмальцаваную “ватоўку”. Адразу я не ўгадаў — скарынка ляжала ў другой кішэні...

Гэта быў кавалачак дамашняга хлеба, які пякла трактарысту Сяльвестрыха — ёй адпускалі са свірна муку — невялічкі, з дзіцячую далоньку, счарсцвелы за паўдня, укачаны ў мазут і карасіну, — відаць, Красоўскі пакінуў яго адумысла для мяне...

Я еў хлеб ужо ноччу, не спяшаючыся і не баючыся, што хто-небудзь убачыць, што я ем хлеб, гаркаваты ад карасіны і такі салодкі, што раставаў у роце сам.

Я еў хлеб, а ў канцы Жукаўшчыны з-за лесу, з-за Рабога Калодзежа выплывала поўня. Вялікая, круглая, чырванаватая між дзвюма ружовымі палосамі. З-пад Рабога Калодзежа пакаціўся на ўзаранае поле круглымі клубамі белаваты туман.

Апрануўшы сваю фуфайку — нацягнуў аж на галаву — і ўзяўшы фуфайку Красоўскага, я лёг ля самага трактара збоку на ладную зялёную траву, густую і мяккую, якую заўтра раніцай перакінуць і схаваюць пад чорнай раллёй плугі.

Фуфайку Красоўскага, нядаўна яшчэ новую, праштабнаваную і ўспухлую ад ваты — ён палучыў яе ў эмтээсе, — я акруціў каля ног, схаваўшы ў рукавы халодныя ступні.

Вечар быў волкі. У фуфайках я пачаў сагравацца, і мяне марыў сон. У Лесніках, самай блізкай адсюль вёскі, доўгай, перасечанай пасярод надвае старасвецкай ездавой дарогай,залескаталі па каменні нейчыя позні калёсы, і забрахаў сабака, асцярожна, як баючыся. Калі прыслухацца, збоку ў ельніку, дзе Красоўскі часта хаваў з воч калёсы з бочкамі, яшчэ цінькалі патрывожаныя некім сініцы, рэдзенька і ціха, як перашэптваліся.

Поўня, вялікая і чырванаватая, узышоўшы з-за Рабога Калодзежа, павісла ўжо над Леснікамі. Паменшала і пабялела. Каля яе заблішчэла неба, хаваючы дробныя зоркі. Насустрач папаўзлі рыхленькія белыя палоскі.

Я ляжаў і глядзеў на поўню. На ёй, на белым застылым малацэ, былі добра відаць цемнаватыя плямы, як усё роўна пакінуў хто ад далані, дакрануўшыся рукой.

Яна была так блізка ад зямлі, што захацелася раптам падняцца і ўзляцець туды, дзе ціха, светла і радасна... Яна цягнула да сябе, як немаведама чым...

Здалося пасля, што яна свеціць дома праз акно ад гарода ў хату пад самы ложак. Ад яе вузкі белы квадрат — ад акна — ляжаў нейкім цёплым і насцярожаным дымным ценем...

Хацелася тады ўстаць з ложка, выйсці на двор і пайсці затуманеным логам да рэчкі — немаведама куды...

Поўня раптам пабольшала, зрушылася з месца і пачала падаць зверху на зямлю... На Лесніке, дзе ўсё яшчэ брахаў глухім голасам сабака...

Я ўздрыгнуў і адплюшчыў вочы. Змарыў быў першы сон.

Поўня вярнулася на месца. Белыя вузенькія рыхлыя палоскі зноў ляглі ў яе на дарозе.

Туман, прыплыўшы ад Рабога Калодзежа, схаваў бярозавую, доўгую, праз усё поле, паласу і разам з ёй калёсы з бочкамі. Толькі трактар чарнеў сваім вялікім, аж да зямлі, брухам і бліпічаў пад месяцам белым, вышараваным аб пясок, зуб’ем на колах. З радыятара зноў закапала вада, толькі радзей. Вылецеў з лесу і залапатаў крыллем кажан, чорны, ён добра быў відаць у сівым тумане.

Сагрэўшыся, я доўга ляжаў з адплюшчанымі вачыма. Поўня сышла ўжо з Леснікоў і вісела высака ўгары над Ямскім — недзе на паўдарозе да нашага Задроздзя. Беленькая і круглая, прыплюшчыш вочы — ад яго адразу адскоквае дзве, а то і тры такія поўні, — яна плыве і плыве насустрач белым кучаравым палоскам, пакуль зноў не зрываецца і не падае на лес...

Зноў спопаразку адплюшчваеш вочы і глядзіш на яго, спалохаўшыся і натапырыўшыся. Ціха, толькі кажаны мітусяцца над трактарам, даганяючы адзін аднаго, нават папіскваюць, і ўсё капае з радыятара вада.

Праз якую гадзіну, калі зноў упала зверху поўня, здалося, недзе на самы трактар, я ўжо не змог адплюшчыць вачэй. Падцягнуў толькі да сябе ногі, сагнуўшы ў каленях...

І калі недзе нада мной, там, дзе нядаўна вісела маленькая белая поўня, заракатаў на ўсю ціхую раніцу трактар, я ўсё яшчэ не мог адплюшчыць вачэй. Аж пакуль Красоўскі, нагнуўшыся да мяне, не сцягнуў з ног сваю фуфайку. Трактар ён прыглушыў, і я добра пачуў яго смех:

— Аказваецца, ты храпеш... А я і не ведаў... Так храпсці — можна ўсіх ваўкоў паразганяць з Жукаўшчыны на край свету... Х-хе... Не гаворачы ўжо... — ён памаўчаў, — пра злодзеяў. Які тут злодзі...

Я падняўся, увесь халодны і складзены не з рук і ног, а з драўляных палак... Не мог стаяць...

Над Рабым Калодзежам, дзе нядаўна яшчэ ўзыходзіла халодная чырвоная поўня, стаяла такое ж чырвонае сляпучае сонца. Нават грэла. З поля спаўзаў туман, падымаючыся ля бярэзніка ўгору.

— Нічога... Сагрэешся на дарозе... Пясок яшчэ ад учарашняга цёплы. Не астыў. Чуваць праз гумовыя боты. Па пяску, па пяску... І не пазніся вечарам. Што, ніхто не падыходзіў ноччу? Нічога, Волька ўсё роўна паставіць табе за гэта працадзень... Ну, не стой. Сам спраўлюся. Які ты мне памачнік...

Я стаяў і чакаў — а можа, што прынёс Красоўскі. Хоць на адзін зуб. Але ён нічога не даў. А хоць калі даваў і раніцай, прыносіў...

Трактар, залескатаўшы, заглушыў усё на свеце.

Я ішоў да дарогі па расяной траве, а ў зацёклыя за ноч рукі і ў ногі дробненька калолі востранькія мурашкі...

2

З Жукаўшчыны, з горкі, па пяску было лёгка і мякка ступаць, і я не агледзеўся, як ужо быў у Бярэзаўцы ля моста праз крыніцу. Гэтым месцам да дарогі на Жукаўшчыну далучалася другая, шырэйшая і больш прытоптаная леспрамгасаўскімі машынамі, якія вазілі бярвенне да Віліі на сплаў.

Калі ўжо зусім прыціх далёкі трактар у Жукаўшчыне — было чуваць толькі, як ён дробненька стракоча ў майскай празрыстай цішыні, — у Бярэзаўцы азваўся позні салавей. Так ужо заходзіўся, і недзе зусім блізка ля дарогі...

У Бярэзаўцы да мяне прычапілася сарока. Застракатала на ўвесь голас, спалохаўшыся сама і спалохаўшы мяне. Скача спераду з бярозкі на бярозку, апярэзаная белым шырокім паяском, і стракоча. На гасця?

Пералятаючы з аднаго боку дарогі на другі, як утрапёная, яна прывяла мяне аж на леспрамгасаўскі ўчастак, дзе стаяла нядаўна збудаваная за які год вялікая, з жоўтага чэсанага бярвення, кантора. Ля яе воддаль была кузня, лазнясушылка і доўгая, аж на тры такія канторы, канюшня.

Я заўсёды любіў забягаць на ўчастак: возчыкі, рэзчыкі, машыны-чугрэі з печамі ля кабіны і з прычэпамі. Забягаў і ў саму кантору.

Але сёння ў кантору забягаць не хацелася... Там з магазінчыка, які быў якраз насупраць дзвярэй, калі зойдзеш у калідорчык, заўсёды пахла хлебам і салёнай траской... Але і хлеб, і траску давалі толькі рабочым і толькі па маленькіх ружовенькіх картачках і за грошы. Я ўжо даўно бачыў такія картачкі ў рабочых. Глядзіш на дробненькія чорныя літаркі на іх, а ў вачах бегаюць дробненькія чорныя галодныя мушкі... Ад паху салёнай траскі і ад дробненькіх мушак круцілася ў галаве і можна было ўпасці — памаленьку асунуцца на зямлю, дзержачыся за сцяну...

Сёння праз участак я толькі прайшоў. Ля канторы і ля канюшні. На ўчастку было пуста — усе ўжо раз’ехаліся і разышліся. Былі чуваць толькі мужчынскія галасы ў канторы, і ў кузні звінела пад малатком кавадла.

Мінуўшы канюшню, я выйшаў на вузкую дарогу, што між маладога сосніка вяла ў вёску — дамоў, і пайшоў сцежачкай — веласіпеднай дарожкай, ступаючы па прыгожых пакручастых слядах ад веласіпедаў, на якіх на ўчастак ездзілі рабочыя.

Дзяўчат я згледзеў здалёку: ішлі ўпобачкі, памалу, не спяшаючыся — былі якраз на палавіне дарогі да вёскі. Дзве...

Можа б, я іх і не дагнаў, але яны ішлі ўжо так паволі, што праз якую хвіліну я ўжо быў каля іх.

Можа б, я іх і зачапіў, але я пачуў, што яны гаварылі між сабой па-свойму, па-чужому... Назад ні разу не азірнуліся.

Соснік тут быў малады, уперамешку з кунатымі бярозкамі. Бліжэй да вёскі — адны дробныя сасонкі.

Дзяўчаты так і ішлі ўпобачкі: то бліжэй да бярозак, то далей, як выбіраючы лепшую сцежку пад нагамі. Якую хвіліну, параўняўшыся, я ішоў побач з імі, ну, можа, на паўкрока ззаду, тады на паўкрока спераду.

Адна з іх, вышэйшая, была коратка стрыжаная — валасы чуць хавалі шыю. Русыя, нават светлыя, паднятыя высака на галаве. Чыстая з твару, бялявая і прыгожая-прыгожая... Вочы ў яе, блакітныя, бліпічэлі і сама яна ўся была нейкая бліскучая. Чырвоная сукенка на ёй аж пералівалася....

Другая, меншая, ёй па плячо, з тугой цёмнай касой на спіне. Ладнай, рукой не абхапіць, і сплеценай неяк адмыслова (так у вёсцы ніхто не заплятаў) і доўгай — да пояса.

Была яна ў блакітным сачыку і караткаватай, да калень, блакітнай спадніцы. Цямнейшая і круглейшая з твару, і вочы ў яе былі вялікія, круглыя і цёмныя. І насы ў іх, у абедзвюх, былі невялічкія, прамыя і прыгожыя.

На нагах у іх былі аднолькавыя чырвоныя басаножкі, у руках чырвоныя невялікія сумачкі.

“Сёстры, ці што? — падумалася першае, што прыйшло ў галаву. — Відаць, сёстры...”

У мяне дробненька забілася ў грудзях маё недзе зусім яшчэ вераб’інае сэрца... Такіх прыгожых дзяўчат — маіх равесніц — у свае пятнаццаць гадоў я ніколі яшчэ не бачыў: ні ў вёсцы, ні ў школе...

Мінаючы іх, я яшчэ раз павярнуўся, зірнуў ім у твар і пачуў, як мне ўсяму зрабілася горача, — ад самой начы яшчэ ніяк не мог сагрэцца дарогай... Ногі неяк самі паднялі мяне ад зямлі і я, босы, пад пахай фуфайка, прыціснутая рукой — рука ў кішані, — прыбавіў кроку па траве і па верасе, пакідаючы дзяўчат ззаду. Можа б, я і загаварыў да іх, але яны, як і перш, ішлі сцежачкай адна ля адной і гаварылі ўсё, гаварылі па-свойму між сабой...

Мяне як што ўскруціла — падхапіла і панесла... Я сам не свой хутка-хутка пайшоў, прыбаўляючы і прыбаўляючы ў хадзе да вёскі...

На мяне яны нават не зірнулі.

А мяне раптам ахапіла нейкая шалёная радасць... Але, узрушаны, я баяўся нават азірнуцца, каб чым няўзнак не выдаць сябе...

Забегшы ў свой двор, зачыніў вароты і стаў за высокім тынам, каб аддыхацца...

Думаў: а можа, яны зойдуць на двор — на двары ж у нас студня, адна ў гэтым канцы вёскі, і хто толькі не спыняўся і не заходзіў, каб папрасіць вады: і рабочыя леспрамгаса, і шафёры, і так прахожыя. Бывала, што вялікая чорная кружка так і стаяла на студні ля вядра цэлы дзень — каб не бегаць і не выносіць кожны раз з хаты.

Мне хацелася яшчэ раз зірнуць на меншую, з цёмнай касой і вялікімі чорнымі вачыма...

І чаму я не загаварыў да іх... Што быў босы? У пасівелых, некалі чорных, картовых штанах? З зашмальцаванай фуфайкай пад пахай?

Яны спусціліся з дзядзінца ад Бацяновых соснаў, памалу прайшлі каля хлева. Гаварылі ўсё адна з адной пасвойму, — на тын і на вароты, ля якіх я стаяў, яны нават не зірнулі.

Я яшчэ думаў, што яны сядуць на лавачку ля нашага гародчыка пад бэзам, але яны, занятыя сабой, прайшлі міма.

Я, як апантаны, стаяў ля варот і глядзеў, як яны за паваротам спусціліся з моста і сталі падымацца на грэблю.

Мяне адрывала ад зямлі і мне хацелася некуды ляцець...

На грэблі падняўся пыл ад леспрамгасаўскага прычэпа і схаваў іх з воч...

3

Назаўтра раніцай, прыйшоўшы ад трактара, — хутчэй бы ўжо ўзаралі Жукаўшчыну, і яго перагналі ў Сушкава, у другі калгас — я быў якраз на двары, калі да нас прыбегла Петрусіха — старая ўжо жанчына. Жыла яна ў нашым канцы вёскі, насупраць маста. У яе, у вялікай хаце, была калгасная канцылярыя. Маленькая, сухенькая Петрусіха сагнулася, нахіліўшыся да мяне, — яшчэ больш паменшала — і, азіраючыся па баках, хуценька прашаптала, каб я адразу бег да канцылярыі: мяне чакае ваенны. Сказала і назад у вёску не пайшла — пабегла некуды на ферму.

Вуліца ў нашым канцы была крывая, і з-за павароту я здалёку згледзеў на дзядзінцы, на бугры ля свіронка — насупраць канцылярыі стаяў невялікі свіронак — знаёмы ўжо трафейны нямецкі матацыкл з каляскай. На ім ездзіў энкавэдзіст з раёна капітан Дувалаў. Я яго бачыў часта. Рослы, маладжавы, круглатвары, прыгожы, у ваеннай гімнасцёрцы з туга загнанымі назад пад рамень фалдамі, у галіфэ, у бліскучых — хоць ты хавай іх ад сонца, няма як глядзець — сцёбаюць па вачах — хромавых ботах, у залатых пагонах з сінімі канцікамі і з чатырма зорачкамі, у новай фуражцы з сінім акалышкам, паднятай брылем высака ўгару, ён заўсёды доўга стаяў ля канцылярыі на бугры, шырака расставіўшы ногі, і глядзеў у той канец вёскі. Стаіць з паўгадзіны, пасля павернецца і глядзіць у наш канец, у лес, — кабура пісталета ў яго ад гэтага то з аднаго, то з другога боку.

Тады ўтаропіцца на выганчык — на Кур’янаўшчыну, аж падымаецца на насочкі ў бліскучых хромавых ботах.

Рабіць яму не было чаго, ці што...

Капітан Дувалаў паказаў мне рукой, каб я ішоў адразу ў канцылярыю, і падаўся за мной, згінаючыся ў не такіх ужо нізкіх дзвярах: быў і праўда высокі.

*(Працяг на стар. 14—15)*

Іван ПТАШНІКАЎ

# ФРАНЦУЖАНКІ

АПАВЯДАННЕ



## Кароль фагота



**Іграе ён на прыгожым і досыць рэдкім інструменце. І менавіта гэты інструмент прынёс яму конкурсныя лаўры, аўтарытэт у музыкантаў-прафесійнікаў, добрую славу Педагога.**

**Імя Уладзіміра Будкевіча загучала ў беларускім музычным асяроддзі, здаецца, досыць даўно. А між тым яму толькі днямі споўнілася 50. Мінімум два дзесяткі гадоў таму яго ўжо ведалі як бліскучага саліста, артыста аркестра Акадэмічнага тэатра оперы і балета, дзе партыя фагота ў *ягоным выкананні цешыла слых* дасведчанай публікі.**

**Заслужаны артыст, прафесар Беларускай акадэміі музыкі... Адметная асоба! Свой "залаты" юбілей Уладзімір Уладзіміравіч сустрэў у досыць шырокім коле таленавітых вучняў і калег. І ў коле несканчоных мастацкіх планаў. Цяпер ён — удзельнік выбітнага ансамбля духавых інструментаў, які існуе ў структуры Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі і якім кіруе знаны музыкант, прафесар Барыс Нічкоў. Ансамбль рыхтуе віртуозную праграму, каб выступіць на Другім фестывалі камернай музыкі, што адбудзецца ў Нясвіжы пры канцы вясны.**

**Але пакуль на календары — сакавік, і кароль фагота прымае юбілейныя віншаванні ды кампліменты... чарадзейнаму, красамоўнаму, вабнаму "голасу" свайго гаваркога і пявучага інструмента.**

**С. Б.**

*Фота Віт. АМІНАВА*

## "Лепей зрабіць новы сасуд..."

**У МІНСКУ ПРАЙШОЎ КАНЦЭРТ ВЯЧАСЛАВА МАЛЕЖЫКА. ГЭТА БЫЎ ЧАРГОВЫ ПРАЕКТ З ЦЫКЛА "ЗАЛАТЫЯ ІМЁНЫ 80-Х", ЯКІ ПРАВОДЗІЦЬ "КЛАС-КЛУБ".**

**Як ацэньвае крытыка, Вячаслаў Малежык не з'яўляецца "ідалам, ён — адзін з тых нешматлікіх эстрадных "зорак", чыя рэпутацыя не мае нават адцення скандальнасці". Паводле прэс-рэліза, складзенага арганізатарамі канцэрта, Вячаслаў Малежык уваходзіць у першую пяцёрку эстрадных выканаўцаў (па стане на 1994 год).**

**Пра музычныя схільнасці Малежыка сведчыць той факт, што ў 65-м годзе, а трэцяй гадзіне раніцы, на Краснай плошчы ён выконваў песні "Бітлз". Ён захапляўся рок-н-ролам, аднак у ягонай творчасці адчуваюцца традыцыі рускага фальклору. Падчас канцэрта зала зладжана апладзіравала і нават хорам падпявала спеваку. Сам Вячаслаў спяваў пад гітару, раяль і без суправаджэння. Здаецца, ён аднаўляў сінкрэтычную манеру выканання — спяваў і хадзіў паміж радамі. Жадаючыя маглі не толькі заказаць любімую песню, але выйсці на сцэну паціснуць руку "зорцы" ці паспяваць у дуэце са знакамітасцю.**

**Падчас прэс-канферэнцыі Малежык абураўся тым, што многія журналісты дрэнна валодаюць роднымі славянскімі мовамі, засмечваюць іх скажонымі англійскімі словамі. Што датычыцца палітычных перакананняў, то ён два гады таму пачаў успрымаць Украіну і Беларусь як самастойныя дзяржавы. Даючы ацэнку сённяшнім палітычным працэсам, ён адзначыў, што лягчэй зрабіць новы сасуд, чым імкнуцца сабраць аскепкі. Наогул, на думку выканаўцы, пасля ягонай музыкі наўрад ці камусьці захочацца слухаць маршы. У гэтым — пазіцыя спевака.**

**Лесь ТУР, Іра ІНІНА**

# Аляксей ДУДАРАЎ: "Зрабіць можна толькі тое, што магчыма"

***Свята на тэатральнай вуліцы — юбілей, спраўнае пяцідзесяцігоддзе Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі. Напэўна, свайго роду свята — чарговы з'езд саюза, які распачнецца 26 сакавіка. З'езд мінулы, а ён адбыўся ў 1992 годзе, на пасаду кіраўніка, старшыні саюза абраў драматурга Аляксея ДУДАРАВА. Сваю дзейнасць на гэтай пасадзе новаабранец пачаў з таго, што пастанавіў... віншаваць з кожным святам усіх ветэранаў сцэны. Пасля першага ж віншавання старшынёўскі стол схаваўся пад лістамі: ветэраны адказвалі... узаемнасцю. Народны артыст з Магілёва адпісаў: маўляў, зразумеў, што жыццё пражыта недарэмна...***

— Ім, ветэранам сцэны, гэты саюз мо больш патрэбны, чым чалавеку, які кожны дзень заняты працай на сцэне, — Аляксей Дудараў стрымана тлумачыць акалічнасці той невясёлай гісторыі. — У ветэранаў становішча іншае. Актыўнае творчае жыццё запаволілася. Кветкі, апладысменты, званні... мінуліся. І справа не ў дрэнным дырэктары або рэжысёры, які роляў не дае, а ў тым, што кожны чалавечы ўзрост вымагае свайго. А чалавеку сцэны запаволенасць жыцця не ўласцівая, ён нібы ў вакууме апынаецца. Дык вось саюз, наколькі атрымліваецца й сродкі дазваляюць, гэты вакуум запаўняе. У халодным і напалову раскіданым Доме мастацтваў збіраюцца нашы ветэраны сцэны. П'юць — часам і налівачку да чаю. Адзін аднаму чытаюць вершы, спяваюць, успамінаюць. Пры чым тут саюз? Ён проста дапамагае сустракацца і калегаваць. Мо гэта самае першае і самае важнае з таго, чым саюз павінен займацца.

**— А чым саюз не павінен займацца?**

— Пяць-дзесяць гадоў таму СТД нагадваў... міністэрства тэатральных спраў. Бо займаўся і тэатральнай адукацыяй, і драматургіяй, і майстэрствам акцёра... На ўсё цяпер не хапае сродкаў, а рабіць, як калісьці, дзевятнаццаць секцый? Жыццё браць у рамкі? Ды на гэта мусіць быць цэлы дзяржаўны бюджэт! Плюс сто чалавек апарату. Саюз нічым не павінен займацца дзеля адчэпнага. А павінен — тэатральнымі святамі, фестывалямі, творчымі вечарынамі — як і матэрыяльнай дапамогай членам саюза. Не толькі ветэранам, іх, дарэчы, каля двухсот пяцідзесяці сярод тысячы двухсот сарака членаў. Але і маладым, — з іх таксама, бывае, раз-пораз хтосьці трапляе ў крытычнае становішча...

**— Ад калег, ад крытыкаў, ад кіраўнікоў абласных тэатраў неаднойчы чула нараканні: маўляў, прадстаўнікі СТД з'яўляюцца ў тэатрах рэдка, крытыкі не прыязджаюць, стан тэатраў і спектакляў не ацэньваецца...**

— Выязныя прэзідыумы або брыгады крытыкаў (і, пажадана, розных) раз на квартал у тэатры — павінны быць. Абавязкова. Мы займаліся гэтым, але, як высвятляецца цяпер, недастаткова. Прычына? Банальная. Брак сродкаў. Раней? Раней да Масквы білет быў — чатырнаццаць рублёў. А да Віцебска на самалёце — дзевяць. А цяпер трох крытыкаў цягніком у той самы Віцебск выправіць і аплаціць ім усе выдаткі... Праблема! Але будзем рабіць усё магчымае, каб на гэта і надалей сродкі знаходзіць.

**— А на якія сродкі існуе сам СТД?**

— Казаць пра ўзносы, вядома, смешна. Некалькі разоў на прэзідыуме заходзіла гаворка, каб іх павялічыць (хоць бы на дваццаць тысяч), але гэта нічога не дасць саюзу, а вось ад артыста адбярэ. Дзякаваць Богу, у СТД яшчэ ёсць мастацкі камбінат, які яшчэ працуе. Ён, вядома, змяніў свой профіль: раней, бачыш, ці не кожны працоўны калектыў меў або мусіў мець так званую мастацкую самадзейнасць (хор, гурток і т.п.). І ўсе заказвалі касцюмы, вышыванкі, спадніцы, кулісы... Апошнія пяць гадоў — як адрэзала. Ад заказаў — як ад самадзейнасці. З прычын абсалютна зразумелых.

**— Некаторыя камбінатаўскія майстры мусяць зусім перакваліфікоўвацца...**

— Замест канцэртных убораў шыць бялізну. Ім хоць зарплату зарабіць... Так, мы перажылі некалькі бурлівых сходаў са спасыланнем на... Ларысу Пампееўну Александроўскую ды Мікалая Мікалаевіча Яроменку: пры іх, даводзілі нам, усё квітнела й рунела. Я шаную сваіх папярэднікаў. Яны, як і я, рабілі тое, што маглі зрабіць. Усё, што яны напрацавалі і нарыхтавалі, натуральна перайшло да нас, — і дадатнае, і адмоўнае. Але так званы росквіт быў не пры Александроўскай або Яроменку, а пры пэўнай грамадска-эканамічнай і палітычнай сістэме. У пэўных прапанаваных абставінах.



Калі з таго самага ЦК КПСС толькі што не ў тэатр маглі патэлефанаваць і папытаць: "А пачаму ў вас нету самадзеяцельнасці?" І "самадзеяцельнасць" узнікала, і яе абувалі, адзявалі... Дый тады саюз карыстаўся значнымі льготамі, якіх мы пазбаўлены з красавіка 1996 года. І як ні пішам, якія паперы ні носім нават да прэзідэнта, але я разумею, што з гэтага нічога не будзе. Нас проста абуваюць у лапці. Хочуць, каб мы стаміліся і кінулі, і адчапіліся. Мо ў гэтым ёсць прывід рацыі: чаму творчыя саюзы мусяць мець прыдатныя ўмовы, а не такія самыя, як усе грамадскія арганізацыі? Хоць гэта пытанне вельмі спрэчнае: творчыя саюзы аб'ядноўваюць мастацкую эліту краіны. Калі нашым чыноўнікам выгадна, яны адразу спасылаюцца на тое, як падобная праблема вырашаецца ў замежжы (вось за мяжой, маўляў, ніякіх ільгот!). Але калі за мяжой чалавек вядомы на ўсю ўласную краіну і ў яго аўтографы на вуліцах просяць, калі ён не апівоха, не прайдзісвет, дык ці будзе ён мець 25 долараў пенсіі? Жыць у хрушчоўцы, якую не ў стане адрамантаваць? Пра гэтыя прыклады чыноўнікі... акуратненька маўчаць. За мяжу не адсылаюць. Таму саюз, мяркую, як ніколі патрэбны ў нашых дзікіх умовах: каб нечым дапамагчы творчым людзям, пра якіх адразу ж забываюць, варта ім адслужыць сваё і аддаць усё, што можна. Забывае не толькі дзяржава, але, што самае крыўднае, і ўласны калектыў. Той самы, дзе чалавек прапрацаваў усё жыццё.

**— Аляксей, а наколькі супалі твае ўяўленні пра дзейнасць старшыні СТД з тым, што яна, гэтая дзейнасць, з сябе ўяўляе на самай справе?**

— Не супалі зусім. Або — па бальшыні не супалі. Хачу шчыра папярэдзіць прэтэндэнтаў на старшынёўскае месца: сам меркаваў, што мае папярэднікі штосьці рабілі не так, а я, маўляў, усё зраблю іначай, і ўсё будзе лепш і дабрэй. Але зрабіць можна толькі тое, што магчыма зрабіць! У Доме мастацтваў, напрыклад, апошні рамонт быў, напэўна, тады, калі я пайшоў у школу, а мне сорак сем гадоў. Там усё згніло. З 1991 года (з-за інфляцыі) грошай хапала толькі на тое, каб Дом мастацтваў утрымаць ды захаваць апарат СТД з 15 чалавек. Куды важней было па сорак рублёў даплачваць да пенсій ветэранам! І Саюз апынуўся перад фактам: ён не ў стане адрамантаваць свой уласны дом. Я прыму любы папрок, але хай скажуць мне: як гэта было зрабіць? Хіба аддаць у арэнду першы паверх гадоў на дваццаць пяць, але арандатары, хоць і знаходзіліся... баяліся! Рамонт рабіць — дарага. А баяліся таго, што прыйдуць людзі, скажуць "спасіба, таварышчы" і адбяруць адрамантаваныя сцены: сёння ў дзяржаве няма стабільнасці. Дзякуй Богу, у сёлетнім лютым з дапамогай віцэ-прэм'ера Русакевіча нам далі сякія-такія сродкі на рамонт (амаль два мільярды на пачатак, між тым адна праектная дакументацыя каштуе сотні мільёнаў). А пансіянат "Тэатральны"? Пра яго ў мяне таксама было ўяўленне, як ва ўсіх нас, якія маёмасці не мелі і ўтрымліваць яе патрэбы не было. Думаў: ёсць маёмасць, нярушнасць, дык мусіць даваць прыбытак! А... плаціць — за святло, за ваду, за газ, за рамонты? Або адпакутаваць з трубамі, якія, як высвятляецца, не такія і не таго дыяметру? Між тым, члены саюза мяркуюць, што калі яны плацяць узносы, дык пансіянат — да іх паслуг, прычым — бясплатна. Дзіцячыя ўяўленні! Мой былы намеснік можа пацвердзіць, колькі мы пахадзілі па судах, каб хоць арандатараў адтуль выселіць, колькі разоў давялося дома не начаваць, бо справа даходзіла да пагроз! Цяпер, сапраўды, кожны з членаў СТД можа туды паехаць і спакойна там пажыць. І, што самае важнае, бясплатна. Але за з'едзеную там каўбасу давядзецца плаціць самому. Балазе, дырэкцыя пансіяната, прызначаная СТД, талковая, зарабляе на ўтрыманне будынка грошы, здаючы яго пад семінары, канферэнцыі і нават пад вяселлі. Там чыста, памыта, прыбрана, утульна...

**— Аляксей, у адным з лімаўскіх інтэрв'ю наш вядомы крытык назваў СТД "гутай па вырабе крышталёвых паўлінак, кветак і г.д.", маючы на ўвазе вашу няўрымслівую дзейнасць па заахвочванні й падтрымцы людзей тэатральнага мастацтва...**

— Што б ні казалі пра нашы крышталёвыя прызы, але важаць яны не менш за Дзяржпрэмію Беларусі, а то і больш. І не мне тлумачыць шаноўнаму крытыку, што такое для чалавека мастацтва прафесійнае прызнанне калег. Што такое для грамадскасці прызнанне ды ўшанаванне Станюты, Клімавай, Янкоўскага, Гайды, Канапелькі... Цвет і эліта нацыі. Якраз нацыя, у сэнсе — гледачы, аматары тэатра, сябры і нават людзі, ад тэатра далёкія, разумеюць і ўхваляюць нашы "крышталёвыя" намаганні. Важна не ганараваць прызам ці званнем, а прынародна ўшанаваць: дальбог, гэта і сведчанне грамадскай культуры, і абавязковай перамены да лепшага.

**— Як складаюцца ў СТД дачыненні з самай буйной дзяржаўнай арганізацыяй, якая... не ведаю, як сказаць: ці то кіруе мастацтвам, ці то накіроўвае яго... Карацей, з Міністэрствам культуры?**

— Я ўнікаю канкурэнцыі з Міністэрствам культуры, дый з кім бы там ні было. Дачыненні — як у калег, на роўні. Я ведаю, і ведаю добра, што калі дзяржаўная структура чымсьці займаецца адна і толькі адна, дык з гэтага (аб'ектыўна) лезе фармалізм і заарганізаванасць, "как бы чего не вышло", а ў выніку і ў комплексе — павярхоўнасць. Я не баюся паўтарыць словы Расціслава Іванавіча Янкоўскага, маўляў, па-сапраўднаму для людзей тэатра дзень тэатра пачаўся з 1993 года, калі яны адчулі, якое гэта свята, — пасля таго, як ім стаў займацца СТД.

**— Зразумела, спакойнага жыцця драматургу Дудараву цяпер не выпадае. Калі ў самой творчасці можа быць хоць які спакой...**

— Пяць гадоў да абрання на пасаду старшыні СТД сталіся для драматурга Дударава пустымі. Затое мае прэм'еры апошняга часу, здаецца, не засталіся незаўважанымі. А што да спакою... Ён выглядае так: званок уранілі, у пансіянаце трубы прарвала, на камбінаце скончылася тканіна, саюз садзяць на картатэку і да т.п. Наша ўсеагульнае, постсаўковае вывучэнне жыцця...

**— А што ў старшыні СТД, ці будзе што сказаць сваім калегам ды паплечнікам?**

— Я хацеў бы звярнуцца да іх. У нас, шаноўныя калегі, — вольна. У саюзе можна быць і не быць, з саюза можна выйсці, што некаторыя і робяць. Але я б хацеў, каб вы, калегі, не чакалі, што вам у саюзе "зробяць прыгожа" ды "смачненькага дадуць", а, як той казаў, уносілі свае прапановы. Сродкі і грошы на іх агульнымі намаганнямі могуць і знайсціся. СТД — нефармальнае грамадскае аб'яднанне, таму... чакаю прапаноў.

**З Аляксеем ДУДАРАВЫМ гутарыла Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота Генадзя ЖЫНКОВА*

# Няхай жыве "Кандзід..."?

***Сярод неадназначных і гучных прэм'ер апошняга часу — "Смерць Кандзіда Тарэлкіна" А. Сухаво-Кабыліна (пераклад В. Тараса) на купалаўскай сцэне. Свае меркаванні пра яе прапануюць маладыя тэатральныя крытыкі творчага аб'яднання "Галёрка" пры Акадэміі мастацтваў Беларусі (на чале са сваім выкладчыкам і кіраўнікам Т. Ратабыльскай).***

## "УСЕ ПАД НАМІ БУДУЦЬ"?..

...Непраглядная цемра. Брама апраметнай. Яе жалезны малюнак — варыяцыя строгага ажуру знакамітай кратоўкі Пецярбургскага Летняга саду — не ўратаваў прастору ад цяжкай абезабліччанай турэмнасці. У тэатральных адносінах — "агульнае месца".

І навошта Люба Сідзельнікава так безагаворачна пайшла за рэжысёрам? Нават мастаку на палатне не дазваляецца карыстацца чорным колерам. А ў спектаклі — тым больш. Не магу забыць далікатны, стыльны макет і эскізы Любы да "Манькі" Ф. Аляхновіча (неажыццёўлены праект спектакля купалаўскага тэатра), яе ўменне ўхапіць і перадаць праз мастацкі стыль дух часу, яго фарбы, лініі, прасторавыя абрысы; яе ўменне ў касцюме выказаць сутнасць персанажу. У "Смерці..." маладому сцэнографу не выпала адметна вызначыцца.

Вылез Тарэлкін (В. Рэдзька) — агідненькі, слімаваты, плюгавы чалавечак без узросту, у чорным трыко, і абвясціў нам аб сваёй інтрызе з уяўнай смерцю. Яго сужыцелька Маўруша (А. Кульбачная) — таксама ў чорным. Брыдкі, даўганогі, з маленькай змяінай галоўкай і прылізанымі валасамі з выразным праборам Варавін (А. Лабуш) — з'явіўся таксама ў чорным галіфэ і чорных ботах.

Нягледзячы на цудоўныя акцёрскія трансфармацыі (В. Рэдзька іграе то Тарэлкіна, то аблезлага і гарбатага Капылова, а А. Лабуш выходзіць на сцэну то ў вобразе генерала з птушына-змяінай галавой, то ашалелым каўказскім героем на мыліцы), увесь першы акт не пакідае адчуванне бессэнсоўнасці таго, што адбываецца на сцэне, недаўменне, а навошта, уласна кажучы, узята п'еса Сухаво-Кабыліна? І навошта азначаны жанр "чорнай камедыі" ўвасоблены так літаральна, прасталінейна?

І толькі другі акт праясніў сутнасць таго, што адбываецца, і надаў пастаноўцы В. Савіцкага сучаснага сэнсу. Пасаджаны ў турму Тарэлкін абвешчаны Варавіным-Палутатарынавым ваўкалакам, мцырам, вампірам, які смокча чалавечую кроў.

І тут... пачынаецца. Сапраўднае паляванне на ведзьмаў. Шабаш вампіраў і мерцвякоў. Вядуць рэй хваравіта-баязлівы з "інтэлігентнай" знешнасцю прыстаў Ох (І. Дзянісаў) і бамбіза-квартальны Іван Антонавіч (У. Кін-Камінскі), які грызе пазногці. "Усіх перасаджаем!", "Усе пад намі будуць!" — то ў істэрыцы, то ў таемнай асалодзе прамаўляюць яны. Пад гукі ваўчынага выцця разгортваецца шабаш чорнарубашачнікаў. Тут самая абсурдная ідэя раптам набывае злавесна "рэалістычныя" рысы. А можа, на самай справе, Тарэлкін — ваўкалак?!.

І гэтае адкрыццё-здагадка, гэты вобраз ваўкалацтва — пашыраецца, разрастаецца ў спектаклі, як снегавы камяк, робячыся яго ўдарна-сэнсавай дамінантай. Дый праўда — ваўкалацтва — сутнасць, змест нашага рэальнага жыцця. Куды ні паглядзі — паўстаюць прывіды, рэанімаваныя ідэі, рэанімаваныя рэжымы, людзі-пярэваратні. Учора — прапаведнік адной ідэі, сёння з тым самым імпэтам — процілеглай. "Гульня, ідзе гульня", — так і хочацца праспяваць словамі вядомай арыі. Хто каго пераіграе? Пераплюне ў інтрыганстве і тэатральным ваўкалацтве жыццёвых сітуацый? Ох (І. Дзянісаў) і Іван Антонавіч (У. Кін-Камінскі) упадаюць у наркатычны разгул усёдазволе-насці, хваравітай асалоды ў маніі пераследавання. Але самым спрытным і таленавітым прытворшчыкам аказаўся Варавін. Ён перайграў усіх, і ў першую чаргу Тарэлкіна. Праўда, абодва ў фінале міраццa, бо і той і другі — ад "д'ябальшчыны", адной прыроды.

П'еса Сухаво-Кабыліна раптам выявіла сваю роднасць з абсурдысцкім чорным гума-рам. Але нягледзячы на нечакана дакладную, злавесную сучаснасць спектакля, стваральнікі яго ўсё-ткі занадта захапіліся пагоняй за чорным катом у чорным пакоі. Тэатр не даруе таўталогіі. Стыль пастаноўкі, які можна ахарактарызаваць словамі дзіцячага вершыка: "четыре черненьких чумазеньких чертенка чертили черными чернилами чертеж", — занадта прымітыўны для знойдзенай мастацкай ідэі. Затое для акцёраў — бліскучы матэрыял. Думаю, што У. Кін-Камінскі, і І. Дзянісаў, і В. Рэдзька яшчэ прыдумаюць, зымправізуюць не адзін кульбіт у рамках сваіх "ваўкалакаў". Але ўжо сёння можна гаварыць пра цудоўную па адточанасці, дзёрзкую, бязлітасна злую і тэатральна яркую работу А. Лабуша. Тым больш што акцёр з'явіўся ў спектаклі ў не характэрным для сябе амплуа, зламаўшы стэрэатып свайго сцэнічнага вобраза. Гратэскавыя маскі Варавіна і Палутатарынава — поўны кантраст яго ранейшым вобразам.

**Таццяна РАТАБЫЛЬСКАЯ**

## ПЕРАПРАШАЮ, ТАРЭЛКІН ПАМЁР

"Смерць Кандзіда Тарэлкіна" перапаўняе містыка. Спектакль утрымлівае тыя матывы ды асацыяцыі, якія ў п'есе выказваюцца праз тэкст: персанажы зачаста памінаюць чорта, вурдалакаў, пярэваратняў. Сам Тарэлкін, смела жартуючы са смерцю, пераступае мяжу пашаны да яе і страху перад ёю... Тарэлкін ці тэатр?

У спектаклі атмасфера ўшчыльняецца. Чыгунная агароджа аддзяляе ад гледачоў магілкі. У цьмяным халодным асвятленні — некалькі крыжоў, абрысы царквы. Бліжэй да цэнтра сцэны — вялізная скрыня, ці то труна, ці то склеп. Злева — дзверы, якія матляюцца на ліхтары. Яны не зачыняюцца, не адчыняюцца, нікуды не выходзяць. Часу быццам... не існуе. Прастора, працятая тленнем, усё адно як не змяшчаецца ў тры вымярэнні. Персанажы, выпісаныя ў п'есе тыпамі сацыяльнымі (нагадваюць герояў інтэрмедый) — квартальны, купец, маянтковец, баба, дворнік, — набываюць у спектаклі нейкага булгакаўскага каларыту. Перад намі... проста шабас вампіраў ды мерцвякоў. Ад іх тхне разлажэннем і смуродам. Кожны, да усяго, мае яркую гратэскавую пластыку, але ў кожнага ёсць і нешта ад механічнай завадной лялькі.

Кандзід Касторавіч Тарэлкін (Віталь Рэдзька) ды Максім Кузьміч Варавін (Аляксандр Лабуш) моцна вылучаюцца з шэрагу звычайных вурдалакаў. Яны спаборнічаюць — хто каго перагуляе. Пачаў гульню Тарэлкін, калі вырашыў "памерці". Варавін адразу ж схапіў "смяротную" прынаду.

Нібы зграя крумкачоў на падлу, з'явілася світа Варавіна да нябожчыка. Сам Варавін нікае, лётае, вынюхвае, — шукае кампраметуючыя паперы, што засталіся ў памерлага. Нібы памерлага... Эфектны генерал неўзабаве ператвараецца ў кантужанага і скурчанага Палутатарынава, заганяе Тарэлкіна ў склеп і абвяшчае яго вампірам і пярэваратнем. І калі ў першай дзеі трыумфуе Тарэлкін (усе іграюць тое, што ён прапануе), дык другую дзею спектакля дзеіць генерал Варавін. Палутатарынавы рызманы й мыліцу ён пакідае, удаючы з сябе, сама менш, графа Дракулу на чале нячысцікаў. Вядзе рэй, кіруе балем сатаны, арганізуе шабас і кожнага прымушае ў ім удзельнічаць.

...Аркестр "рэжа" вальс. Зграя нячысцікаў лётае ў д'ябальскім танцы. Раптоўная змена асвятлення (атмасферы) і ўся зграя сярод надмагільных крыжоў нібы скідаецца ў кучу рызманоў. Яе, кучу, іх, нячысцікаў, чакае адраджэнне для новага й найноўшага жыцця, — гэткім самым манерам ужо адраджаўся Тарэлкін. Перапрашаю, Тарэлкін памёр. Знаёмцеся: Сіла Сілін Капылоў...

**Іна САБАЛЕЎСКАЯ**

## ГУЛЬНІ СТАГОДДЗЯ ДВАЦЦАТАГА

Чытаючы сёння п'есу Сухаво-Кабыліна, міжволі вернеш нос ад кнігі, настолькі натуралістычна апісвае аўтар пахі самога Тарэлкіна, што прытварыўся мерцвяком і... цудоўна знайшоў сабе месца ў нашым часе.

У выкананні В. Рэдзькі Тарэлкін прадстае перад намі "монстрам", які ўмее пераўвасабляцца ў няпэўныя істоты, не падобныя ні на людзей, ні на жывёл.

Рэжысёр У. Савіцкі амаль сур'ёзна ўспрымае версію Палутатарынава аб вампірах, якія высмоктваюць кроў з чыноўнікаў вострым хобатам. Прынамсі, містычныя трансфармацыі В. Рэдзькі не абвяргаюць гэтыя меркаванні. Спачатку Тарэлкін выглядае няўдачнікам, які скарыстоўвае свой апошні шанц збегчы ад крэдытораў. Спадзеючыся на Бога, спрабуючы апраўдаць сваю дзёрзкую задуму, праяўляючы пры гэтым сваё невуцтва і ілжывасць.

Сцэнаграфія спектакля таксама падманлівая. Спачатку здаецца, што дзеянне адбываецца ў бедным, закінутым горадзе, дзе велізарныя дэфармаваныя жалезныя дугі з невялічкімі вежамі нагадваюць абрысы храма. Але калі мы чуем карканне варон, быццам сагнаных з наседжаных месц, сцэна нагадвае могілкі.

Мастак Л. Сідзельнікава вельмі дакладна і лаканічна перадае атмасферу самога спектакля. Жалезныя вялізныя весніцы, якія пастаянна рухаюцца па ходзе дзеі, служаць то ўваходам у двор, то ўваходам у турму. Персанажы, перасоўваючы весніцы, нібы перагортваюць старонкі кнігі свайго жыцця. Персанажы іграюць не толькі перад гледачом, але і адзін перад адным. Да канца спектакля мяжа ігры і рэальнасці робіцца нябачнай.

Падхапіўшы і зразумеўшы гульню Тарэлкіна, Генерал (А. Лабуш) па-майстэрску разгортвае свой тэатр. З'явіўшыся на сцэне Варавіным, ён нагадвае павука, які пляце павуцінне для сваёй ахвяры. Тарэлкін, які ніколькі не сумняваўся ў паспяховым выніку свайго прадпрыемства, не прадугледзеў такога ж спрыту ад сваіх ворагаў. Зразумеў, але было позна. Хаваючыся пад імем Капылова, Тарэлкін церпіць няўдачу, больш таго, для яго гэты вобраз робіцца ракавым. Акцёр спачатку паказвае Капылова-Тарэлкіна маленькім, гарбатым, брыдкім старым, пакідае некаторыя звычкі Тарэлкіна. Усё тыя ж спрыт і дагаджальнасць прарываюцца вонкі. Нягледзячы на тое, як акцёр увасабляе адрознасць, непадобнасць двух сваіх персанажаў у вонкавым выглядзе, у пластыцы і нават у голасе, "нутро" Тарэлкіна проста... нутро Капылова. Акцёр імгненна хаваецца ў люку авансцэны з аднаго боку і гэтак жа імгненна выходзіць з другога боку: усё адно як месца сабе не знаходзіць. Тарэлкін, быццам падвальны пацук, кідаецца з кута ў кут па крузе. Цяпер яму ўжо не сысці з гэтай траекторыі. Завёўшы "машыну" гульні са смерцю, ён ужо не ў стане спыніць яе, больш за тое, на нейкі час ён робіцца яе ахвярай. Але калі ідэя гульнёвай "машыны" належыць Тарэлкіну, то яе работу ажыццяўляе генерал Варавін. Дзеянне гэтай гульнёвай "машыны" мы назіраем і ў другім акце ў сцэне допыту. Тарэлкін апынуўся ў турме без яды і вады. Па ўказанні Генерала былі дапытаны ўсе, хто быў ці не быў знаёмы з крывасмокам Тарэлкіным ці Капыловым. З рук у рукі, як рэчы, перакладваюцца тыя, каго дапытваюць. З кожным новым чалавекам хуткасць павялічваецца. Захапіўшыся, у азарце, прыстаў Ох ледзь не пасадзіў свайго квартальнага. (Кін-Камінскі паказвае квартальнага цельпукаватым, недальнабачным салдафонам, пастаянна крычыць і грызе пазногці на руках, пластычна падкрэслівае неўраўнаважанасць свайго героя).

Акцёр І. Дзянісаў раскрывае свайго героя Оха як спакойнага, мяккага чалавека, які ўмее трымаць сябе ў руках. Ён больш падобны на змяю, аблытваючы сваіх ахвяр, ён нібыта гіпнатызуе іх, з усмешкай на твары "зводзіць іх у магілу".

Чым бліжэй да фіналу, тым больш узмацняецца напружанасць кожнай са сцэн. З'яўленне Генерала абяцае заканчэнне гэтай пякельнай гульні: ён атрымлівае свае дакументы ад знясіленага Тарэлкіна за глыток вады. Рэзкія змены рытму ў сцэне. Літаральна ў лічаныя секунды Тарэлкін са знясіленай істоты ператвараецца ў бадзёрага, поўнага сіл "монстра" — Тарэлкіна, які цяпер трымае за каўнер Генерала, прыціскаючы яго да кратаў. Атрымаўшы пашпарт Капылова, Тарэлкін мацуе здзелку з Генералам. "Машына" зноў заведзена. Гульня са смерцю працягваецца.

**Ганна СПАСКАЯ**

## АЛІМПІЙСКАЯ НІЧЫЯ

Рэжысёр пазбавіўся многіх эпізадычных персанажаў, увёў у тэкст фінальны маналог Тарэлкіна з п'есы "Справа". Гледачоў не абцяжарвае ні маральна-этычны канфлікт, ні сацыяльная праблематыка. Галоўнае ў спектаклі — спаборніцтва акцёраў між сабою. Іх персанажы вядуць своеасаблівую гульню. Перамога — вынаходліваму, спрытнейшаму і хітрэйшаму.

У першай дзеі асноўнае змаганне адбываецца паміж Тарэлкіным (В. Рэдзька) і Варавіным (А. Лабуш). Іх дачыненні нагадваюць гульню ў хованкі.

Персанажу В. Рэдзькі — хітраму і памаўзліваму Тарэлкіну — дастаткова толькі апрануць паліто, і перад намі — стары, стомлены жыццём і будзённымі клопатамі Сіла Сілін Капылоў. Акцёр старэе літаральна на вачах: ссутульваецца, рухі набываюць павольнасці, голас становіцца ціхім і роўным. Здаецца, і зубоў у яго меншае, і валасоў. Адзінае, што можа выдаць у ім Тарэлкіна — хітры бляск вачэй і каласальная задаволенасць сабою.

Тарэлкін пасля ўласнага пахавання вымушаны ўвесь час стрымліваць свой буйны тэмперамент; яго праціўнік Варавін дае выхад усяму таму, што кіпела пад генеральскім мундзірам. Яго пераапрананне ў капітана Палутатарынава нагадвае маскарад: і смешна, і твару не відаць. Утрыравана-камічныя кульганні і завыванні выклікаюць у гледачоў толькі смех. Але менавіта на гэтага "жыўца" Тарэлкін і трапляецца.

Другая дзея спектакля даволі самастойная, і асноўнымі яе "героямі" з'яўляюцца Антыёх Ялпідзіфоравіч Ох (І. Дзянісаў) і Іван Антонавіч Расплюеў (У. Кін-Камінскі). Нязвыкла было ўбачыць І. Дзянісава ў ролі ўчасткова прыстава. Ён з'яўляецца на сцэне ў вобразах рамантычных персанажаў, такіх, як герой-каханак Эраст ("Нежанаты мнагажэнец, або Залёты пана дэ Пурсаньяка" Ж.-Б. Мальера), палкі максімаліст Ізяслаў ("Звон — не малітва" І. Чыгрынава) ці лірык Гаральд ("Гаральд і Мод" К. Хігінса і Г.-Х. Кар'ера). У "Смерці..." мы ўбачылі мацёрага гестапаўца з характэрнай "спружыністай" хадою, з закасанымі рукавамі, залізанымі валасамі і позіркам, у якім чытаецца прага папрацаваць. Але ў кожным жэсце, у кожным слове адчуваецца грэблівасць: усе чорныя справы выпадаюць падначаленаму Расплюеву.

Той у сваю чаргу з гатоўнасцю кідаецца на любую працу, з якой можна хоць штосьці атрымаць для сябе. "Вечны" герой У. Кін-Камінскага — маленькі чалавек у форме — імкнецца таксама стаць вялікім. Але яго намаганні побач з дакладнымі і мэтанакіраванымі крокамі Антыёха Ялпідзіфоравіча выглядаюць па-дзіцячаму наіўнымі.

Тут гульня больш простая: адзін фатэль, што можа гарантаваць славу, медалі і пашану, і двое, якія хочуць заняць яго. Але такая прастата вымагае значнай хітрасці і крутлівасці.

Фінал усіх гэтых гульняў насамрэч алімпійскі: нічыя. Усе эпізадычныя героі, незалежна ад сацыяльнага становішча, збіраюцца ў сутарэнні; Варавін, атрымаўшы свае паперы, дапамагае Тарэлкіну выбытацца; Ох з Расплюевым нарэшце асталяваліся ў фатэлі... Усё вяртаецца на кругі свая.

**Таццяна КОМАНАВА**



*На здымку: Аляксандр Лабуш (Варавін) і Віталь Рэдзька (Тарэлкін).*

*Фота Аляксея МАЦЮША*

## Ёсць пра што расказаць

Галіне ВАСЮКОВАЙ — 70

**Галіна Васюкова зведала жахі фашысцкай няволі — у 1944 годзе была вывезена гітлераўскімі акупантамі ў Германію, працавала на фабрыцы ў мястэчку Альбендорф. У сакавіку 1945-га здолела ўцячы, апынулася ў Чэхаславакіі, уступіла ў атрад Супраціўлення...**

**Пасля вайны вучылася ў Брэсцкім музычным вучылішчы (1949—1951), у 1967 годзе скончыла Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве.**

**У друку Г. Васюкова выступае з 1956 года. Піша на рускай мове. Выдала зборнікі апавяданняў і аповесцяў для дзяцей "Пра Наташу" (1957), "Старший брат" (1959), "Андрюшины знакомые" (1964), "Разные истории" (1966) і іншыя. У Калінінградскім выдавецтве пабачылі свет яе кнігі "Куклоград" (вершы, 1970) і "С Маринкой не играю" (1971).**

**З днём нараджэння, шаноўная Галіна Георгіеўна! Доўгіх год жыцця Вам, новых творчых поспехаў!**

## Шуберціяда ў Гародні

**"Музыка пахавала тут вялікі скарб, але яшчэ больш цудоўныя надзеі". Славуты надпіс над магілай Франца Шуберта, зроблены сябрамі, успамінаецца заўсёды, калі слухаеш ягоныя простыя і разам з тым надзвычайнай прыгажосці і меладычнасці, па-сапраўднаму геніяльныя творы. Апошнім часам гэтыя словы набываюць асаблівы сэнс, як і сама музыка, бо 1997 год — год Шуберта.**

**200-годдзе з дня нараджэння вялікага кампазітара адзначаюць усе, даніну памяці знакамітаму Майстру аддаюць музыканты і аматары музыкі ў самых розных краінах. Святочнае рэха шубертаўскіх угодкаў дайшло і да Гародні І не проста пракацілася па горадзе праз тэле- і радыётрансляцыі з буйных еўрапейскіх музычных цэнтраў, а затрымалася, прычым "усур'ёз і надоўга". Калісьці Гародня таксама была буйным еўрапейскім музычным цэнтрам (успомнім, напрыклад, А. Тызенгаўза з ягонымі тэатрам, школай і г.д.).**

**Ініцыятар правядзення ў горадзе своеасаблівай Шуберціяды — Гродзенская гарадская капэла. Тры канцэрты, тры цікавыя змястоўныя праграмы досыць поўна прадставілі слухачам асноўныя галіны творчай спадчыны Ф. Шуберта. Першы канцэрт адбыўся 31-га студзеня, дарэчы якраз у дзень нараджэння кампазітара. У выкананні камернага аркестра пад кіраўніцтвам Уладзіміра Борматава ўпершыню ў Гародні прагучаў Квартэт N 14 "Смерць і дзяўчына" (аркестравая рэдакцыя). Зварот да гэтага вядомага, сур'ёзнага і складанага твора, безумоўна, стаўся пэўнай вяхой у творчай біяграфіі калектыву. У той жа вечар аматары музыкі пачулі і Соль мажорную Імшу, у якой разам з аркестрам і хорам Гродзенскай капэлы сольныя партыі спявалі салістка капэлы Ірына Дзмітровіч (сапрана) і госці з Мінска — салісты Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Рыгор Палішчук (тэнар) і Алег Гардынец (бас). Напярэдадні, 29-га студзеня, А. Гардынец разам з канцэртмайстрам Мікалаем Сярдобавым даў сольны канцэрт з твораў Гендэля, Вебера, Вагнера і іншых аўтараў, чым парадаваў мясцовых прыхільнікаў вакалу, бо магчымасць пачуць такі цудоўны бас ды яшчэ ў такой цікавай праграме надараецца не надта часта.**

**Наступная падзея Шуберціяды адбылася 6-га лютага. Салісты Гродзенскай капэлы Марына Гаравая (сапрана) і Алена Балтрукевіч (мецца-сапрана) спявалі песні Шуберта. Майстэрства вакалістаў і канцэртмайстраў (Алена Лябецкая і Ала Казарына), прафесійны каментарый музыказнаўцы Людмілы Мажэйкі і, вядома, невычэрпны меладычны дар кампазітара, высакародны "шарм" ягоных твораў, што здолелі перадаць удзельнікі канцэрта, зрабілі вакальны вечар кульмінацыяй гарадзенскіх святкаванняў. А завяршылася ўсё 12-га лютага: гарадзенскі піяніст Уладзімір Лябецкі вынес на суд слухачоў два ўнушальныя "палотны" — Санату N 21 Сі-бемоль мажор і Фантазію "Вандроўнік".**

**Такім чынам, 200-годдзе вялікага Шуберта было з поспехам адзначана ў Гародні. І гэта засведчыла, што артысты Гродзенскай гарадской капэлы маюць як жаданне, так і магчымасць на высокім мастацкім узроўні наладзіць сапраўднае свята сустрэчы з Музыкай для сябе і для публікі.**

**Аляксей САЛАДУХІН**

ВІНШУЕМ!

## Хведару ЖЫЧКУ — 70

Талент Хведара Жычкі шматгранны. Ён аўтар паэтычных кніг "Стой на вахце, сэрца" (1961), "Росныя лілеі" (1965), "Настой" (1968), "Абеліск" (1973), "Абрус" (1985) і іншых. У сааўтарстве з П. Беразняком напісаў кнігі апавяданняў і фельетонаў "Сукенка ў крапінку" (1956) і "Лясныя страхі" (1959). Выдаў для дзяцей аповесці "Каштанавы "Масквіч" (1959), "Піфагоравы штаны" (1961), "Дзе растуць бяссмертнікі" (1967), "Дзень будзе ясны" (1981)... Юным чытачам адрасаваны таксама і яго зборнікі апавяданняў і вершаў.

Паспяхова працуе Хв. Жычка і ў галіне сатыры і гумару, а яго перакладчыцкая дзейнасць адзначана Літаратурнай прэміяй імя Віцезслава Нэзвала (1983, за пераклады і прапаганду чэшскай і славацкай паэзіі), узнагароджаны ён таксама Дыпломам і медалём Славацкага літаратурнага фронту (1984).

Віншуем Хведара Змітравіча (дарэчы, былога галоўнага рэдактара "ЛіМа") з 70-годдзем! Новых жыццёвых і творчых поспехаў Вам!

Хведар ЖЫЧКА

### Зімовы вечар

*...І завіруха гэткай скрухі не развее...*
*Шчэ толькі пяць гадзін, а ўжо цямнее...*

*І дроў няма, і электрычнасці няма,*
*а на дварэ — зіма, адна зіма.*

*У хаце — я адзін, у хаце — халадэча,*
*аж дрыжыкі бяруць,*
*хоць і ляжу на печы.*

*Якая печ?! Ледзь цепліцца чарэнь —*
*сырым галлём паліў яе ўвесь дзень,*

*яно ж гарэць нікольні не хацела —*
*дыміла, толькі тлела і сіпела...*

*Спаліў я цэлы пуд сваіх чарнавікоў,*
*ды многа там, відаць,*
*было сырых радкоў:*

*агеньчык паскакаў, крыху пазабаўляўся*
*і зноўку згас, у попеле схаваўся,*

*як бы яго й на свеце не было...*
*Адкуль жа ў хаце возьмецца цяпло?*

*Каб быў я ў горадзе, сядзеў бы ля каміна*
*ці трымкаў на разбітым піяніна,*

*ці ў тэлевізары глядзеў якую муць,*
*пра тое, як за морам добра ўсе жывуць...*

*Ды як, скажыце, пераплыць*
*мне тое мора?..*
*Яно ж бясконцае, як наша гора.*

●

*За годам — год,*
*за крокам — крок*
*мой час імчыцца незваротна.*

*І паўстае пытанне,*
*як папрок:*
*"А што ты даў краіне роднай?"*

●

*Дзень адгарэў,*
*развеяўся, як дым.*
*І я не буду*
*разважаць аб тым,*
*ці быў ён дужа лёгкім,*
*ці цяжкім,*
*напоўненым да краю,*
*ці пустым.*

*Адно мне ясна:*
*быў ён і мінуў*
*і мне назад яго ўжо*
*не вярнуць.*
*А я ў ім жыў,*
*у ім — не ля яго,*
*у самым цэнтры —*
*не ля берагоў,*
*у музыцы яго,*
*у звонкай сіняве,*
*ва ўцешным суме*
*і ў журлівым харастве.*

●

*Ляцім у космас на ракеце...*
*А што змянілася на свеце?*
*Дзень прасвятлення не настаў,*
*жывём, як і жылі, без цудаў.*
*І Сына Боскага — Хрыста*
*зноў прадае на плошчы Юда.*

●

*Як добра,*
*што не лезе ў вочы дым,*
*што ў рунь і кветкі*
*родны край прыбраны,*
*і я сумленнем чысты перад ім,*
*як гэты майскі*
*прамяністы ранак!*

## Прэзентуе "Тэхналогія"

Паліграфічная дзейнасць незалежнай выдавецкай кампаніі "Тэхналогія" ўжо шырока вядома зацікаўленым чытачам як у Беларусі, так і за яе межамі. Заснаваная журналістам Вацлавам Багдановічам, "Тэхналогія" з самага пачатку ўзяла патрыятычны, культурна-адраджэнскі накірунак.

Так, сярод яе першых выданняў быў "Англа-беларускі слоўнік" Я. Пятроўскага — вядомага культурніцкага дзеяча беларускага замежжа. У "Тэхналогіі" пабачыла свет адна з першых кніг на англійскай мове пра Беларусь і яе сталіцу — кніга Гая Пікарды "Minsk: A Historical Guide. Мінск: гістарычны, культурны, бізнес-гід". Варта таксама згадаць кнігу У. Новіка "Беларусь. Новая краіна ва Усходняй Еўропе", зборнік "Другі міжнародны кангрэс у абарону дэмакратыі і культуры "Незалежная прэса: свабода і адказнасць", у якім змешчаны выступленні на кангрэсе В. Быкава, Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна, А. Разанава, В. Сёмухі, Ю. Хадыкі, В. Кіпеля і іншых дзеячаў нашай культуры, "Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадах" А. Вініцкага, "Службоўнік" Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў замежжы, "Беларускі праваслаўны малітоўнік".

"Тэхналогія" выступае як бы генеральным падрадчыкам па выданні кніг з серыі Беларускага фонду Сораса "Адкрытае грамадства". У гэтай серыі выйшлі ўжо такія кнігі, як "Гістарычныя ўводзіны ў філасофію навукі" Дж. Лоўдзі, "Дапаможнік для журналістаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы", "Выбух камунікацыі" Ф. Брэтона і С. Пру.

Апошнім часам "Тэхналогія" ўзяла накірунак на выданне сацыяльна-значнай літаратуры па бізнесе, сацыялогіі, антрапалогіі, філасофіі, эканоміцы, а таксама літаратуры культуралагічнага плана.

Нядаўна ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі прайшла прэзентацыя новых кніг вядомага прыватнага выдавецтва — "Эканоміка" Дж. Бэрдшоў (пры ўдзеле Энды Роса) і "Гісторыя эканамічнай думкі" А. Дэні.

Неацэнную вартасць гэтых кніг адзначыў доктар эканамічных навук, прарэктар па навуковай рабоце Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта М. Наздрын-Платніцкі. Ён жа падкрэсліў і еўрапейскі ўзровень афармлення і паліграфічнага выканання кніг, якія шчасліва спалучаецца з іх сярэдне-статыстычным беларускім коштам (адпаведна 40 тысяч і 60 тысяч рублёў). "Тэхналогія — адно з нямногіх прыватных выдавецтваў, якое займаецца выпускам навуковай літаратуры.

Пра высокую якасць дзейнасці калектыву выдавецтва, які працуе творча, з добрым веданнем рынку і ў рэжыме лепшых замежных фірм, для якога, як у той японскай прымаўцы, "кліент — Бог", з супрацоўнікамі якога можна абмяркоўваць любое эканамічнае пытанне на ўзроўні спецыялістаў, гаварыў прафесар, дырэктар Вышэйшай школы кіравання і бізнесу Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта Я. Вялеська.

Навуковы рэдактар кнігі А. Дэні "Гісторыя эканамічнай думкі", дацэнт БДЭУ Т. Павалíхіна сказала:

— Вельмі прыемна, што выдавецтва "Тэхналогія" абрала для выдання менавіта гэтую кнігу. Гэта не дэтэктыў. Гэта арыгінальны аналіз эканамічных вучэнняў праз прызму эвалюцыі філасофскай думкі і змен сацыяльнай арганізацыі вытворчасці на працягу гісторыі чалавецтва. Кніга А. Дэні чытаецца не лёгка, над ёю трэба думаць, разважаць, але, тым не менш, да яе хочацца звяртацца зноў і зноў, бо аўтар верыць у духоўнае ў чалавеку. Кніга мае велізарнае выхаваўчае значэнне, бо кожны, хто прачытае яе, стане аптымістам наконт лёсу чалавецтва наогул. І зусім недарэмна кніга А. Дэні вось ужо трыццаць гадоў з'яўляецца найбольш папулярным на Захадзе падручнікам: толькі на мове арыгінала (французскай) яна вытрымала ўжо дзесяць выданняў.

**Н. К.**

### КАТАЛОГ НОВЫХ КНІГ НЕЗАЛЕЖНАГА ВЫДАВЕЦТВА "ТЭХНАЛОГІЯ", А ТАКСАМА ТЫХ, ЯКІЯ РЫХТУЮЦЦА ДА ДРУКУ.

**Серыя Беларускага фонду Сораса "Адкрытае грамадства"**

*1. Бэрдшоў Дж. (пры ўдзеле Энды Роса).* Эканоміка. Частка 1. 1996. 560 стар. (на бел. мове).

Навучальны дапаможнік па эканоміцы. Першую частку складаюць "Уводзіны ў эканоміку" і "Мікраэканоміка". Даступны выклад матэрыялу і бліскучая яго арганізацыя робяць гэтую кнігу незаменным дапаможнікам для студэнтаў і для ўсіх зацікаўленых чытачоў. Кошт — 40000 руб.

*2. Дэні А. Гісторыя эканамічнай думкі.* 1996. 736 стар. (на бел. мове).

Кніга прысвечана пытанням і праблемам палітэканоміі, яе сувязям з філасофскімі вучэннямі, тлумачэнню сацыяльнай арганізацыі вытворчасці і яе эвалюцыі на працягу гісторыі. Для студэнтаў і аспірантаў ВНУ эканамічнага накірунку, а таксама ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй, сучасным станам і праблемамі эканамічнай навукі. Кошт — 60000 руб.

*3. Сўінгвуд А. Сціслая гісторыя сацыялагічнай навукі.* 1997. 400 стар. (на бел. мове, рыхтуецца да друку).

У кнізе сціcла, але вельмі змястоўна асвятляецца гісторыя сацыялагічнай думкі ад XVIII ст. да нашага часу. Аналізуюцца погляды на грамадства дзеячаў Асветніцтва, а таксама прадстаўнікоў класічнай і сучаснай сацыялогіі. Разглядаецца таксама стаўленне сацыёлагаў да актуальных праблем культуры. Для студэнтаў і выкладчыкаў гуманітарных факультэтаў ВНУ, навукоўцаў у галіне сацыялогіі і філасофіі.

*4. Бэрдшоў Дж. (пры ўдзеле Энды Роса). Эканоміка.* Частка 2. 1997. 528 стар. (на бел. мове, рыхтуецца да друку).

Другую частку навучальнага дапаможніка складае "Макраэканоміка".

*5. Анталогія сучаснай палітычнай філасофіі.* Уклад. Я. Кіш. 1997. 400 стар. (на бел. мове, рыхтуецца да друку).

Кніга ўяўляе сабой збор твораў выдатных палітычных філосафаў Захаду (І. Бэрліна, Р. Нозіка, Т. Нэйджэла, Дж. Роўлза ды інш.). Для філосафаў, палітолагаў, сацыёлагаў, студэнтаў і выкладчыкаў гуманітарных ВНУ.

**Серыя "Нашы славутыя землякі"**

*1. Процька Т. Пакутнік за Веру і Бацькаўшчыну.* 1996. 63 стар.

Пра мітрапаліта Мінскага і Беларускага Мельхісэдэка (1876-1931), прыхільніка незалежнасці нашае праваслаўнае царквы. Кошт — 15000 руб.

*2. Чарняўскі М. Правадыр крылатых вершнікаў.* 1997. 64 стар. (рыхтуецца да друку).

Пра Яна Караля Хадкевіча (1560—1621), нашага славутага гетмана.

*3. Ярмоленка В. За небасхілам спякотнага Турана.* 1997. 64 стар. (рыхтуецца да друку).

Пра Мікалая Перавальскага (Пржавальскага) (1839—1888), славутага падарожніка і даследніка Цэнтральнай Азіі.

*4. Болатаў А., Рыдзеўскі Г. Ахвяруючы сябе Бацькаўшчыне.* 1998. 64 стар. (рыхтуецца да друку).

Пра Аркадзя Смоліча (1891—1938), выдатнага дзеяча нашага Адраджэння, таленавітага вучонага-географа.

Пералічаныя кнігі можна замовіць непасрэдна ў выдавецтве: 220007, г. Мінск, вул. Магілёўская, 43, офіс 210, тэл. 227-19-40. Тэл. (факс) 221-77-40. Форма аплаты любая.

# Агеньчыкі ў руках

## "ДЗЯДЗЬКА ВАНЯ" А. ЧЭХАВА НА КОЛАСАЎСКАЙ СЦЭНЕ



***Кожны рэжысёр адначасова марыць і пра адкрыццё невядомага драматургічнага твора і пра адкрыццё (у поўным сэнсе) твора добра вядомага, знакамітага, класічнага. Другое нават больш варты занятак, бо на прыкладзе здаўна знаёмых тэкстаў і шмат разоў бачаных мізансцэн найпрыкметнай робіцца асабістая трактоўка. Многія тэксты за стагоддзі сталі ўжо мета-мовай, іх вобразы ператварыліся ў знакі. І сёння здаецца прэстыжным гэтую знакавасць не тое каб зняць, а хутчэй, утварыць новую, нечаканую. Так, напрыклад, працуе з класікай Марк Захараў. Змена афарбоўкі заўсёды выклікае імгненную рэакцыю, бо рэзка абвастраецца і асвяжаецца ўспрыманне звыклага асяроддзя мастацкага твора, нешта накшталт перамэбліроўкі кватэры. Імпульс гэты здаецца даволі моцным, але хапае яго ненадоўга. І нечаканасці ў наш час выглядаюць звыклымі падзеямі, бо сцэнічныя эфекты, удалыя і нават цудоўныя, усё ж толькі эфекты.***

***Знешне эфектнымі выглядаюць сцэнічныя вырашэнні ў Эймунтаса Някрошуса: ён нанізвае сцэнічныя трукі, нечаканыя мізансцэны, амаль што ілюзіянісцкія эпізоды. Здаецца, ягоныя акцёры маглі б спаборнічаць з цыркавымі і па ўменні гуляць з рэчамі, і па пластыцы. Сцэнічныя кампазіцыі Някрошуса — матэматычна дасканалыя стварэнні, у іх усё вылічана па часе і ў прасторы сцэны. Ён не працуе з алегарычным і знакавым пластом твора — ягоныя спектаклі з'яўляюцца перастуктураваным драматургічным матэрыялам. З новага размеркавання элементаў рэжысёр крэсіць той самы сэнс, што ўжо быў закладзены драматургам, ды з цягам часу схаваўся, амаль што знік. Таму класіка ў пастаноўках Някрошуса такая пранізлівая і шчымлівая.***

***У звароце да чэхаўскай драматургіі ёсць сакрэт. Іншы, чым у цікавасці да глабальнага касмізму Шэкспіра, напружанай фантасмагорыі Гогаля, раз'ятай бездані Дастаеўскага, канцэнтраванай алмазнасці Пушкіна... Чэхаў пісаў людзей гэткімі будзённымі, гэткімі пазбаўленымі ўзлёту, зусім нерамантычнымі і такімі звычайнымі, што ажно нецікава. Ад гэтага многія сцэнічныя і кінематаграфічныя версіі яго драматычных твораў вельмі нудотныя, як шэры восеньскі дзень. Аднак жыццё чалавека ў большасці сваіх дзён зусім не фантастычнае і не рамантычнае. Сакрэт Чэхава — самотная, адзінокая і пазбаўленая высокага, душа, якая тужыць па высокім у шэра-будзённых абставінах. Тут няма волі Лёсу. І няма ніводнай ноты сакральнага. Вырвацца з волі абставін чэхаўскі герой не можа, ён пазбаўлены Бога. Гэта, з аднаго боку, вымагае іранічнай камедыі, нават сарказму. З другога — амаль што сусветнага крыку. Паміж гэтымі межамі існуе гама пачуццяў самых розных таноў і паўтаноў.***

У сёлетнім сезоне рызыкнуў узяцца за "Дзядзьку Ваню" Юрый Лізянгевіч.

У коласаўскім тэатры гэты рэжысёр з'явіўся шэсць год назад па запрашэнні Барыса Эрына (тады яшчэ мастацкага кіраўніка). Ставіў Ю. Лізянгевіч спектаклі касавыя, цікавыя, з хітрынкай, жывыя — "Залёты" В. Дуніна-Марцінкевіча, "Загадку дома Верньe" А. Крысці, "Касатку" А. Талстога; зусім нечакана і рызыкоўна вырашыў "Здурнелага Журдэна" М. Булгакава з Леніным-мадам Журдэн (Г. Дубаў), які (ці якая) раз-пораз уставаў з чырвонай труны і гаварыў палымяныя прамовы, і са Сталіным-Журдэнам (Р. Шацько), атуленым сонмам камісараў-настаўнікаў; гэта было шокавае відовішча. Надзвычай душэўны і цёплы атрымаўся спектакль "І паміраючы дрэвы стаяць" А. Касоны. Іншай зрабілася пастаноўка "Непаразумення" А. Камю — элітарная, інтэлектуальная, з выкшталцонай мастацкай формай, графічная і жорсткая як удар пугі.

Юрый Лізянгевіч вызначаецца акрэсленым рэжысёрскім малюнкам. І — як каларыст. Ягоныя творы вельмі маляўнічыя, маляўнічасць надае сцэнічнаму стварэнню тэмпу, рытму, атмасферы, мае абагульняючае значэнне для спектакля. Ю. Лізянгевіч добра працуе з мастаком А. Пронiным. П'есу А. Касоны яны вырашалі ў цёплым, персікавым, ранішнім каларыце. А. Камю прадстаў чорна-белым без паўтаноў.

Такі ж у іх і Чэхаў. Сцэна — белая, на ёй толькі некалькі чорных кропак-акцэнтаў. Палата? Штосьці ёсць такое — нежылое, ненатуральнае, несапраўднае ва ўсёй атмасферы дома, у паводзінах людзей. Стэрыльнае нешта... Рэжысёр бачыць герояў "Дзядзькі Вані" як ненатуральных, несапраўдных... Выпадковых.

Таму прафесар Серабракоў (Б. Сяўко, В. Грушоў) увесь марыянеткавы і шарнірны. Ну так, ён знешне нагадвае Белікава з "Чалавека ў футляры". Начная сцэна навальніцы з Аленай Андрэеўнай вырашана праз крэсла-каляску: Серабракоў не дае жонцы праходу, замінае, кружыць і аблытвае яе, не ўстаючы з крэсла. Мар'я Васільеўна (Л. Пісарава) — старая склератычка, як скрыпучая мэбля, толькі закрані — гук голасу неверагодны... Лагодны і смешны Вафля (В. Дашкевіч) прыгалубліваe паветра рукамі... Страшная і неахайная нянька (Т. Скварцова), здаецца, вядзе адна ўсю гаспадарку. А Соня (Т. Ліхачова) проста ходзіць з пакоя ў пакой, разганяючы паветра вакол сябе доўгімі кутасамі шалю. Алена Андрэеўна (Т. Кабяк) — жанчына, упрыгожаная пер'ямі, карункамі, фальбонамі. Тканіны на ёй пераліваюцца ў руху. Яна павінна была б выглядаць дзіўнай птушкай, якая нечакана апынулася ў гэтай белай самоце і бессэнсоўнасці. Магчыма, рашэнне ўсяго спектакля магло б быць сканцэнтравана на тэме блокаўскай Незнаёмкі, якая "всегда без спутников, одна"... А побач — неМаведама хто і што... Нейкі занудлівы дзядзька Ваня, які гаворыць, што быў бы Дастаеўскім і Шапенгаўэрам, але паверыць у гэта немагчыма. Наконт Івана Вайніцкага ў спектаклі магла б узнікнуць магутная іронія, ён заняў бы законную нішу ў стройнай сістэме ўсіх астатніх марыянетак. Але ж Я. Шыпіла трымаецца даволі традыцыйнай трактоўкі вобраза. І хочацца ягонаму Івану Пятровічу паспачуваць, і не можаш гэтага зрабіць, бо персанаж гэты ўсё ж аказваецца другасным, менш моцным, чым той, хто ў гэтым спектаклі займае галоўнае месца перад усімі.

Астраў (Р. Шацько), які рызыкаваў аддаць першынства ў пастаноўцы жанчыне, які мог быць проста сярод прэтэндэнтаў на ўвагу гераіні і не болей, мог быць трактаваным як напарнік-двайнік Вайніцкага, — у віцебскім спектаклі ён зрабіўся персанажам стрыжневым. І безумоўна рэжысёрскі спектакль у эпізодах з Астравым ператвараецца ў безумоўна акцёрскі.

Астраў у Рыгора Шацько — мужчына каларытны, грубаваты, лясны, даволі цынічны і п'е. І... рэфлексуе. Нешта накшталт звычайнага рускага інтэлігента, якога "загубіла жыццё". Аднак... у Астраве-Шацько ёсць маральнае здароўе. Яно вынікае не з тэксту і сюжэта, а з акцёрскай інтанацыі, жэстаў, постаці. Р. Шацько "разрывае" маналогі героя: ён дае свайму Астраву волю крыху "палётаць" у словах пра лес, будучыню ўезда і г. д., а потым, амаль як у цырку, "пераварочвае" свае словы і здзекуецца са сваёй філасофіі і надзей. Самаіронія яго — не злая, не жорсткая, ён блазнуе, ён нібыта на арэне... Даўно зразумеўшы, што выйсця з ягоных абставін няма, Астраў тым не менш, сцяўшы зубы, трымаецца. Піць — п'е, але ж шмат працуе. Прытым, асаблівага плёну ад сваёй працы не бачыць і на ўдзячнасць нашчадкаў ужо не разлічвае. Проста цягне воз. Магчыма, таму, што ён філосаф...

Астраў у віцебскім спектаклі — сімпатычны моцны чалавек. Здаецца, у вырашэнні вобраза ёсць тое, што з'яўляецца сёння асновай, на якой чалавек можа ўтрымацца і нават выстаяць.

Юрый Лізянгевіч трымае сваіх герояў на невялікай пляцоўцы: сцэна перасечана па дыяганалі ад левай кулісы да правага вугла фасадным бокам дома (са шклянымі высокімі дзвярыма) — гэта дае магчымасць будаваць мізансцэны па трохкутніку ўглыб. Між тым, нягледзячы на невялікую, але глыбокую прастору, акцёры трымаюцца ў пастаяннай аддаленасці адзін ад аднаго: па рэжысёрскім плане сітуацыя п'есы цэнтрабежная. Нават у дуэтных эпізодах акцёры знаходзяцца па розныя бакі ці то стала, ці то крэсла: бывае, адзін з іх трапляе проста ў іншую плоскасць (дах дома адначасова з'яўляецца і мостам).

Ёсць яшчэ адна зрокавая акалічнасць: з глядзельнай залы ўся прастора сцэны здаецца і прыбліжанай, і быццам на аддаленасці — нешта накшталт эфекту бінокля, які пераварочваеш то адным, то другім бокам: у масавых сцэнах сцэна "змяншаецца" ў памерах і аддаляецца ў дуэтных — акцёры набліжаюцца да залы.

Рэжысёр пачынае і завяршае спектакль маленнем пры свечках. Адкульсці з глыбіні сцэны ўзнікаюць постаці з жывымі агеньчыкамі ў руках, а голас святара запаўняе залу. У героях Чэхава сакральнага няма ці вельмі-вельмі мала. Магчыма, у гэтым бачыць аўтар спектакля прычыну іх адзіноты, падкрэсленай будзённасці, духоўнай пустаты.

**Таццяна КАТОВІЧ**

*На здымку: Рыгор Шацько (Астраў), Яўген Шыпіла (дзядзька Ваня).*

*Фота С. КОХАНА*

г. Віцебск

# Калі акцёр угледзіць перспектыву

***Рэжысёр Венедыкт РАСТРЫЖЭНКАЎ удзячны Маладзечну: горад і тэатр даюць магчымасць эксперыментаваць. Каб ён, рэжысёр пэўна абазнаны й дасведчаны, быў навідавоку ў Мінску, дык не змог бы так рызыкаваць.***

— Не сакрэт, — гаворыць Венедыкт, — што ў правінцыйным тэатры зарплаты маленькія. Што амаль няма дзе жыць: з сем'ямі, з малымі дзецьмі акцёры займаюць адзін блок з рабочымі ў інтэрнаце. Часцяком няма гарачай вады або адключана каналізацыя. Пры гэтым іграюць Сартра, Ануя, дый у дзіцячых спектаклях няможна выходзіць стомленымі (паводле Сяргея Кавалёва або Сяргея Казлова, вядомага драматурга, па чыіх сцэнарах, напрыклад, здымаў свае анімацыйныя карціны Нарштэйн). Стаўленне да работы — самае сур'ёзнае ды адказнае. Маладзечанскаму калектыву як ніякому іншаму (цяпер тым больш!) уласцівы энтузіязм. У лепшым сэнсе слова. Бо сам тэатр, акрамя работы ды гледачоў, нічога даць не можа. А зала не пустая: на прэм'ерах аншлагі, ёсць свае тэатралы, немалы рэпертуар (каля дзесяці дзіцячых і сем вечаровых спектакляў).

**— Венедыкт, за два гады ты паставіў пяць спектакляў у Маладзечне. У асноўным паводле беларускіх аўтараў. "Пры зачыненых дзвярах" Сартра — матэрыял доўгачаканы?**



— Нечаканы. І для акцёраў. У папярэдніх работах я даваў ім больш свабоды для імправізацый, заахвочваў самавыказванне, прыдумкі, нават адметнае акцёрскае хуліганства. У выпадку з Сартрам ад пачатку было агаворана, што мы працуем так, як дыктуе стылістыка п'есы. Я вельмі паверыў Сартру і ўсяму таму, што прачытаў пра яго. Вельмі важна сканцэнтравацца на ролі як мага...

**— А калі працаваў з п'есамі Аляхновіча і Кавалёва, да якой ступені ім давяраў?**

— Кавалёву проста сімпатызаваў. "Драўляны рыцар" захапіў непасрэднасцю, чысцінёй, яркасцю персанажаў, нешараговасцю канфлікту. Асабліва вабіла тэма донкіхоцтва, рамантыка, якая нібыта й зусім не ўласцівая сучаснасці. Здаецца, што калі рамантыка й не жыве сёння, дык сама істота чалавечая яе вымагае. Тое, што хвалявала аўтара, безумоўна, хвалявала й мяне. Лёгка было і акцёраў усхваляваць тым самым. А вось п'еса Аляхновіча "Пан міністр" (яе ўзяла да пастаноўкі мастацкая рада тэатра) здалася мне надта злабадзённай... злобаю дня часоў мінулых. Напісана ў пераломны час, на пачатку дваццатых. Пэўнай пазіцыі ў аўтара няма. Не зразумець ягонае стаўленне да героя, які паказаны шаржавана, умоўна. Ягоная чалавечая значнасць праз гэта прыніжана. А я мяркую, што прыніжаць персанажа не дазволена нікому: ні акцёру, ні, тым больш, драматургу. Я супрацiўляўся матэрыялу, намагаўся паглядзець на героя як на чалавека, які пад Богам ходзіць, а Богу, як вядома, найбольш рупяць ягоныя недасканалыя сыны... Чаму чалавек заблытаўся? Што замінала яму ажыццявіцца, адбыцца, спраўдзіцца? Дослед стаўся асноўнай работай. Прыём — тэатра ў тэатры. Абумовіў гэты прыём фарсавы стыль драматурга. Існуе асноўнае дзеянне, у якое нібы ўштукоўваецца п'еса Аляхновіча: ягонага пана міністра проста падстаўляюць, яму проста здраджваюць. У п'есе ён — таксама ахвяра, але расплывістая: часу? грамадства? Маленькі чалавек на зломе эпох? Таму п'еса, якую спачатку не прымаў, стала мне дарагой, зразумелай. Я перш-наперш апраўдаў матэрыял, выказаў сваё стаўленне да яго, апраўдаў і сітуацыю, у якую трапіў герой...

**— А ты апраўдваеш сваіх артыстаў?**

— Выбіраю іх на ролі і заўжды прадбачу межы дазволеных зносінаў. Межы паразумення. Мо мне пашэнціла, але працую з акцёрамі, якім давяраю. Усё, што замінае творчасці, — лайдацтва, распуста, амбіцыі, — вынішчаецца ўжо з рэпетыцый; стараюся не патураць акцёрскаму самалюбству (як бы ні цаніў чалавека за мінулыя работы, за яркасць асобы). Не патураю і так званай акцёрскай разняволенасці, хоць, здаецца, патураючы, прасцей зберагчы свае нервы. Калі акцёр угледзіць перспектыву ролі, калі зразумее, куды развіваецца спектакль, ён вокамгненна будзе дапамагаць і працаваць. Жартуючы, я называю іх вінаватымі ў тым, што здараецца... на сцэне. Яны, праўда, мяркуюць, што на сцэне з імі здараецца, пабальшыні сваёй адметнае і вартае. І я стараюся іх не расчароўваць.

**З Венедыктам РАСТРЫЖЭНКАВЫМ гутарыла Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота Аляксея МАЦЮША*

## "Прыбалтыйскі голуб" завітае на Беларусь



**1997 год у Фінляндыі аб'яўлены годам мастака Аляксандра Пятровіча Ахола-Вало. Яго творчы шлях пачынаўся ў Віцебску, а ўвогуле, Беларусь назаўсёды засталася яму родным домам.**

**У арганізацыі святаў прымаюць удзел музей АТЕНЕУМ (Хельсінкі), Артмузей, музей Ахола-Вало ў Хяменлінне. Выстава яго плануецца быць перасоўнай — Фінляндыя, Швецыя, Беларусь. Спадзяемся, што Віцебск і Мінск зноў дачакаюцца самога Аляксандра Пятровіча, якога называюць "прыбалтыйскім голубам". Актыўны стваральнік новага мастацтва дзеля ўдасканалення чалавека, пры дапамозе новых навуковых праграм, здольных актывізаваць дзейнасць чалавека, зрабіць яго цудоўным і таленавітым — вось мэты гэтага надзвычай цікавага вучонага, мастака, філосафа. У 1928 г. у Мінску А. Ахола-Вало стварыў творчую суполку пад назвай "Прамень", прапанаваў новы праект Дома вучонага, праект новай мастацкай майстэрні, у аснове якіх былі пакладзены ідэі дасягненні канструктараў-інтэр'ершчыкаў А. Татліна і інш., дзе промні сонечнага святла "ходзяць" за чалавекам увесь дзень. Прамень сонца ў тых канструкцыях будзіць чалавека, ідзе за ім у майстэрню, рухаючыся па небасхіле. Прынцып сонечнага гадзінніка на зямлі пры дапамозе канструкцый-вертыкаляў — вось адбітак ідэй ператтваральнікаў жыцця, адным з якіх з'яўляецца 97-гадовы мастак А. Ахола-Вало. Менавіта гэта ідэя пераўтварэння асяроддзя ў мастакоў-супрэматыстаў, кубістаў, прамяністаў, што жылі і працавалі на Беларусі ў 20-я гады, стала асновай творчых пошукаў мастацтвазнаўцы Людмілы Налівайкі, якая напісала гістарычную п'есу, прысвечаную мастацкаму жыццю Віцебска 1920 года. А. Ахола-Вало з'яўляецца адным з герояў п'есы, якая плануецца да пастаноўкі, і ёсць надзея, што на прэм'еры будзе прысутнічаць мастак.**



*На здымках: А. Ахола-Вало і Л. Налівайка ў Фінляндыі, 1994 г. "Сонца пераможа зло", 1935 г., Ахола-Вало.*

**Н. ШАРАНГОВІЧ**

*(Праця́г. Пачатак на стар. 8—9)*

У канцылярыі за сталом сядзеў Джанік — рахункавод, малады яшчэ хлопец, вярнуўся пасля вайны з Германіі, куды быў забраны недзе адразу, як прыйшлі немцы. Да вайны ён скончыў аж восем класаў,і цяпер у калгасе яго як знайшлі, каб пасадзіць у канцылярыю. Дувалаў і яму паказаў рукой, каб ачысціў канцылярыю. Джанік хмыкнуў і ціхенька зачыніў за сабой дзверы.

Дувалаў выцер пасля Джаніка рукой лаву за сталом і сеў на яго месца. Мне паказаў, каб я стаў пасярод хаты.

І — ні слова.

Доўга глядзеў на мяне, пераводзячы з босых ног да стрыжанай пад машынку галавы, строга, упіваючыся вачыма, як вывучаў. Тады зморшчыўся і, узяўшыся Дувалаў бразнуў шырокімі канцылярскімі дзвярыма і выйшаў.

Праз якую хвіліну, баючыся, я павярнуў галаву і паглядзеў у акно. Дувалаў пастаяў на бугры каля нямецкага матацыкла, тады падышоў да дарогі, што вяла да маста, стаў пасярод яе, расставіўшы ногі, і глядзеў на грэблю, на выганчык і на ліпы ў Кур'янаўскіх садах. Пасля зноў паправіў пад шырокім рамянём фалды і закурыў. Пацягнуўся, падняўшыся на бліскучыя насочкі ў ботах, і, выставіўшы ўперад рукі, узмахнуў імі, раз, другі, трэці... Неяк хутка і ўпарта.

Перад вачыма ў мяне раптам паявіліся ўчарашнія французжанкі, адна і другая — ідуць упобачкі, падымаючыся ад маста на грэблю, а над імі, апусціўшыся зверху, узмахнуў вялікімі растапыранымі крыллямі каршун...

калёсах, і капітан Дувалаў са сваім нямецкім матацыклам, і яго прыгожы круглы твар, і яго бліскучыя вочы, якія, здавалася, глядзяць адтуль, дзе схавалася за хмару поўня, сочаць увесь час, і яго прыгожы голас, які аж дрыжыць у калгаснай канцылярыі: "што гаварылі французжанкі?" — усё ў той міг здавалася нейкім зусім недарэчным і непатрэбным тут, у Жукаўшчыне...

Дыхнуў раптам вецер, недзе з-пад Рабога Калодзежа, густы, тугі, халодны, — змёў з неба пісклявых стрыжоў і закалыхаў елкі на ўзлессі. Зазвінела пад калясьмі павешанае, відаць, парожняе, вядро, і зашумеў лес. Пырснулі на твар дробныя кроплі вады, можа, з хмары, а можа, з павешанага пад калясьмі вядра...

# ФРАНЦУЖАНКІ

за чорны брыль, насунуў фуражку аж на самыя вочы.

— Ну дакладвай, джынджык, што гаварылі французжанкі... — сказаў ён нарэшце такім прыгожым голасам, як запеў... Чуў я яго першы раз.

Джынджыкамі ў нашым баку звалі хлопцаў-падлеткаў, такіх, як я. Дувалаў ведаў і гэта.

— Толькі ўсё начыстату. Ніякіх у мяне фіфці-міфці...

Мне раптам стала весела. І я, мусіць, усміхнуўся, бо заўсміхаўся капітан Дувалаў. Я не ведаў ніякіх французжанак. Так я адразу, не чакаючы, і сказаў:

— Я не ведаю ніякіх французжанак.

— Угу... А хто дагнаў іх ля ўчастка і праводзіў усю дарогу да вёскі? Абедзвюх... Ну, хто? Можа, Пушкін?

Мне тады адразу зрабілася горача-горача... Аж у баку павяло. Дык вось якія французжанкі... Хто бачыў? Хто нас згледзеў? Нікога ж нідзе больш не было. Нават сарока адстала ад мяне перад участкам...

— Ну вот... Сорамна стала, джынджык, што чырванню заліўся? Дакладвай, дакладвай... Я слухаю... — хуценька загаварыў Дувалаў.

— Я нават не ведаю, што гэта былі французжанкі...

— Што? Не назваліся? Не пазнаёміліся? Што ты скажаш...

— Ды я да іх нават не загаварыў... І словам не зачапіў... А самі яны гаварылі па-свойму...

— Ну і джынджык... — адваліўся да сцяны Дувалаў. — Ды яны і па-руску ўмеюць лепш за цябе... Ты мне брось.. Мы ж дагаварыліся — усё і начыстату... Ну, дык будзеш гаварыць праўду ці не?

Я ўжо думаў не пра французжанак, а ўсё пра тое, што нехта не толькі згледзеў мяне ў лесе на дарожцы, але і данёс куды трэба. Адразу ж. А можа, за імі сачылі ўвесь час — ішлі назіркам аж з-за ракі Віліі...

— Я слухаю... Слухаю... І запомні адразу... У нас ты не толькі загаворыш, а і запяеш. На ўвесь голас... — Дувалаў ужо не ўсміхаўся, устаў з-за стала, перавёў некалькі разоў пальцамі пад рамянём — загнаў лішні раз з жывата назад за спіну фалды гімнасцёркі — і пачаў хадзіць па хаце. Я нават чуў, як ён дыхае нечым гарачым.

— Нам важна ўсё... Нават кожнае слова... Ну-у... А яны не расказвалі пра свайго бацьку? Не ўспаміналі? Не гаварылі, чаму яны кінулі сваю Францыю і прыехалі сюды, да нас, у Жызнавы? У былую Заходнюю Беларусь? Разам з бацькам. Што бацьку на радзіму пацягнула? У такі галодны час усё кінуць і прыехаць? Ну-ну-ну... Гавары, пачынай, я памагу.

Дувалаў спыніўся ў мяне ззаду. Я не ведаў, што ён збіраецца рабіць — ударыць? — і баяўся: стараўся павярнуць галаву, каб яго згледзець.

— Ды не ведаю я ніякіх французжанак... Я не ведаў, што французжанкі... Я іх нават не зачапіў... — я пачаў блытацца і заікацца.

— Гэта мы ўжо чулі... Ну вось што... — Дувалаў падышоў блізка да мяне і пастукаў мне пальцам зверху па галаве. Моцна, аж забалела. — З месца не сыходзіць, стаяць... Вось так, калі язык прыкусіў... Будзеш стаяць і думаць. Думаць, думаць... Пра тое, што будзе, калі скажаш, і што будзе, калі не скажаш... Толькі мне без фокусаў...

Дувалаў, крутануўшыся раптам пасярод дарогі і пакінуўшы пасля бліскучых хромавых ботаў дзве ладныя ямкі, шоў хуценька ў хату, усё смаргаючы пальцамі пад рамянём.

У мяне затрасліся ногі.

— Ну вось што, джынджык... — Дувалаў цяпер стаў у мяне спераду і засунуў доўгія пальцы па баках пад рэмень. Думаў, доўга зыбаючыся на нагах. — Ідзі дамоў, сёння адпускаю. Ідзі — і нікому ні слова... Ясна? Нікому — ні бацьку, ні маці... Пойдзеш вечарам на варту да трактара — і Красоўскаму ні слова. Я віджу, што ты ўмееш дзяржаць язык за зубамі. Дзяржы, усё раскажаш толькі мне. І думай, думай... Мацъ тваю так... Знайшоўся мне... Фіфці-міфці з французжанкамі...

На вуліцы Дувалаў ажаргаў нямецкі матацыкл і, рвануўшы адразу да маста — аж кола пад каляскай было паднялося ад зямлі, — схаваўся адразу на грэблі ў старым альшэўніку. Не паехаў гэты раз у другі канец вёскі да Волькі — калгаснай брыгадзіркі.

У мяне закруцілася галава і я, каб не ўпасці на падлогу, ступіў і паспеў зачапіцца рукамі за лаву, што стаяла пры сцяне.

4

Вечарам у Жукаўшчыну да трактара мяне ўсю дарогу падганяла вялікая чорная з чырвона-сівымі падпалінамі хмара. У Жукаўшчыне можна было схавацца ад дажджу пад старасвецкімі елкамі ў Сырніцы, якраз дзе араў Красоўскі, — елкі каля поля былі высокія і да таго абвешаны густымі лапкамі, што, калі зайцы пад іх, не было відаць днём і сонца. На яловых лапках, прычапіўшыся кіпцюрамі, віселі днём кажаны — галовамі ўніз.

Хмара апускалася ўсё ніжэй і ніжэй да зямлі, прыцiскаючы сабой усё на свеце — плыла з-за Віліі, з Жызнавы, адкуль учора ішлі французжанкі.

Дзе яны цяпер? Куды пайшлі і ці вароча́ліся назад? І чаму пра іх пытаўся энкавэдзіст капітан Дувалаў?

Красоўскі ў Жукаўшчыне зрабіў за дзень толькі два прагоны — зганяў да Рабога Калодзежа і назад, да лесу пад Сырніцу. Пасля пралежаў увесь дзень, падсцяліўшы пад сябе фуфайку, пад трактарам, "рабіў падцяжку" і калупаўся ў "гробаным" маторы... Дамоў сабраўся злосны і ўвесь упэцканы ў мазут — "дзень у яго пайшоў кату пад хвост", а тут яшчэ хмара: трэба спяшыць, у дарозе застане лівень. Але сваёй "ватоўкі" ён не ўзяў, і яна, мокрая, у карасіне, пахла, як бочка і не хацела атрасацца ад наліплага пяску. Укруціць ногі сёння ноччу не было ў што...

Грымела за Віліёй, за лесам секлі неба маланкі, асвятляючы ўспышкамі вострыя вярхі елак. Над полем, нізка, над самай раллёй, пішчалі стрыжы, паласуючы неба і далёкі бярэзнік — лавілі мошку.

Цямнела раптоўна. Поўня, паказаўшыся ў прагале над Рабым Калодзежам, вялікая, чырвоная і цяжкая, схавалася адразу за хмары і больш не паказвалася. Бліскавіцы высвечвалі ў цемнаце гарбаты чорны трактар і дзве рудыя бочкі на калёсах.

І ў гэтыя хвіліны нейкага сіняга святла ад бліскавіц і гарбаты трактар, і бочкі на

За другім разам вецер сарваў пад калясьмі вядро і пакаціў яго па полі, пагнаўшы і мяне разам з вядром перад сабой пад старасвецкія елкі ў Сырніцы. Я толькі прыціснуў пад пахай фуфайку...

Сцямнела, нават трактара не было відаць зблізку з-пад елкі — зліўся з чарнатой. З гадзіну ўгары круціла, рвала, свістала і скуголіла... Забарабанілі па трактары буйныя кроплі дажджу з градам і адразу сціхлі...

Дождж у Жукаўшчыне так і не пайшоў — скруціла. Доўга яшчэ паласавалі неба бліскавіцы — недзе там, над Віліёй і над нашай вёскай; шумелі яшчэ елкі, кратаючыся, здавалася, аж ля зямлі, трашчала сухое сучча, крышылася і сыпалася зверху на галаву.

Пасля адразу зрабілася ціха — ні ветру, ні дажджу. Хмара сплыла — пайшла на Леснікі, Жукаўшчыну зачапіла толькі краем, пасвятлела, і над Рабым Калодзежам паказаўся акравак поўні. Угары над елкамі заблішчэлі мокрыя зоркі.

Знайшоўшы вядро, — падняў з верасу з-пад елкі, — я аднёс яго да калёс і зачапіў высака за ляжэйку. Трактар стаяў на загоне нейкі худы і стрыножаны, як зусім загнаны ў дарозе конь. Ад поўні заблішчэў цьмяна, як нехаця, вышараванымі зубамі на колах. Спаць сёння не хацелася. Каб звесці вочы, трэба было супакоіцца хоць на міг, а мяне душыла нейкая скрушлівая і калючая трывога... Я не ведаў, што рабіць. Сёння можна і не спаць, а заўтра што? Заўтра зноў прыедзе капітан Дувалаў...

Зашпіліўшы на ўсе гузікі фуфайку і насунуўшы на вушы старую суконную бацькаву кепку, я сеў на калёсы і прыціснуўся плячыма да бочкі. Зрабілася адразу холадна ў босыя ногі, — як ступаў па зямлі, было цёпла, а адараў — аж, здавалася, мерзлі. Але не хацелася ўстаць і дастаць з-пад трактара хоць мокрую "ватоўку" Красоўскага, — я ўвесь пачаў дрантвець, галава апусцілася на грудзі і зліпліся гарачыя павекі — сон падкраўся адразу і нечакана...

Але каб жа так: заснуў і прачнуўся аж раніцай... Як толькі галава звісала да грудзей, мяне нешта тоўхала з сярэдзіны, я ўздрыгваў і аж падскокваў на калёсах...

Пасвятлела, поўня выплыла з-за хмары і заліла белым сяйвом шырокае поле.

Над галавой паявіліся кажаны і залопалі крыллем. Здавалася цяпер, што на свеце адна белая, як малако, поўня і чорныя, як вугаль, кажаны...

Пасля кажаны апусціліся нізка-нізка, у іх павырасталі шырокія крылы — на ўсю Жукаўшчыну — і яны пачалі біць імі па плячах французжанак...

Калі я зноў зводзіў вочы, на полі ля бярэзніка паяўляліся французжанкі — ішлі ўпобачкі, не баючыся чарнаскурых кажаноў, якія зноў апускаліся на іх...

— А чаму ты босы? — пыталася ў мяне меншая, круглатварая, з вялікімі чорнымі вачыма і з касой французжанка. Яна зусім не баіцца чорных кажаноў, ідзе, нават не падымае на іх вачэй — глядзіць і глядзіць на мяне.

— А чаму ты стрыжаны пад машынку? А чаму ў цябе залатаныя на каленях штаны і такая старая-старая фуфайка? Што, пагарэла ўсё ў вайну? Разам з

